100 р.



а
543

І.Р. ЧЫКАЛАВА

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ТЭРМІНАЎ ПА АРХІТЭКТУРЫ, ВЫЯЎЛЕНЧЫМ І ДЭКАРАТЫЎНА-УЖЫТКОВЫМ МАСТАЦТВЕ

МІНСК 1993

115a
20643

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕДАГАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ

І.Р. ЧЫКАЛАВА

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ТЭРМІНАЎ ПА АРХІТЭКТУРЫ, ВЫЯЎЛЕНЧЫМ І ДЭКАРАТЫЎНА – УЖЫТКОВЫМ МАСТАЦТВЕ

МІнск 1993



Аўтар-складальнік І.Р. ЧЫКАЛАВА

Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета
Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта

Рэцэнзенты - загадчык аддзела эстэтыкі часопіса
"Мастацтва" В.С. Вайткевіч;
намеснік начальніка Упраўлення
навукі Міністэрства адукацыі РБ А.П.Рэўт

Прапануемы дапаможнік змяшчае асноўныя паняцці і тэрміны, уведзеныя аўтарам у апублікаваныя раней праграмы курсаў "Гісторыя сусветнай мастацкай культуры" /Мн., Экапрэс, 1991/ і "Гісторыя культуры Беларусі" /"Беларускі гістарычны часопіс", 1993, № 3/.



## УСТУПНАЕ СЛОВА

Прапануемы дапаможнік змяшчае падрабязнае тлумачэнне тэрміналогіі па архітэктуры, выяўленчым і дэкаратыўна-ужытковым мастацтве. Прыярытэт аддадзены тым паняццям і тэрмінам, якія найбольш часта сустракаюцца ў мастацтвазнаўчай літаратуры, але іх змест можа быць зусім невядомым для непадрыхтаванага чытача ці не да канца зразумелым. На гэтай падставе аўтарам адабраны 750 тэрмінаў.

Дапаможнік уключае матэрыял па асноўных галінах мастацтва, знаёміць з тыповымі для пэўнай эпохі мастацкімі кірункамі. Дае характарыстыку перыядам у гісторыі мастацтваў, якія вылучаюцца адзінствам вобразна-пластычнага ладу ў творах розных відаў мастацтва. У тлумачальным слоўніку асаблівая ўвага затрымліваецца на выразных асаблівасцях вызначальных рыс еўрапейскіх мастацкіх стыляў у пластычных мастацтвах Беларусі.

Дапаможнік уключае асноўныя паняцці і тэрміны, якія ўжываюцца пры апісанні таго ці іншага помніка архітэктуры, выяўленчага і дэкаратыўна-ужытковага мастацтва. Дакладныя і адначасова даходлівыя азначэнні дадзены для спецыяльных тэрмінаў, звязаных з тэхнікай, прыёмамі выканання твораў мастацтва і да т.п.

Дапаможнік багата насычаны ілюстрацыйным матэрыялам з беларускай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны, што робіць яго асабліва каштоўным для карыстання ў педагагічнай практыцы. Апрача таго, тлумачальны слоўнік тэрмінаў па архітэктуры, выяўленчым і дэкаратыўна-ужытковым мастацтве спатрэбіцца кожнаму, хто цікавіцца пытаннямі культуры і мастацтва.

## А

АБЕЛІСК (грэч. obeliskos — ражон) — каменны, прамавугольны, звычайна звужаны да верху слуп з пірамідальна- завостраным завяршэннем, які ставіцца ў памяць аб значных падзеях. Упершыню з"явіўся ў старажытным Егіпце. На Беларусі А. узводзіліся з ХУІІІ ст. Найболыш значнымі ў архітэктурна-мастацкіх адносінах з"яўляюцца А. у памяць аб разгроме напалеонаўскіх войск пад Віцебскам (у Віцебску, Верхнядзвінску і в. Вароны Віцебскага р-на — усе 1912 г.) і А. ў гонар подзвігаў савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны (Манумент Перамогі ў Мінску, А. ахвярам фашысцкага тэрору каля в. Вялікі Трасцянец Мінскага раёна і інш.).

АБЛАМ, забарол — невысокі бруствер (каля 1,5 м) над абарончымі сценамі і в е ж а м і драўляных з а м к а ў Беларусі ў ХУІ--ХУІІ стст., які служыў пагрудным прыкрыццём для абаронцаў.

АБЛІЦОЎКА — пакрыцце паверхняў элементаў будынкаў, збудаванняў плітачным ці ліставым матэрыялам. Прызначана для іх засцярогі і упрыгожвання.

АБЛОМ архітэктурны — архітэктурны профіль у выглядзе паліцы, абцасіны і г.д., архітэктурна-пластычная дэталь поўнага папярэчнага сячэння. Яна можа быць размешчана па гарызанталі, як ц о к а л ь, к а р н і з, ц я г а, б а з а, нахіленай лініі, напрыклад, у к а р н і з а х ф р а н т о н а ў, мець крывалінейную ( а р х і в о л ь т ы а р а к ) або ломаную форму — абрамленне вокан, п а р т а л а ў.

АБРАЗ, ікона — 1) У хрысціянскай рэлігіі (праваслаўнай, каталіцкай, уніяцтве) выява Ісуса Хрыста, Маці Боскай, святых, сцэн з Свяшчэннага пісання, якому царква надае свяшчэнны характар; 2) Твор спецыфічнага віду мастацтва, і к а н а п і с у, які мае культавае прызначэнне. Іканапісныя каноны ўзыходзяць да візантыйскіх узораў. На тэрыторыі Беларусі а. з"явіліся пад уплывам візантыйскага мастацтва ў Х--ХІ стст. Гл.: БЕЛАРУСКАЯ ІКАНАПІСНАЯ ШКОЛА.

АБРАШОТКА — драўляны насціл, да якога прымацоўваецца дахавы матэрыял (дахавая бляха, чарапіца і г.д.).

АБРЫС (ням. Abriß — нарыс, чарцёж) — 1) У архітэктуры — назва чарцяжа, плана збудавання ў ХУІІ — 1-ай палове ХУІІІ ст. Сярод вядомых на Беларусі прыкладаў А. чарцяжы архітэктурных збудаванняў ХУІІ ст. Б. Радзівіла; 2) у выяўленчым мастацтве — гл. к о н т у р.



АБРАЗНАЯ ГРАВЮРА — гл. КСІЛАГРАФІЯ

АБСТРАКЦЫЯНІЗМ, абстрактнае мастацтва (ад лац. abstractio — адцягненне), беспрадметнае мастацтва — адна з галоўных плыняў м а д э р н і з м у. Яе адметная рыса — адмаўленне ад вобразнасці, якая заўсёды была асновай м а с т а ц т в а. А. не адлюстроўвае ніякіх рэальных прадметаў, чаму ён часта называецца беспрадметным альбо нанфігуратыўным мастацтвам. Адцягнены вобраз у а. мастацтве будуецца лініяй, плямай, колерам, геаметрычнымі плоскасцямі і аб"ёмамі. Першым асноўныя палажэнні а. выказаў В. Кандзінскі (1866--1944) ў працы "Аб духоўным у мастацтве". Ён жа стварыў першыя абстрактныя а к в а р э л і (1910). Следам за В. Кадзінскім свае варыянты А. стварылі М. Ларыёнаў з Н. Ганчаровай — прамянізм, Татлін — канструктывізм і К. Малевіч (у 1919--1922 працаваў у Віцебску) са сваёй уласнай сістэмай абстрактнага жывапісу, якую назваў с у п р э м а т ы з м. "Чорны квадрат" К. Малевіча стаў візуальным маніфестам новага напрамку. Але не толькі рускія мастакі, увесь сусветны жывапісны а в а н г а р д у першае дзесяцігоддзе ХХ ст. няўхільна рухаўся ў бок беспрадметнасці, нанфігуратыўнасці. Французскія кубісты (гл. КУБІЗМ) непасрэдна падышлі да гэтай мэты, але не рызыкнулі зрабіць апошні крок. Галандскі мастак П. Мандрыян (1872--1944) ствараe свой напрамак у А. — н е а - п л а с т ы ц ы з м і становіцца яшчэ адным з заснавальнікаў А. Наступная хваля А. узнікла ў ЗША пасля Другой сусветнай вайны; асноўная ўвага ўдзялялася неўсвядомленым момантам у мастацкай творчасці. Асабліва вядомым сярод іх быў Дж. Полак (1912--1956).

А. аказаў значны ўплыў на сучасны жывапіс, яго знаходкі выкарыстоўваюцца ў дызайне, афармленчым мастацтве, у тэатры, кіно, на тэлебачанні.

АБ"ЕКТ — У в ы я ў л е н ч ы м м а с т а ц т в е: А. — выстаўленыя для агляду прадметы, якія, з пункту погляду аўтара, маюць эстэтычную і мастацкую каштоўнасць.

АВАНГАРДЫЗМ (франц. avant-gardisme ад avant наперадзе + garde варта) — умоўная назва мастацкіх кірункаў ХХ ст., для якіх характэрны імкненне да карэннага аднаўлення мастацкай практыкі, разрыў з устаноўленымі прынцыпамі

і традыцыямі, пошукі новых, незвычайных тэм, сродкаў выяўлення і форм твораў, узаемаадносін мастакоў з жыццём. Рысы А. праявіліся ў шэрагу школ і плыняў м а д э р н і з м у, такіх, як ф а в і з м, к у б і з м, ф у т у р ы з м, э к с п р э с і я н і з м, с у п р э м а т ы з м, д а д а і з м, с ю р р э а л і з м, а б с т р а к т н а е   м а с т а ц т в а і інш. На Беларусі цэнтрам А. пошукаў стаў г. Віцебск пасля прыезду туды ў 1918 г. К. Малевіча і яго паплечнікаў. Разам з усталяваннем у мастацтве метада с а ц ы я л і с т ы ч н а г а   р э а л і з м у як адзінага ў савецкім м а с т а ц т в е мастакі-авангардысты былі вымушаны працаваць ва ўмовах падполля. Выстаўляць свае працы яны пачалі толькі пасля 1985 г. Большасць маладых мастакоў Беларусі прытрымліваецца розных накірункаў А.

АДБІ́ТАК — завершаны твор мастацкай г р а ф і к і, гравюрны або літаграфічны ліст.

АДРАДЖЭ́ННЕ, Рэнеса́нс — эпоха ў культурным і ідэйным развіцці шэрагу краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, а таксама некаторых краін Усходняй Еўропы. Асноўныя рысы антыфеадальнай у сваёй аснове культуры А.: свецкі характар, гуманістычны светапогляд, зварот да антычнай культурнай спадчыны, у сваім родзе "адраджэнне" яе (адсюль і назва). Храналагічныя рамкі А. ў розных краінах неаднолькавыя (у Італіі — ХІУ—ХУІ стст., у іншых краінах — ХУ—ХУІ стст.). А. узнікла і яскравей за ўсё праявілася ў Італіі. Наступнае распаўсюджанне мастацкіх прынцыпаў А. ў Францыі, Нідэрландах, Германіі, Англіі і іншых краінах Еўропы адбывалася ў значнай меры пад уплывам італьянскага мастацтва. Галінамі, у якіх з асаблівай нагляднасцю праявілася пераломнае значэнне эпохі А. з"явіліся а р х і т э к т у р а і в ы я ў л е н ч а е   м а с т а ц т в а. У выяўленчым мастацтве асаблівае значэнне набывае п а р т р э т, квітнее м а н у м е н т а л ь н ы   ж ы в а п і с і   м а н у м е н т а л ь н а я   с к у л ь п т у р а. Майстрам, які адкрыў новую эпоху ў мастацтве, быў Джота. Але шырокае распаўсюджанне новыя прынцыпы атрымліваюць толькі ў ХУ ст., г.зн. у эпоху Р а н н я г а А. (буйнейшыя майстры — архітэктары Ф. Брунелескі, Л.Б. Альберці, скульптар Данатэла, жывапісцы Мазача, П. дэла Франчэска, Мантэнья, С. Батычэлі і інш.). У канцы ХУ — першай палове ХУІ ст. складаецца велічны сінтэтычны стыль В ы с о к а г а А.



Вялікія майстры гэтай эпохі — Леанарда да Вінчы, Рафаэль, Мікеланджэла, Ціцыян. У цэлым мастацтва А. — адна з найвышэйшых вяршынь сусветнага мастацкага развіцця. Крызіс культуры А. прадэманстравалі   м а н ь е р ы з м   і   б а р о к а.

У іншых краінах Еўропы мастацтва А. складваецца некалькі пазней, чым у Італіі, і носіць у кожнай свой нацыянальны характар. На Беларусі, якая ўваходзіла ў Вялікае княства Літоўскае, эканамічныя, сацыяльна-палітычныя і ідэалагічныя перадумовы для культуры А. азначыліся ў ХУ — ХУІ стст. Робяцца першыя спробы комплекснай рэканструкцыі гарадоў на аснове рэгулярнага плана (Нясвіж, Быхаў, Слуцк, Рэчыца і інш.). Развіваецца свецкая і культавая   а р х і т э к т у р а, якая траціць суровыя абарончыя рысы (ратуша і замкавая брама ў Нясвіжы). Своеасаблівасць с т ы л ю А. ў беларускай архітэктуры заключалася ў тым, што ён спалучаўся з элементамі г о т ы к і (з а м а к   у г.п. Мір Карэліцкага раёна, ц а р к в а ў в. Сынковічы Зэльвенскага раёна.   У тагачасным   в ы я ў л е н ч ы м   м а с т а ц т в е   уздзеянне А. яскрава адлюстравалася ў пашыраным на Беларусі парадным (сармацкім) п а р т р э ц е, у д р э в а р ы т а х выданняў Ф. Скарыны.

АДЦЕ́ННЕ — у   в ы я ў л е н ч ы м   м а с т а ц т в е   невялікае, ледзь прыкметнае адрозненне ў колеры ці святлаценні паміж двума роднаснымі   т а н а м і.

АКАДЭМІ́ЗМ (франц. académisme ) — кірунак у мастацтве, які склаўся ў мастацкіх   а к а д э м і я х ХУІ—ХІХ стст. і заснаваны на дагматычным прытрымліванні знешніх форм класічнага мастацтва. А. узнік у канцы ХУІ ст. у Італіі, дзе Балонская школа выпрацавала правіла наследвання мастацтву а н т ы ч н а с ц і   і   В ы с о к а г а   А д р а д ж э н н я. А. садзейнічаў сістэматызацыі мастацкай адукацыі, замацаванню класічных традыцый (гл. КЛАСІЦЫЗМ), якія ператвараліся ў сістэму "вечных к а н о н а ў". А. лічыў, што сучаснае жыццё не вартае "высокага мастацтва", і проціпастаўляў яму надчасавыя і наднацыянальныя нормы прыгажосці, ідэалізаваныя вобразы, далёкія ад рэальнасці сюжэты з антычнай гісторыі, Бібліі.

Тэрмін А. ўжываецца і больш шырока — усякая кананізацыя мастацкіх ідэалаў і прынцыпаў мінулага.

АКАДЭ́МІЯ (грэч. academeia ) — у Старажытнай Грэцыі азначала парк у паўночна-заходняй частцы Афін, дзе прагульваўся

Платон са сваімі вучнямі, праводзячы доўгія гадзіны ў філасофскіх гутарках. Разам з вяртаннем цікавасці да філасофіі ў эпоху А д р а д ж э н н я ў Італіі (ХУ ст.) было прынята слова А., якое абазначала філасофскі гурток, што аб"ядноўваў вучоных і эстэтыкаў (акадэмія Марцылія Фічына пры двары Медычы). Першыя А у значэнні мастацкай школы жывапісу былі створаны ў 1190 г. у Фларэнцыі і Мілане. Галоўным у абедзвюх акадэміях было вывучэнне антычнасці (адсюль пачалася традыцыя капіравання твораў антычных майстроў). У 1563 годзе ў Фларэнцыі Д. Вазары заснаваў Акадэмію малюнка, а ў 1577 г. у Рыме ўзнікае А. Св. Лукі, праграмамі якой па падрыхтоўцы мастакоў карысталіся іншыя А. аж да XIX ст.

З вядомых А. мастацтва ў пэўнай паслядоўнасці былі заснаваны наступныя: Каралеўская акадэмія жывапісу і скульптуры ў Парыжы (1648 г.), перайменаваная ў Акадэмію выяўленчых мастацтваў (1816 г.), якая стала правобразам А. у Вене (1692), Берліне (1696), Пецярбургу (1757), Лондане (1768), Празе (1800). У 1991 г. Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут пераўтвораны ў Акадэмію мастацтваў.

АКА́НТ, ака́нф (франц. *acanthe* ад грэч. *akanta*) — у архітэктуры арнаментальна-дэкаратыўны элемент аздаблення ф а с а д а ў і і н т э р " е р а ў будынкаў і збудаванняў у выглядзе ліста аканта (расліны, шырока распаўсюджанай у Міжземнамор"і). На Беларусі пашыраны А. ў а р х і т э к т у р ы р э н е с а н с у, б а р о к а, к л а с і ц ы з м у і нашага часу.

АКВАРЭ́ЛЬ (франц. *aquarelle* ад італьян. *acquerello* ад лат. *aqua* — вада) — 1) "вадзяныя фарбы", фарба, якая разводзіцца вадой (акварэльная фарба, акварэль); 2) тэхніка ж ы в а п і с у, які выконваецца вадзянымі фарбамі. Важнейшая ўласцівасць а. жывапісу — празрыстасць, мяккасць тонкага фарбавага слою. А. жывапіс стаў шырока ўжывацца ў пачатку ХУ стагоддзя. У ХУ--ХУІІ стст. А. служыла пераважна для расфарбоўкі г р а в ю р, чарцяжоў, э с к і з а ў карцін і ф р э с а к. На Беларусі ў ХУ ст. А. ужывалася ў м і н і я ц ю р а х Радзівілаўскага летапісу, у ХУІ--ХУІІІ стст. выкарыстоўвалася для расфарбоўкі г р а в ю р. Гэта датычыцца і графюр у выданнях Ф. Скарыны. Добра вядомы акварэльныя выявы п о м н і к а ў беларускага д о й л і д с т в а, выкананыя Ф. Смуглевічам. М.Львовым, М. Івановым (ХУІІІ ст.). У XIX--XX стст. у а. жывапісе працавалі Л. Альпяровіч, Я. Дамель, Ф. Рушчыц, В. Волкаў, І. Кудрэвіч, І. Сухаверхаў, В. Цвірка, І. Пратасеня і інш.



АКВАТЫ́НТА (італьян. *aquatinta* ад лац. *aqua* — вада, *tinta* — колер) — в і д п а г л ы б л е н а й г р а в ю р ы. Падагрэтая металічная пласціна пакрываецца смалістым парашком (здробненай жывіцы). Асобныя зерні прылілаюць да цёплага металу і адно да аднаго. Пры траўленні кіслата пранікае толькі ў поры паміж асобнымі парушынкамі, пакідаючы на дошцы след у выглядзе масы асобных паглыбленняў.

АКРАТЭ́РЫЙ (грэч. *akroterion* вяршыня, ф р а н т о н) — упрыгажэнне над франтонамі ў выглядзе с к у л ь п т у р ы, трыножніка, п а л ь м е т ы і інш. На Беларусі А. вядомы у культавай (Гродзенскі фарны касцёл) і грамадзянскай а р х і т э к т у р ы (Гродзенскі палац Тызенгаўза, Палац культуры прафсаюзаў у Мінску).

АКТ — у выяўленчым мастацтве адлюстраванне аголенага чалавечага цела.

АЛА ПРЫ́МА (вымаўл. — "аля прыма") — 1) тое ж, што ж ы в а п і с п а с ы р ы м; 2) спосаб выканання за адзін прыём, за адзін сеанс.

АЛЕАГРА́ФІЯ (ад лац. *oleum* — алей і грэч. *graphō* — пішу, малюю) — устарэлая назва каляровай л і т а г р а ф і і, разлічанай на рэпрадуктаванне а л е й н а г а ж ы в а п і с у.

АЛЕГО́РЫЯ (ад грэч. *allēgoria* — іншасказанне) — выказанне, адлюстраванне адцягненай думкі, ідэі, паняцця у канкрэтным вобразе. Напрыклад, правасуддзе паказваецца у выглядзе жанчыны з павязкай на вачах, вагамі і мячом. А. шырока выкарыстоўвалася у м а с т а ц т в е А д р а д ж э н н я, м а н ь е р ы з м у, б а р о к а, р а к а к о, к л а с і ц ы з м у.

АЛЕ́ЙНЫ ЖЫВАПІС — найважнейшая і найбольш распаўсюджаная разнавіднасць жывапіснай тэхнікі, калі сухія фарбавыя пігменты разводзяцца на эфірным ці раслінным алеі і лаках. Пасля высушвання яны даюць бліскучую, свежую яркую паверхню. Алейная тэхніка дазваляе выкарыстоўваць розныя прыёмы пісьма — ад шырокага, цвёрдага, размашыстага мазка да найбольш тонкага, мяккага, амаль празрыстага. Тэхніка А. ж. вядома з X ст., шырокае ўжыванне атрымала з канца ХУ ст., пасля ўдасканалення яе Янам

Ван-Эйкам. На Беларусі А.ж. вядомы з пачатку ХУІ ст. Зараз у тэхніцы А.ж. працуе пераважная большасць жывапісцаў.

АЛО́ВАК -- стрыжань з вугалю, свінцу, графіту або сухой спрасаванай фарбы. Звычайна змешчаны ў драўляную, металічную ці іншую аправу і прызначаны для пісьма, малявання, чарчэння.

АЛО́ВАК ІТАЛЬЯ́НСКІ -- вынайдзены ў Італіі ў ХУ ст. Зроблены ім малюнак вызначаецца надзвычайнай сакавітасцю, як пры выкананні в у г а л е м.

АЛО́ЎКАВАЯ МАНЕ́РА -- разнавіднасць п а г л ы б л е н а й г р а в ю р ы на метале, якая імітуе малюнак а л о ў к а м, с а н г і н а й, п а с т э л л ю. Працраўленыя ў метале штрыхі ствараюць падабенства з алоўкавай лініяй. Гл.: ГРАВЮРА

АЛТА́Р, аўтар (лац. -- *altaria* ад *altus* -- высокі), ахвярнік -- памост або тып каменнага стала, які служыць для правядзення ахвярапрынашэння. У Старажытнай Грэцыі і ў Рыме А. ўстанаўліваліся звонку каля х р а м а ў і часта упрыгожваліся мармуровай с к у л ь п т у р а й. У хрысціянскім храме А. знаходзіцца ўнутры памяшкання і мае форму стала, скрыні або саркафага, верхняя накрыўка якога пакрыта тонкай тканінай. У праваслаўнай ц а р к в е алтарная частка аддзелена ад вернікаў алтарнай перагародкай ці і к а н а с т а с а м. У каталіцкай царкве А. адкрыты для агляду з усіх бакоў. Нярэдка А. называюць усю ўсходнюю (алтарную) прастору царквы, дзе адбываюцца таінствы набажэнства. На Беларусі зберагліся драўляныя А. пачатку ХУІІ ст., пабудаваныя на аснове рэнесансных архітэктурных форм.

АЛТА́РНЫ АБРА́З, алтарная карціна -- разнавіднасць а б р а з а, пашыранага ў краінах з каталіцкім веравызнаннем. Размяшчаўся ў а л т а р ы. На Беларусі з"явіўся ў ХІУ--ХУІ стст. разам з укараненнем каталіцызму і будаўніцтвам касцёлаў. Самы ранні з вядомых А. а. на Беларусі -- "Пакланенне трох каралёў" з Браслаўскага р-на (у Музеі стараж.-бел. культуры).

АЛЬКО́Ў, алько́ва (франц. *alcôve*) -- заглыбленне, н і ш а ў сцяне для ложка, канапы і да т.п. Звычайна неасветленая, бо служыла дадаткам да спальнага пакоя. На Беларусі пашырылася ў палацавым будаўніцтве ХУІІІ ст. (палацы ў Нясвіжы, в. Радзівілімонты Клецкага раёна і інш.).

АЛЬ ФРЭ́СКА -- гл. А ФРЭСКА.

АМБО́Н, амбо́на (ад грэч. *ambōn* -- узвышэнне) у храме -- узвышанае месца (кафедра) перад а л т а р о м, з якога чытаюць казанні, тэксты з Бібліі. У храмах Візантыі А. знаходзіўся пад цэнтральным к у п а л а м. У ХУІ ст. на Беларусі сфарміраваўся найбольш пашыраны тып А., які складаецца з корпуса (чашы), тыльнага шчыта і балдахіна.



АМПІ́Р (ад франц. *empire* -- імперыя) -- стыль у мастацтве пачатку ХІХ ст., які ўзнік у Францыі ў перыяд імперыі Напалеона І і распаўсюдзіўся ў Заходняй Еўропе і Расіі; у а р х і т э к т у р ы выкарыстоўвае элементы ранняга егіпецкага і грэчаскага мастацтва; у дэкаратыўных упрыгажэннях пераважаюць ваенныя трафеі, лаўровыя вянкі, у мэблі -- матывы крылатых сфінксаў і звярыных лап у выглядзе ножак і ручак і г.д. У пач. ХІХ ст. а. меў месца ў архітэктуры і д э к а р а т ы ў н а - п р ы к л а д н ы м м а с т а ц т в е Беларусі, захоўваючыся ў асобных элементах аж да пачатку ХХ ст. (Петрапаўлаўскі сабор і "Дом паляўнічага" ў Гомелі; асабняк у Слоніме, палац у Снове Нясвіжскага раёна; фасад палаца ў Нясвіжскім замку і інш.).

АМФІПРАСТЫ́ЛЬ -- такі тып старажытнагрэчаскага х р а м а (параўнальна часта сустракаецца), які ўяўляе сабой нібы двайны п р а с т ы л ь: п о р ц і к і з чатырма к а л о н а м і знаходзяцца і на пярэднім, і на заднім ф а с а д а х.

АМФІТЭА́ТР (грэч. *amphithéatron*) -- у старажытных грэкаў і рымлян збудаванне ў форме эліпса для пастановкі тэатральных відовішчаў. Кампазіцыйна складаўся з трох частак: амфітэатра -- месцаў для гледачоў, якія размяшчаліся паўкругам уступамі на прыродным схіле ўзгорка; архестры -- пляцоўкі для размяшчэння хору і акцёраў; скены -- пастаяннай архітэктурнай дэкарацыі. Буйнейшым з А. з"яўляецца амфітэатр Флавія, або Калізей (ад лац. *Collosei* -- гіганцкі, велічэзны), які быў пабудаваны ў 75--80 гг. да н.э. і захаваўся ў Рыме да нашых дзён. Арэна Калізея, якая нагадвае вялікую плошчу старога горада, прызначалася для баёў гладыятараў і цкавання дзікіх жывёл; 2) у сучасных тэатрах, цырках, канцэртных залах і да т.п. -- рады крэслаў, размешчаных за партэрам (звычайна вышэй яго).

АНДАГРА́ЎНД -- тэрмін, які ўзнік у 70--80 гг. ХХ ст. як характарыстыка "бунтаўніцкага" мастацтва ў СССР, што супрацьстаяла афіцыйнаму мастацтву сацыялістычнага рэалізму і было вымушана з-за афіцыйных праследаванняў існаваць падпольна (ад ням. *under* -- пад + *grund* аснова, зямля) неафіцыйна. Многія з мастакоў былога савецкага А. былі вымуша-

ны эмігрыраваць і зараз працуюць на Захадзе (Комар,Меламід, Э. Булатаў, М. Шамякін, А. Цалкоў — усе з Масквы, Б. Заборау, М. Паўлоўскі, В. Мартынчык, В. Баброў, Г. Хацкевіч — усе з Мінска).

АНІМАЛІСТЫЧНЫ ЖАНР (ад лац. animal — жывёла), жанр у мастацтве, да якога адносяцца творы ж ы в а п і с у, с к у л ь п т у р ы, г р а ф і к і, д э к а р а т ы ў н а - п р ы к л а д н о г а і н а р о д н а г а м а с т а ц т в а, адлюстроўваючыя жывёл. Заснавальнікі А.Ж. — галандскія мастакі ХУІІІ ст. А. Кейп і П. Потэр. Першым анімалістам у Расіі быў у ХУІІІ ст. І.Ф. Граот. Мастака, які спецыялізуецца ў дадзеным жанры, называюць анімалістам.

Анімалістычныя матывы у Беларускім мастацтве вядомы з ХУІ ст.: г р а в ю р ы у Біблії Ф. Скарыны"Самсон і леў", "Даніїл з ільвамі"; ілюстрацыі да "Евангелля" у Пятра Мсціслаўца. У сучасным беларускім мастацтве А.ж. прадстаўлены работамі В. Ціхановіча, М. Беляніцкага, Г. Лойкі, Ю. Зайцава, А.Лось, Н. Паплаўскай і інш. мастакоў.

АНСАМБЛЬ (франц. ensemble — літаральна — разам, адразу) — узаемная дапасаванасць (узгодненасць), стройнае адзінства частак, якія утвараюць нешта цэлае, напрыклад, архітэктурны ансамбль.

АНТАБЛЕМЕНТ (франц. entablement ад table стол, дошка) — верхняя гарызантальная частка збудавання, якая абапіраецца на к а л о н ы ці сцены. Складаецца з трох гарызантальных элементаў: а р х і т р а в а, ф р ы з а і к а р н і з а. Бывае няпоўны А. без фрыза. Сфарміраваўся ў класічных о р д э р а х манументальнай а р х і т э к т у р ы старажытнай Грэцыі і Рыма. А. выкарыстаны як завяршальная частка сцен Палаца культуры Белсаўпрофа ў Мінску.

АНТРЭСОЛЬ (франц. entresol ) — І) верхняя частка памяшкання, падзеленага на два паўпаверхі; 2) верхні нізкі паверх (мезанін). На Беларусі А. вядомы ў палацавым будаўніцтве з ХУІ ст., шырока выкарыстоўваюцца ў сучасных інтэр"ерах грамадскіх пабудоў; 3) у сучасным жылым доме — паліца пад столлю кватэры.

АНТЫЧНАЕ МАСТАЦТВА (ад лац. antiquus — старажытны) — мастацтва старажытных высакаразвітых рабаўладальніцкіх дзяржаў Міжземнамор"я і Пярэдняй Азіі ў І тысячагоддзі да н.э. (Грэцыя і эліністычныя дзяржавы, Рымская рэспубліка) і ў І-ай палове першага тысячагоддзя н.э. (Рымская імперыя). Этапы А.м.: І) архаіка, 2) класіка, 3) элінізм, 4) рымскае мастацтва (яно таксама падзяляецца на некалькі стадый). Росквітам а.м. з"яўляецца перыяд грэчаскай класікі (У—ІУ стст. да н.э.).



АНФІЛАДА (франц. anfilade ) — шэраг унутраных памяшканняў (залаў, двароў), якія звязаны паміж сабою дзвярнымі праёмамі, размешчанымі на адной восі паралельна ф а с а д у, дзякуючы чаму ствараецца глыбінная кампазіцыя і н т э р " е р а. Анфіладная будова выкарыстоўваецца са старажытных часоў (х р а м ы Старажытнага Егіпта, форумы антычнага Рыма), атрымала распаўсюджанне ў палацавых будовах эпохі к л а с і ц ы з м у (палацы Луўра, Вярсаля, Пецярбурга), у сённяшні час выкарыстоўваецца пры будаўніцтве выставачных і музейных залаў. Прыкладамі А. планіроўкі з"яўляецца Гальшанскі палац, Нясвіжскі палацава-замкавы комплекс, Жыліцкі палац.

АПАЛУБКА — драўляная разборная форма, якую ўжываюць у час бетонных работ.

АПОРА — элемент збудавання, які падтрымлівае тыя яго часткі, што ляжаць вышэй.

АПЛІКАЦЫЯ (ад ла . applicatio — прыкладванне) — у д э к а р а т ы ў н а-ў ж ы т к о в ы м м а с т а ц т в е спосаб стварэння а р н а м е н т а ў або мастацкіх адлюстраванняў шляхам наклейвання або накладвання рознакаляровых кавалачкаў тканіны, паперы, саломы і да т.п. на матэрыял іншага колеру або вырабу, а таксама малюнак, створаны такім спосабам. На Беларусі А. здаўна шырока ўжываецца ў народным мастацтве для аздаблення бытавых рэчаў, адзення, дываноў.

АПСІДА, абсіда (ад грэч. hapsis (hapsidos ) — скляпенне) — выступ на усходнім ф а с а д з е х р а м а, паўкруглы або шматвугольны ў плане, перакрыты паўкупалам або самкнутым паўсводам (конхай). Ва унутранай прасторы храма з"яўляецца часткай а л т а р а. На Беларусі А. вядомы ў манументальных культавых будынках ХІ—ХІІ стст. (Полацкі Сафійскі сабор, Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква, Мураванкаўская царква-крэпасць, Ружанская Петрапаўлаўская царква, Навагрудскі касцёл францысканцаў і інш.).

АРАБЕСКА (франц. arabeques ад італьян. arabesco — арабскі) — гэтым паняццем з ХУІІ ст. абазначаюцца скульптур-

ныя, мазаічныя або жывапісныя арнаментальныя к а м п а з і ц ы і, складзеныя на падставе прадметных, раслінных, гратэскных, сімвалічных або іншых матываў, падпарадкаваных адзінаму геаметрычнаму парадку. А. даволі часта выкарыстоўваліся ў беларускім д э к а р а т ы ў н а - у ж ы т к о в ы м м а с т а ц т в е, і н т э р "е р а х к а с ц ё л а ў у перыяд з XУI па XIX ст.

АРКА (ад лац. *arcus* — дуга, выгін), выгба, аблук — дугападобнае перакрыццё праёмаў у сцяне (акон, варот, дзвярэй) або праёмаў між дзвюма апорамі. На Беларусі арачныя канструкцыі з"явіліся ў XI--XII стст.

АРКА ТРЫУМФАЛЬНАЯ, вароты трыумфальныя — асобна пабудаваныя манументальныя вароты з адным або трыма праёмамі, узведзеныя ў гонар знамянальных падзей. З"явіліся ў антычным Рыме. Па іх тыпу былі ўзведзены А.т. у Пецярбургу (Нарвскія трыумфальныя вароты, 1827--1834 гг. арх. У.П. Стасаў; арка былога Галоўнага штаба на Дварцовай плошчы, 1819--1829 гг. арх. К.І. Росі) і інш. На Беларусі (Нясвіж, Магілёў, Шклоў) часовыя драўляныя А.т. будаваліся ў XУIII — пач. XIX ст. магнатамі для святочных урачыстасцей.

АРКАДА (франц. *arcade*) — шэраг роўных па велічыні а р а к, якія абапіраюцца на слупы або к а л о н ы. А. з"явіліся ў а р х і т э к т у р ы старажытнага Рыма. У архітэктуры Беларусі савецкага перыяду А. выкарыстаны як асноўныя элементы к а м п а з і ц ы і галоўнага ўваходу стадыёна "Дынама" ў Мінску, мастоў цераз р. Свіслач (на праспекце Ф. Скарыны ў Мінску і Зах. Дзвіну (па праспекце Кірава ў Віцебску).

АРКАТУРА (ням. *arcatur*), аркатурны пояс — шэраг глухіх падманных а р а ч а к, якія служаць выключна для упрыгажэння сцяны. Узнікла ў раманскай а р х і т э к т у р ы ў X--XIII стст. Як элемент дэкаратыўнай апрацоўкі сцяны А. пояс прымяняўся ў старажытнарускім дойлідстве (Дзмітрыеўскі і Успенскі саборы ва Уладзіміры, царква Пакрова-на-Нерлі — XII ст.). На Беларусі вядома ў мураваных цэрквах XII ст. (Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква, храмы Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра), у пабудовах стылю г о т ы к і і р э н е с а н с а (Лідскі замак, Мірскі замак, Навагрудская Барысаглебская царква, Смаргонскі кальвінскі збор), у несапраўднай готыцы і псеўдарускім стылі (Сар"еўскі касцёл, Гервяцкі касцёл, Мінскі чырвоны касцёл).



АРКБУТАН (франц. *arc-boutant*). — вонкавая каменная паўарка, якая перадае цяжар с к л я п е н н я ў гатычнага х р а м а апорным слупам, якія размешчаны за межамі асноўнага аб"ёму будынка. Адыгрывае таксама дэкаратыўную ролю ў а р х і т э к т у р ы будынка. А. з"явіліся ў мураваным д о й л і д с т в е заходнееўрапейскай г о т ы к і ў XI ст. На Беларусі выкарыстанне А. пашырылася ў канцы XIX — пачатку XX ст. у архітэктуры несапраўднай готыкі.

АРТДЗІЛЕР (ад англ. *art* — мастацтва + *dealer* — пасрэднік) — чалавек, які ажыццяўляе пасрэдніцкія функцыі паміж мастаком і пакупніком твораў мастацтва, часткова займаецца рэкламаваннем твораў мастацтва і прадстаўляе пры гэтым інтарэсы майстра перад г а л е р э я м І І прыватнымІ асобамІ.

АРХАІКА (ад грэч. *archaikos* — старадаўні, старажытны) — ранні этап у развіцці якой-небудзь з"явы. У мастацтвазнаўстве тэрмін А. ужываецца ў адносінах да ранняга перыяду развіцця мастацтва Старажытнай Грэцыі (УІІ--УІ стст. да н.э.).

АРХЕСТРА — круглая або паўкруглая пляцоўка ў старажытнагрэчаскім тэатры, якая займала цэнтральнае месца і прызначалася для выступленняў хору.

АРХІВОЛЬТ (італьян. *archivolto* ад лац. *arcus volutus* — абрамляльная дуга) — архітэктурна-дэкаратыўны элемент аздаблення арачнага праёма. Вылучае контур а р к і з плоскасці сцяны. Выконваецца з клінавых камянёў, тынку, стука. А., які самастойна выступае на плоскасці сцяны і не звязаны з праёмам, называецца "сляпой" аркай.

АРХІТРАЎ (ад грэч. *archi* — галоўны + лац. *trabs* бэлька) — бэлька, якая абапіраецца (кладзецца) непасрэдна на к а л о н ы або п і л о н ы. Ніжняя частка а н т а б л е м е н т а.

АРХІТЭКТУРА (лац. *architectura* ад грэч. *architékton* будаўнік), дойлідства — 1) будынкі і іншыя збудаванні (таксама іх комплексы), якія ствараюць матэрыяльна арганізаванае асяроддзе, неабходнае людзям для іх жыцця і дзейнасці; 2) мастацтва праектаваць і ствараць збудаванні і іх комплексы ў адпаведнасці з прызначэннем, сучаснымі тэхнічнымі магчымасцямі, эстэтычнымі поглядамі грамадства.

АРЫГІНА́Л (ад лац. originalis першапачатковы) у галіне выяўленчага мастацтва сапраўдны мастацкі твор у адрозненне ад падробкі, копіі, рэпрадукцыі.

АСАБНЯ́К — добраўпарадкаваны гарадскі дом, разлічаны на пражыванне сям"і багатага ўласніка (дваранiна, купца). На Беларусі распаўсюджваюцца ў XУIII — XIX стст.

АСЕ́ЦЬ — існаваўшая на Беларусі да пачатку XX ст. гаспадарчая пабудова для сушкі збожжы.

АСІ́СТ — у іканапісі лініі, праменні або арнаментальныя матывы, якія сімвалізуюць ззянне, выкананае золатам. Выконваецца ліставым золатам па высахлым фарбавым слоі.

АСНО́ВА — ужывапісу матэрыял (палатно, дрэва, кардон, папера), на які наносяць грунт і потым фарбавы слой карціны.

А СЭ́КА, фрэ́ска а сэ́ка — тэхнічная разнавіднасць фрэскі, заснаваная на выкананні жывапісу па цвёрдым ужо высахлым вапнавым тынку.

АТЛА́НТ (грэч. Atlas [Atlantos]) — у старажытнай грэчаскай міфалогіі тытан, які трымаў па загаду Зеўса небасхіл на сваіх плячах за тое, што удзельнічаў у змаганні тытанаў супраць багоў. У архітэктуры А.— апора ў выглядзе мужчынскай фігуры, што падтрымлівае перакрыцці будынка, балкона, порціка і г.д.

А́ТРЫУМ — зала у старажытнарымскім доме.

А́ТЫК (ад грэч. attikós — атычны) — сценка, якая знаходзіцца над вянчаючым карнізам і завяршае сабой фасад. Часам адпавядае паверху ( атыкавы паверх). На Беларусі А. пашырыліся з XУI ст.

АЎСТЭ́РЫЯ (італьян. osteria ) — тып карчмы, заезны дом. Вядома на Беларусі з XУI ст. Уключала стайні, вазоўні, гасцінныя пакоі, каморы. А. паслужылі прататыпам для паштовых станцый, гасцініц (у другой палове XУIII—XIX ст.).

АЎТАЛІТАГРА́ФІЯ (ад грэч. autos — сам, lithos — камень, graphō — пішу, малюю)— I) спосаб выканання мастацкай літаграфіі, пры якім сам мастак працуе на камені; 2) твор графікі, выкананы дадзеным спосабам. У беларускім мастацтве А. пачалі ўжываць у I-й палове XIX ст. ў літаграфскіх майстэрнях пры Віленскім універсітэце. Сёння ў гэтай



тэхніцы працуюць І. Савіч, В. Шаранговіч, Г. Паплаўскі, І. Немагай , М. Селяшчук і інш. мастакі Беларусі. Гл.: ГРАВЮРА.

АЎТАПАРТРЭ́Т (ад грэч. autos — сам)—у выяўленчым мастацтве выява мастака, выкананая ім самім. Разнавіднасць партрэтнага жанра. У беларускім мастацтве да А. звярталіся многія мастакі: В. Ваньковіч і Н. Сільвановіч (XIX ст.), Ю. Пэн і Я. Кругер (пач. XX ст.), І. Ахрэмчык, Я. Зайцаў, Р. Вашчанка (2-я палова XX ст.).

АФО́РТ (ад франц. eau-forte азотная кіслата) — І. спосаб гравіравання, заснаваны на траўленні металу кіслотамі; 2. Адбітак, атрыманы з такой выявы. У паняцце А. уключаецца таксама акватынта і мяккі лак. Тэхніка А. атрымала шырокае распаўсюджанне ў сучасным беларускім мастацтве. У ёй працуюць А. Кашкурэвіч, Л. Асецкі, П. Дурчын, М. Селяшчук, Г. Паплаўскі, М. Басалыга, У. Савіч, А. Паслядовіч і інш. графікі. Гл.: ГРАВЮРА.

А ФРЭ́СКА, аль фрэ́ска (італьян. a fresco — сырым спосабам, па сырым ) — асноўная тэхнічная разнавіднасць фрэскавага жывапісу, калі мастак працуе па свежым вапнавым тынку. Гл. ФРЭСКА.

## Б

БА́ЗА (ад грэч. basis ) — аснова, падмурак, ніжняя патоўшчаная частка калоны ці слупа, пілястры, п"едэстала.

БАЗІ́ЛІКА (ад грэч. basilike — царскі дом) — будынак выцягнутай прамавугольнай формы, падзелены на падоўжаныя нефы радамі слупоў ці калон. У Старажытным Рыме Б. — грамадска-адміністрацыйны будынак. У сярэдневеччы форма Б. шырока выкарыстоўвалася для хрысціянскіх храмаў.

БАЙНІ́ЦА — вертыкальны вузкі праём у сцяне крэпасці, замка, вежы, прызначаны для вядзення стральбы.

БАЛКО́Н (ад італьян. balcone)— І. агароджаная парэнчамі і падтрымліваемая кансолямі пляцоўка, якая выступае на фасадзе будынка; 2. верхні ярус тэатра.

БАЛЮСТРА́ДА (ад франц. balustrade ) — агароджа балкона, лесвіцы, даху ў выглядзе парэнчаў, якія ляжаць на невысокіх фігурных слупках.

БАЛЯ́СЫ, баля́сіны — невысокія фігурныя слупкі, якія падтрымліваюць парэнчы агароджы б а л к о н а, лесвіцы, п а р а п е т а і інш.; элемент б а л ю с т р а д ы. Робяцца з дрэва, металу, бетону.

БАПТЫСТЭ́РЫЙ — хрысцільня, круглы або шматгранны ў плане будынак, які стаіць асобна ад х р а м а. Прызначаны для здзяйснення абраду хрышчэння.

БАРАБА́Н — у дойлідстве абапіраючаяся на с к л е п е н н е цыліндрычная ці шматгранная верхняя частка будынка, якая падтрымлівае к у п а л. Б. можа быць глухім або мець светавыя праёмы. Асабліва пашыраны ў хрысціянскім культавым дойлідстве. У манументальнай архітэктуры Беларусі Б. з"явіліся ў XI ст. пад уплывам мастацтва Візантыі ( Сафійскі сабор у Полацку).

БАРДЗЮ́Р (ад франц. bordure — край) — 1. контур клумбы, краю дарожкі, газона, у некаторых выпадках абазначаны спецыяльна пасаджанымі вузкімі палосамі раслін; 2. кайма, упрыгажэнне па краях прадметаў; 3. паласа, якая абрамляе верхнія часткі абклееных шпалерамі або пафарбаваных сцен памяшканняў.

БАРО́КА (італьян. barocco літар. вычварны, дзіўны) — адзін з асноўных с т ы л я ў у еўрапейскай а р х і т э к т у р ы і м а с т а ц т в е XVI — сярэдзіны XVIII ст. Для мастацтва Б. характэрна грандыёзнасць, дэкаратыўная пышнасць, вычварнасць і ўскладнёнасць архітэктурных форм. Усе сродкі архітэктуры, ж ы в а п і с у і с к у л ь п т у р ы накіраваны на дасягненне тэатралізаванага і эмацыянальнага ўражання, стварэнне патэтычна ўзнятага ўспрыняцця ўсяго мастацкага вобраза будынка ці а н с а м б л я ў цэлым. У стылі Б. выкананы ансамблі плошчы Св. Пятра ў Рыме (1653—1657 гг., арх. Л. Бэрніні), там жа плошча Іспаніі са славутай лесвіцай XVIII ст (арх. А. Спенкі і Т. дэ Санктыс); пабудаваныя арх. В.В. Растрэлі Вялікі палац (Кацярынінскі) у Царскім Сяле (1752—1757 гг.), Зімовы палац (1754—1762 гг.) і Смольны манастыр (1748—1754 гг.) у Санкт-Пецярбургу. У беларускім дойлідстве да славутых твораў ранняга Б. з уласцівым яму багаццем архітэктурна-мастацкіх форм, у асаблівасці інтэр"ера, адносіцца касцёл езуітаў у Нясвіжы (1584—1593 гг., арх. Я.М. Бернардоні). Развіццё нацыянальнай разнавіднасці беларускага Б. у



манументальнай мураванай архітэктуры прайшло тры перыяды: ранняе (канец XVI — 1-я палова XVII ст.: палац у Гальшанах Ашмянскага раёна, Багаяўленскі сабор у Магілёве, касцёлы езуітаў у Гродне, дамініканцаў у Стоўбцах і інш.), сталае (2-я палова XVII — 1730-я гг.: Мікалаеўская царква ў Магілёве, касцёлы бернардзінак і езуітаў у Мінску, дамініканцаў у Княжыцах пад Магілёвам, ратуша ў Магілёве і інш.), позняе, ці в і л е н с к а е Б. (1730—80-я гг.: царква ў Беразвеччы пад Глыбокім, касцёл кармелітаў у Глыбокім, уніяцкі Сафійскі сабор у Полацку і інш.). Мастацкія прынцыпы Б. выявіліся на Беларусі таксама ў выяўленчым і ва ўсіх відах дэкаратыўна-ужытковага мастацтва.

БАРЭЛЬЕ́Ф (ад франц. bas-relief — нізкі рэльеф) — разнастайнасць выпуклага р э л ь е ф а, у якім фігуры і прадметы выступаюць над плоскасцю ф о н а не больш чым на палову свайго аб"ёму (пар.: гарэльеф). На Беларусі вядомы з даўніх часоў: выявы Яраполка Святаславіча на віслай пячатцы (2-я палова X ст.), абразок "Канстанцін і Алена" (XII ст.), выява М.К. Радзівіла Сіроткі ў надмагіллі (XVII ст., фарны касцёл у Нясвіжы), сюжэтнае пано "Хрышчэнне Хрыста" (2-я палова XVII ст., касцёл у в. Міхалішкі Астравецкага раёна).

БАСКЕ́Т (ад франц. bosquet ) — 1. Густая пасадка дэкаратыўна падстрыжаных кустоў або дрэў, размешчаная на ўскраіне парка, каб адгарадзіць яго ад гаспадарчых пабудоў. 2. Адна з састаўных частак французскага рэгулярнага парка.

БАСТЫЁН (ад франц. bastion ) — крэпасное ўмацаванне звычайна пяцівугольнай формы, якое дазваляе абстрэльваць мясцовасць наперадзе і ўздоўж крэпасной сцяны. Б. з"явіліся ў Італіі ў канцы XV ст., з сярэдзіны XVI ст. вядомы на Беларусі.

БАСТЭ́Я — земляны насып або 2-яруснае муранавае збудаванне, паўкруглае ці падкованападобнае ў плане, элемент абарончага сярэдневяковага ўмацавання. Б. — пераходная форма ад в е ж ы да б а с т ы ё н а. На Беларусі вядомы ў Мядзельскім і Геранёнскім з а м к а х.

БАТА́ЛЬНЫ ЖАНР (ад франц. bataille — бітва) — жанр выяўленчага мастацтва, пераважна жывапісу, прысвечаны ваеннай тэматыцы. Як асобны раздзел г і с т а р ы ч н а г а ж а н р у афарміўся ў XV—XVI стст., але выявы батальных сцэн і эпізодаў ваеннага жыцця вядомы з глыбокай старажытнасці. Са-

1Ба
20643



мыя старажытныя з вядомых батальных сюжэтаў у беларускім мастацтве — графічныя творы на тэмы айчыннай і біблейскай гісторыі: мініяцюры Радзівілаўскага летапісу (XУ ст.) і гравюра "Навуходаносар, цар вавілонскі, здабывае Іерусалім" у выданні Ф.Скарыны (1518). Найбольш ранні твор у жывапісе — шматфігурная кампазіцыя "Бітва пад Оршай" (каля 1515). Б.ж. найбольш шырока прадстаўлены ў творчасці Ф.Смуглевіча, В.Ваньковіча, Я. Дамеля, М. Куляша, Я. Сухадольскага, М.Э. Андрыёлі, А.Каменскага. Сярод мастакоў савецкага часу ў Б.ж. найбольш плённа працавалі В.Волкаў, Я. Зайцаў, М. Манасзон, У. Хрусталёў і многія іншыя.

БА́ТЫК ( малайск.) — тэхніка размалёўкі тканіны, а таксама шматколерная тканіна, аздобленая гэтай тэхнікай. На Беларусі гэта тэхніка вядома з XУШ ст. (ткацкая мануфактура кн. Радзівілаў у Міры). З канца 1970-х гг. у тэхніцы "гарачага" Б. ствараюцца сюжэтна-тэматычныя станковыя пано Паўлоўскай, Валеевай, В. Удавенка, В. Дзёмкінай.

БЕЛАРУ́СКАЯ ІКАНАПІ́СНАЯ ШКО́ЛА — самабытная нацыянальная жывапісная школа пачатку XУI — пачатку XIX ст., якая склалася на аснове традыцый візантыйскага і старажытна-рускага мастацтва пад уплывам ідэй А д р а д ж э н н я. Творы Б.і.ш. адпавядаюць візантыйскаму к а н о н у, вызначаюцца умоўнасцю і сімвалізмам выяўленчай мовы, шырокім выкарыстаннем этнаграфічных элементаў, імкненнем адлюстраваць навакольную рэчаіснасць. Адметная рыса беларускіх а б р а з о ў — узорнстасць, багатая і разнастайная арнаментоўка, разны расл інны арнамент ф о н у. мажорнасць агульнага эмацыянальнага ладу. Сярод лепшых абразоў Б.і.ш. вылучаюцца "Маці боская Адзігітрыя" са Случчыны, "Маці боская Іерусалімская" з Брэстчыны (XУI ст., МСБК АН РБ); "Параскева Пятніца" са Случчыны, "Апосталы Лука і Сімон", "Пакланенне вешчуноў" з Брэстчыны ( другая пал. XУI — пачатак XУП ст., усе — ДММ РБ ; "Тройца старазапаветная" з Брэстчыны ( першая палова XУП ст., МСБК АН РБ), "Маці боская Замілаванне" з Брэстчыны (1644, МСБК АН РБ); "Нараджэнне маці боскай" Пятра Яўсеевіча з Галынца ( 1649 ), "Успенне" з Брэстчыны (1650) — усе ДММ РБ і інш.



БЕЛАРУ́СКАЯ РАЗЬ — прынятая ў мастацтвазнаўстве назва манументальна - дэкаратыўнай аб"ёмна - ажурнай разьбы па дрэве, якой беларускія майстры аздаблялі храмы і палацы ў Маскоўскай дзяржаве XУП ст. Называлася таксама "флемская" разьба ( ад ням. Flamme полымя ). Б.р. уяўляла сабой ажурнае перапляценне пышных раслінных парасткаў з гронкамі і лістамі, у якія ўпляталіся фігуры птушак, жывёл, чалавека. Разьбу пакрывалі лякасам і залацілі. Сярод работ беларускіх майстроў у Маскве асабліва вылучаецца і к а н а с т а с Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ( 1683 - 1685 ). Сярод майстроў Б.р. найбольш вядомы імены К.Міхайлава, старцаў Арсенія і Іпаліта.

БЕЛЬВЕДЭ́Р (італьян. belvedere — цудоўны від) — 1. Надбудова зверху будынка звычайна круглай формы, прызначаная для агляду навакольнай мясцовасці. 2. Альтанка або павільён на узвышаным месцы. 3. Назва некаторых палацаў, размешчаных у маляўнічым прыродным асяроддзі (у Ватыкане, Вене, Варшаве, Празе) .

БЕСПРАДМЕ́ТНАЕ МАСТА́ЦТВА — гл. АБСТРАКЦЫЯНІЗМ.

БІСТР ( франц. bistre ) — 1. Празрыстая руджовая фарба з драўлянай сажы і расліннага алею. Ужывалася жывапісцамі XУ — XУШ стст. У сучаснасці як самастойны матэрыял амаль не выкарыстоўваецца. 2. Назва тэхнікі малюнка, выкананага з дапамогай пэндзаля і пяра.

БІФО́РЫУМ (лац. biforis — двухбаковы, на два бакі) — двухчасткавае аркаднае акно або арачны праём. Характэрны для а р х і т э к т у р ы р а м а н с к а г а і г а т ы ч н а г а с т ы л я ў. Пашырыліся ў XШ ст. у краінах паўднёвай і заходняй Еўропы. На Беларусі вядомы ў архітэктуры несапраўднай г о т ы к і, аздабляліся а р х і в о л ь т а м і і каляровымі в і т р а ж а м і (Чырвоны касцёл у Мінску, гродзенскія воданапорныя вежы — усе пач.XX ст.).

БЛЕ́НДА — н і ш а ў сцяне, якая імітуе аконны праём. Выкарыстанне Б. дыктуецца патрэбай стварэння рытмічнасці ф а с а д а з рэгулярнай сеткай аконных праёмаў. У тых месцах,

дзе такія праёмы былі не абавязковыя, яны замянялліся В. На Беларусі вядомы у архітэктуры готыкі і рэнесансу (касцёл у в. Гнезна Ваукавыскага раёна), барока і класіцызму ( палац у Нясвіжы, царква Мікалая у Магілёве), несапраўднай готыкі (касцёл у в. Гервяты Астравецкага раёна), у жылой забудове XIX — пачатка XX ст.

БЛІК (ням. Blick ) — самая светлая, часам бліскучая кропка на паверхні адлюстраванага прадмета. Спрыяе перадачы гульні святла і ценю.

БЛОК (ням. Block) — 1. Натуральны або штучны будаўнічы камень буйнога памеру. 2. Комплексны будаўнічы элемент. 3. Комплекс памяшканняў пэўнага прызначэння.

БОЧКА — дах у форме паўцыліндра з завостраным верхам. Утварае на фасадзе кроплепадобны франтон. Б. сустракаецца у рускай, пераважна драўлянай архітэктуры ХУП — ХУШ стст. (царквы рускай Поўначы, разбураны палац у Каломенскім і інш.).

БЫТАВЫ ЖАНР — жанр у выяўленчым мастацтве, які адлюстроўвае падзеі і сцэны паўсядзённага асабістага і грамадскага жыцця. Тэрмін ужываецца у адносінах жывапісу і раўназначны паняццю "бытавы жывапіс", "жанравы жывапіс". Як самастойны раздзел мастацтва Б.ж. афарміўся у асноўным у ХУП ст. і прадстаўлены у гэты час перш-наперш творамі мастакоў галандскай школы Пітера дэ Хоха, Астадэ, Стэна, Тэрбарха, Вярмеера Дэльфцкага і інш. Элементы Б.Ж. у беларускім мастацтве вядомы з ХУ ст. (мініяцюра "Вясельнае ігрышча" у Радзівілаўскім летапісе). Сустракаюцца жанравыя сцэны у выданнях Ф. Скарыны. Шырока прадстаўлены сцэны штодзённага жыцця у творчасці Ю. Зайцава, А. Кашкурэвіча, У. Пашчасцева, Г. Паплаўскага і іншых сучасных беларускіх мастакоў.

БЭЛЬКА — суцэльны ці састаўны стрыжань, звычайна пэўнай формы, выкарыстоўваецца для перакрыцця памяшканняў.

БЮСТ (ад франц. buste лац. bustum — месца крэмацыі, надмагільны помнік) — пагрудзіннае, большай часткай партрэтнае увяўленне чалавека у скульптуры. З"явіўся у Старажытным Егіпце і



Старажытнай Грэцыі. Канчаткова склаўся у партрэтным мастацтве Старажытнага Рыма. Атрымаў шырокае распаўсюджанне у мастацтве эпохі Адраджэння і новага часу.

## В

ВАЖНІЦА — тып старадаўняй пабудовы у гарадах Вялікага княства Літоўскага, дзе вымяралася прывезенае купцамі на продаж збожжа і інш. Уяўляла сабой 1-павярховы мураваны ці драўляны будынак, накрыты 2- або 4-схільным дахам.

ВАЗАПІС — арнаментальны або выяўленчы дэкаратыўны роспіс посуду спецыяльнымі фарбамі з наступным абпалам. Шматлікія і выдатныя узоры В. пакінула старажытнагрэчаскае, кітайскае мастацтва, мастацтва Заходняй Еўропы ХУІ — ХУШ стст., Усходняй Еўропы ХУШ — XIX стст.

ВАЛЁР ( ад франц. valeur, літар. цана, каштоўнасць) — тэрмін у жывапісе, што абазначае адценне тона, з дапамогай якога даецца паслядоўная градацыя святла і ценю у межах аднаго колеру.

ВАЛЮТА (ад італьян. voluta, літаральна завіток,спіраль) — архітэктурны матыў у выглядзе завітка або спіралі з кружком ("вочкам") у цэнтры. В. уваходзіць у якасці састаўной часткі у іанічную і карынфскую капітэлі. Форму В. часам маюць архітэктурныя дэталі, якія аб"ядноўваюць часткі будынкаў, каніполі карнізаў, абрамленні парталаў, дзвярэй, акон (галоўным чынам у архітэктуры позняга рэнесансу і барока).

ВАЛЮШНЯ, валюша, сукнавальня — вытворчая пабудова для валення сукна, лямцу, валёнак і інш. На Беларусі вядомы з ХУІ ст. (Нясвіж, Давыд-Гарадок Столінскага, в.Леніна Горацкага, Цімкавічы Капыльскага раёнаў і інш.), існавалі пераважна у буйных фальварках, некаторыя належалі мяшчанам.

ВАРЫУНЯ, стопка, істопка — тып старадаўняй гаспадарчай пабудовы для хавання агародніны, садавіны, малака, мяса і гаспадарчых прылад. На Беларусі вядома з ХУП ст.

ВАСКО́ВЫ ЖЫ́ВАПІС — жывапіс фарбамі, сувязным рэчывам якіх з"яуляецца адбелены пчаліны воск. Існуюць гарачы спосаб (э н к а у с т ы к а) і халодны (васковая т э м п е р а).

ВАСЬМЯРЫ́К — васьмівугольнае у плане збудаванне, якое ставілася на чатырохвугольную аснову (тып "васьмярык" на "чацверыку"). В. выкарыстоувался як у мураванай, так і у драулянай а р х і т э к т у р ы. Распаусюджаны галоуным чынам у царкоуных пабудовах ХУІ — ХУШ стст. у рускім і украінскім дойлідстве.

ВЕ́ЖА — збудаванне, вышыня якога значна большая за яго гарызантальныя памеры. В. бываюць каменныя, цагляныя, драуляныя з дахам разнастайнай формы: плоскай, чатырохсхільнай, у выглядзе шатра або к у п а л а. Першапачаткова будаваліся для мэт абароны у выглядзе вартавых вышак, вежау, з а м к а у — д а н ж о н а у. Прымяняюцца у культавым д о й л і д с т в е — з в а н і ц ы, м і н а р э т ы, у грамадзянскай архітэктуры — маякі, адміністрацыйныя будынкі, а таксама у якасці інжынерных збудаванняу — воданапорных, радыё- і тэлевізійных вежау. На тэрыторыі Беларусі першыя мураваныя В.-данжоны пабудаваны у другой палове ХШ ст.( Камянецкая В., Брэсцкая В., Тураускал В.). З ХІУ ст. мураваныя В. сталі адметнай асаблівасцю з а м к а у (Лідскі, Крэускі замкі), у ХУ — ХУІ стст. В. выйшлі за плоскасці сцен і сталі галоунымі апорнымі пунктамі абароны, павялічылася іх колькасць. У беларускай архітэктуры В. — таксама адзін з галоуных элементау кампазіцыі р а т у ш (Магілёуская, Віцебская ратушы).

ВЕРА́НДА — І. Адкрытае або зашклёнае памяшканне, убудаванае ці прыбудаванае да асноунага будынка, звычайна не апальваемае. 2. Садовая альтанка буйных памерау.

ВЕРНІСА́Ж (франц. vernissage, літар. — пакрыццё лакам) — адкрыццё мастацкай выставы. Назва вядзе паходжанне ад звычаю французскіх мастакоу пакрываць лакам карціны напярэдадні выставы.

ВЕСТЫБЮ́ЛЬ (франц. vestibule — вялізная прыхожая) — памяшканне паміж парадным уваходам і унутранай прасторай грамадскага збудавання. Звычайна у ім размешчаны гардэроб.



ВІ́ЛА (лац. villa — маёнтак) — у часы Старажытнага Рыма – загараднае памесце, прызначанае для адпачынку і забау. У ХІХ — ХХ стст. В.называюць камфартабельны аднасямейны дом з садам ці паркам, размешчаны недалёка ад горада.

ВІ́ЛЕНСКАЯ ШКО́ЛА ГРАВЮ́РЫ — мастацкая школа у г р а ф і ц ы пачатку ХУІ — ХУП стст., якая склалася у Вільні у І520-я гг. і развівалася у сувязі з рускім, украінскім, заходнееурапейскім мастацтвам і пад уплывам традыцый аздаблення славянскіх рукапісау. В.ш.г. дала пачатак развіццю г р а в ю р ы на усходнеславянскіх землях. Галоуную ролю у яе развіцці адыгралі выданні Ф. Скарыны, друкарняу Мамонічау, Віленскай акадэміі, Еуінскай друкарні і інш.

ВІ́МПЕРГ (ням. Wimperg) — высокі востраканечны дэкарыраваны ф р а н т о н, які завяршае п а р т а л ы і аконныя праёмы гатычных пабудоу. На Беларусі пашыраны у а р х і т э к т у р ы стылю р э н е с а н с у і н е с а п р а у д н а й г о т ы к і (канец ХУШ — пачатак ХХ ст.).

ВІНЬЕ́ТКА (франц. vignette) — упрыгажэнне у кнізе, рукапісе у выглядзе невялікага м а л ю н к а або а р н а м е н т а у пачатку ці канцы раздзела.

ВІТРА́Ж (франц. vitrage ад vitre — аконнае шкло) — І. Арнаментальная ці сюжэтная к а м п а з і ц ы я, зробленая з кавалачкау каляровага шкла. З дапамогай свінцовых ці з іншага матэрыялу пераплётау мацуецца у аконным праёме. 2. Суцэльнае ашкленне ф а с а д а пабудовы. Першыя В. зроблены у Старажытным Егіпце у другім тысячагоддзі да н.э. На Беларусі В. вядомы з ХУ ст. (к а п л і ц ы фарнага касцёла у Навагрудку, пач. ХУ ст.). Шырокае развіццё В. атрымау у савецкі час: В. выкарыстаны у і н т э р " е р ы Дома літаратара, банкетнай залы рэстарана "Масква" — усе у Мінску.

ВІЯДУ́К (франц. viaduc, лац. via — дарога + duco вяду) — маставое збудаванне для праезду, праходу праз цясніну, дарогу, чыгуначныя пуці.

ВОХРАННЕ — у  і к а н а п і с е  працэс паступовага высвятлення дэталей твару і адкрытых частак цела шматлікімі п р а п і с к а м і  па роўным асноўным  ф о н е. Гл. САНКІР.

ВУГАЛЬ — I. Шырока распаўсюджаны матэрыял для малявання ў выглядзе тонкіх палачак, выробленых абпальваннем дрэва пэўных сартоў, або спрасаваных са спецыяльнай вугальнай масы. В. пакідае прыгожы густа-чорны, амаль аксамітавы след. 2. Тэхніка малюнка, выкананага В.

ВУТ — гл. ПАДУГА.

ВЫПУКЛАЯ  ГРАВЮРА — від гравюрнай тэхнікі, калі друкаванне вядзецца з выпуклых (высокіх) частак выявы на дошцы ў адрозненне ад  п а г л ы б л е н а й   г р а в ю р ы. Да В.г. адносяцца  к с і л а г р а ф і я   і   л і н а г р а в ю р а. Гл. ГРАВЮРА.

ВЫСЯКАННЕ — тэхніка выканання  с к у л ь п т у р ы  з каменя, пры якой яе высякаюць па гатовай  м а д э л і, адлітай звычайна з гіпсу.

ВЫШЫЎКА — від  д э к а р а т ы ў н а - у ж ы т к о в а г а  м а с т а ц т в а, у якім узор і выява выконваюцца уручную або пры дапамозе спецыяльнай машыны на тканіне, скуры, лямцы і іншых матэрыялах ільнянымі, баваўнянымі, шарсцянымі, шаўковымі (часцей каляровымі) ніткамі, а таксама воласам, бісерам, жэмчугам. В. ужываецца для аздаблення адзення, абутку, тканых бытавых вырабаў, для стварэння самастойных дэкаратыўных  п а н о.

ВЫЯЎЛЕНЧЫЯ  МАСТАЦТВЫ — ж ы в а п і с,  г р а ф і к а,  с к у л ь п т у р а, якія мастацкімі сродкамі  м а л ю н к а,  колеру, светлацені, пластыкі ствараюць выявы на роўнасці і ў прасторы.

ВЯДУТА — к р а я в і д, які дакладна перадае выгляд мясцовасці або горада. Тэрмін з"явіўся ў ХУШ ст.

ВЯТРАК, ветраны млын — вытворчая пабудова для памолу зерня, у якой выкарыстоўваецца энергія ветру. У Заходняй Еўропе вядомы з XII - XIII ст., у Расіі — з ХУ ст., на Беларусі — з ХУІ ст., найбольш пашыраны ў ХУІІІ - пач. XX ст.

Г

ГАБЕЛЕН (франц. gobelin ) — тканы мастацкі дыван ручной работы, прызначаны для упрыгожвання сцен. Названы па прозвішчы сям"і Габеленаў, якія ў ХУ ст. мелі майстэрню ў Парыжы. На Беларусі Г. вырабляюцца з ХУП ст ( ткацкія мануфактуры кн. Радзівілаў у Нясвіжы, Міры, Карэлічах, Альбе).

ГАЛАСНІКІ — невялікія керамічныя камеры, якія замуроўвалі ў сцены і скляпенні пабудоў з мэтай аблегчыць канструкцыю і узмацніць гук. У Беларускай архітэктуры вядомы з ХП ст. Выкарыстаны ў муроўцы сцен гродзенскай Барысаглебскай царквы.

ГАЛЕРЭЯ (франц. galerie ) — I. Працяглая зала з суцэльным радам вялікіх акон. 2. Доўгае светлае крытае памяшканне, у якім адну з падоўжных сцен замяняе  к а л а н а д а. 3. Верхні  я р у с  глядзельнай залы. 4. Калекцыя твораў  в ы я ў л е н ч а г а  м а с т а ц т в а, выстаўленых для агляду і продажу. 5. Назва мастацкіх музеяў пераважна з калекцыяй карцін ( Лонданская нацыянальная Г., Траццякоўская Г.).

ГАМА  КОЛЕРАВАЯ (грэч. gamma) — паслядоўны шэраг адценняў  к о л е р у  з адным дамінуючым, каларыстычная гама, выкарыстоўваемая пры стварэнні твораў жывапісу. Як правіла, гэты тэрмін суправаджаецца звычайнымі для колеру вызначэннямі: цёплая, халодная, яркая, бляклая, светлая і г.д.

ГАНЧАРСТВА — выраб рэчаў утылітарнага і дэкаратыўна-ужытковага прызначэння з абпаленай гліны. На тэрыторыі Беларусі Г. вылучылася ў спецыялізаванае рамяство ў сярэдзіне Х ст., дасягнула росквіту ў ХУП — ХУШ стст. У наш час большасць ганчарных вырабаў страціла утылітарнае прызначэнне і выконвае пераважна дэкаратыўна-мастацкія функцыі.

ГАРЭЛЬЕФ (франц. haut-relief - высокая выпукласць) — разнавіднасць выпуклага  р э л ь е ф а, у якім фігуры і прадметы выступаюць над плоскасцю фона больш чым на палову свайго аб"ёму. Паказаныя ў Г. фігуры могуць толькі дакранацца да фона, альбо зусім аддзяляцца сваімі дэталямі ад яго.

ГЕАМЕТРЫЧНЫ СТЫЛЬ — форма *арнамента*, уласцівая ранняй стадыі развіцця грэчаскага *вазапісу* (IX — VIII стст. да н.э.). Ён вызначаецца выразнасцю ўзораў, якія суцэльна пакрываюць паверхню посуду і падкрэсліваюць іх *тэктоніку*. Арнамент рабіўся ў выглядзе гарызантальных палос, складзеных з меандраў, крыжоў, акружнасцей і да таго падобных фігур.

ГІПАСТЫЛЬ (грэч. — падтрымліваемы *калонамі*) — у *архітэктуры* Старажытнага Усходу (Егіпет, Іран) вялікая зала *храма* ці *палаца* са шматлікімі рэгулярна пастаўленымі калонамі.

ГІПЕРРЭАЛІЗМ (англ. hyperrealism ад франц. hyper — над, звыш, па той бок + лац. realis — рэчавы), фотарэалізм — напрамак у сучасным выяўленчым *мастацтве*, які склаўся ў ЗША ў канцы 60-х — пачатку 70-х гг. XX ст. Яго адметнай асаблівасцю з"яўляецца імкненне выключна дакладна (фатаграфічна) выразіць жыццёвую канкрэтнасць свету. Тэхнічныя прыёмы пры гэтым засланяюць асабістыя адносіны аўтара твора да рэчаіснасці, якую ён адлюстроўвае.

ГІСТАРЫЧНЫ ЖАНР — жанр *жывапісу*, *графікі*, *скульптуры*, прысвечаны адлюстраванню канкрэтных гістарычных падзей мінулага і сучаснасці. У якасці самастойнага Г.ж. склаўся ў эпоху Адраджэння і атрымаў шырокае развіццё ў мастацтве XIX ст. Выдатныя карціны на гістарычныя тэмы стварылі Ф. Гойя (Іспанія), Э. Дэлакруа (Францыя), В. Сурыкаў, І. Рэпін, В. Верашчагін (Расія). У беларускім мастацтве вытокі Г.ж. адносяцца да XV ст. У XVIII — XIX стст. Г.ж. пашырыўся ў свецкім жывапісе, у гэты час ён прадстаўлены карцінамі К.Альхімовіча, Я. Дамеля, Ф. Дмахоўскага, Я. Сухадольскага і інш. мастакоў. Шырокае развіццё атрымаў Г.ж. у савецкі час (мастакі І.Ахрэмчык, В. Волкаў, М. Філіповіч, У. Хрусталёў, З. Азгур, А. Малішэўскі, і інш.).

ГЛАЗУРА (ням. glasur ад glas — шкло) — тонкі шклопадобны слой, які ствараецца на паверхні керамічных вырабаў шляхам пакрыцця іх спецыяльным парашком з наступным абпальваннем. Г. ужываецца для засцярогі керамічных вырабаў ад забруджвання, дзеяння кіслот і шчолачаў, для воданепранікальнасці, а таксама з дэкаратыўнымі мэтамі.



ГРАВЁР (франц. graveur — разьбяр) — майстар па выразванню ці траўленню ўсялякіх выяў на дрэве, метале, камені, лінолеуме і іншых матэрыялах.

ГРАВЮРА (франц. gravure ) — 1. Друкаваны адбітак на паперы альбо падобным матэрыяле з пласціны ("дошкі"), на якую нанесены малюнак. 2. Від *графікі*, які ўключае шматлікія спосабы ручной апрацоўкі "дошак" і друкавання з іх адбіткаў. Г. на камені называецца *літаграфіяй*, на дрэве — *ксілаграфіяй*, на лінолеуме — *лінагравюрай*. Часцей за ўсё сустракаецца Г. на метале: разцовая Г., *афорт*, *акватынта*, *мяккі лак*, *сухая іголка*, *меца-тынта*, *пункцірны манер* і інш. Па тыпу друку Г. аб"ядноўваюцца ў тры групы: *выпуклая* Г. (ксілаграфія і лінагравюра); *паглыбленая* Г. (практычна ўсе віды Г. на метале); плоская Г. (*літаграфія*). Першыя Г. зроблены ў Кітаі ў канцы VI ст., у Заходняй Еўропе на рубяжы XIV—XV стст. На Беларусі кніжная Г. на дрэве ўзнікла ў пачатку XVI ст. (Ф. Скарына). Сучасныя беларускія мастакі шырока выкарыстоўваюць розныя тэхнікі Г.: афорт (А. Кашкурэвіч, Л. Асецкі, Г. Паплаўскі і інш.), літаграфію (А. Дзямарын, Г. і Н. Паплаўскія, В. Шаранговіч), лінагравюру (С. Герус, А. Лось, В. Шаранговіч), ксілаграфію (А. Зайцаў).

ГРАВЮРА НА ДРЭВЕ — гл. КСІЛАГРАФІЯ, ГРАВЮРА.

ГРАВЮРА СУХОЙ ІГОЛКАЙ — від паглыбленай гравюры: медная дошка прадрапліваецца афортнай іголкай без пакрыцця лакам і без траўлення. У час друкавання фарба захрасае ў драпінах і задзірынах (барбах). Гл.: ГРАВЮРА

ГРАТАЖ (франц. grattage , ад gratter — скрэбсці, драпаць) — спосаб выканання малюнка шляхам прадрапвання пяром або вострым інструментам паперы ці кардону, папярэдне залітых тушшу. Г. сустракаецца ў *графіцы* XX ст.

ГРАФІКА — від *выяўленчага мастацтва*, які ўключае *малюнак* як самастойную галіну творчасці, а таксама заснаваныя на майстэрстве малюнка друкаваныя мастацкія вобразатворы: *гравюру*, *літаграфію*, *лінагравюру*, *афорт*, *акватынту* і інш. Г. падзяляецца на станкавую — малюнак, *эстамп*, *лубок* і інш; кніжную — ілюстрацыі, вокладка, тытульны ліст, застаўка, канцоўка, *віньетка*, *карыкатура*; прыкладную —

маркі, этыкеткі, граматы і інш.; п л а к а т.

ГРАФ"Я — падрыхтоўчы контурны малюнак, зроблены па л я у - к а с е або тынкоўцы з мэтай палегчыць жывапісную работу надзейнай фіксацыяй малюнка.

ГРОДЗЕНСКАЯ ШКОЛА ДОЙЛІДСТВА — самабытная архітэктурная школа, якая склалася ў XII ст. у Гродне. Да ўзораў Г.ш.д. адносяцца Гродзенскія Ніжняя, Барысаглебская, Прачысцінская цэрквы, княжацкія палаты.

ГРОТ (франц. grotte ад італьян. grotta ) — тып паркавага памяшкання ў выглядзе павільёна, мураўка і апрацоўка якога (ракавінкі, туф, марскія камяні) імітуюць натуральную пячору. Г. былі шырока распаўсюджаны ў еўрапейскай садова-паркавай а р - х і т э к т у р ы ХУП — ХУШ стст. (у Расіі і на Беларусі — з ХУШ ст.).

ГРУНТ (ням. Grund — аснова) — у тэхналогіі ж ы в а п і с у тонкі прамежкавы слой спецыяльнага саставу, нанесены на паверхню сцяны, дошкі, палатна, кардону, каб забяспечыць трывалую сувязь а с н о в ы і фарбаванага слою, стварыць пажаданы колерны ф о н і фактуру. Г. бывае клеявы, алейны і эмульсійны.

ГРЫЗАЙЛЬ (франц. grisaille ад gris — шэры) — I. К л е я в ы манахромны жывапіс, часцей за ўсё ў шэрым тоне, пераважна дэкаратыўнага прызначэння. Выкарыстоўваецца ў насценных р о с п і с а х і п а н о, якія імітуюць скульптурныя р э л ь е ф ы. 2. Р а с п і с в а н н е аднаколернай эмаллю (шэрай, рудой, ружовай). У абодвух выпадках дасягаецца эфект рэальнасці выяў. Пачатак прымянення жывапісу Г. адносіцца да ХУП ст., шырока распаўсюджаны ў размалёўках і н т э р"е р а ў у стылі к л а с і ц ы з м у. На Беларусі шырока ўжываўся ў дэкараванні культавых і палацавых будынкаў у канцы ХУШ — пачатку XIX ст.

ГУАШ (франц. gouache ад італьян. guazzo — вадзяная фарба) — I. Расцёртая на вадзе і клеі з замешкай бялілаў непразрыстая фарба, якой працуюць пераважна па паперы, кардоне, фанеры, палатне, шоўку. 2. Тэхніка жывапісу Г. фарбамі. 3. Твор жывапісу, выкананы такімі фарбамі. Была вядома ў Старажытным Егіпце, шырока выкарыстоўвалася ў сярэднявеччы і ў час Адраджэння. Зараз — адзін з асноўных матэрыялаў п л а к а т а.

ГУРТ (ням. Gurt , літар. пояс, папруга) — I. Арка з абчасаных клінападобных камянёў або цаглін, якая ўмацоўвае рэбры крыжовага, сеткавага, зорчатага і інш. формы с к л я п е н н я; тое ж, што і н е р в ю р а. 2. Прафіліраваная гарызантальная



цяга, якая расчляняе ф а с а д будынка на я р у с ы, выконвае дэкаратыўную функцыю.

## Д

ДАДАІЗМ (франц. dadaïsme ад dada — "конік", дзіцячы лепет). Мадэрнісцкая плынь у літаратуры, выяўленчым мастацтве і тэатральнай творчасці Заходняй Еўропы, якая ўзнікла ў 1916 г. у Цюрыху. Лідэр кірунку — румынскі паэт-эмігрант Т.Тцара. Дадаісты ненавідзелі варожую мастаку і творчасці буржуазную рэчаіснасць, але прыйшлі да адмаўлення рэчаіснасці наогул. На выставах яны дэманстравалі калажы, якія выклікалі абурэнне публікі. Дадаісты наклейвалі на палатно абрыўкі фатаграфій, газет, кавалкаў мачалы, вяроўкі, гузікі, шкло і г.д., а таксама экспанавалі самыя празаічныя прадметы побыту. Д. распаўся ў 1924 г. Ён даў пачатак значна больш глыбокай і цікавай плыні ў мастацтве XX ст. — с ю р р э а л і з м у.

ДАНЖОН (франц. donjon ) — галоўная, асобна размешчаная вежа сярэдневяковага з а м к а, пабудаваная ў недаступным месцы і прызначаная быць жыллём феадала. Унікальным помнікам абарончага д о й л і д с т в а другой паловы ХШ ст з"яўляецца вежа-Д., якая захавалася да нашага часу ў г.п. Камянец Брэсцкай вобласці (Камянецкая вежа).

ДАРЫЧНЫ ОРДЭР — адзін з трох асноўных архітэктурных о р - д э р а ў, які склаўся ў Старажытнай Грэцыі ў УП ст. да н.э. Вызначаецца найбольш важкімі прапорцыямі і параўнальна простай к а п і т э л л ю, складзенай з буйной падушкі — э х і н а і вышэйлеглай пліты — а б а к і. Гл. ОРДЭР АРХІТЭКТУРНЫ.

ДЗЕСЮДЭПОРТ (франц. dessus de porte ) — дэкаратыўнае, звычайна жывапіснае або скульптурнае п а н о, размешчанае над дзвярыма і служачае разам з тым элементам аздаблення усёй сцяны. Д. шырока прымяняўся ў апрацоўцы народных інтэр"ераў у Еўропе ў ХУП — ХУШ стст.

ДЗЯЦІНЕЦ — назва ўмацаванай часткі старажытнага славянскага горада. Рэшткі Д. знойдзены на тэрыторыі беларускіх гарадоў Віцебск, Полацк, Барысаў.

ДОЙЛІДСТВА — тое, што а р х і т э к т у р а. Тэрмін больш ужываецца для абазначэння народнай архітэктуры.

ДРАПІРОЎКА (франц. draperie ) — агульны характар і размяшчэнне складак на тканіне; адзін са сродкаў стварэння

мастацкага вобраза. Выкарыстоўваецца ў афармленні і н т э р"- е р а ў і жылых будынкаў, т э а т р а л ь н а - д э к а р а - ц ы й н ы м і в ы ш у л е н ч ы м м а с т а ц т в е.

ДРЭВАРЫТ — старажытная назва г р а в ю р ы н а д р э в е на тэрыторыі Беларусі ў ХУІ — ХУП стст. Гл. ГРАВЮРА.

ДУЧЭНТА (італьян. *ducento* — трынаццатае стагоддзе, літаральна — дзвесце) — назва перыяду ў гісторыі італьянскай культуры, які ахоплівае ХШ ст. і дае пачатак мастацтву п р о т а р э н е с а н с а.

ДЫВІЗІЯНІЗМ — тое, што п у а н т ы л і з м.

ДЫЗАЙН (англ. *design* — праектаваць, праект, план, малюнак) — разнавіднасць мастацка-праектнай дзейнасці па стварэнні прамысловых вырабаў і рацыянальным фарміраванні цэласнага прадметнага асяроддзя.

ДЫНЬКА — у а р х і т э к т у р ы дэкаратыўная дэталь (патаўшчэнне) слупоў, калонак, ліштваў акон і дзвярных п а р т а л а ў. Мае круглую або дынепадобную форму. Была пашырана ў рускай мураванай а р х і т э к т у р ы ХУ — ХУП стст., у драўляным д о й л і д с т в е — да канца ХУШ ст. На Беларусі Д. сустракаецца пераважна ў пабудовах XIX — пачатку XX ст. с т ы л я ў п с е ў д а р у с к а г а і м а д э р н.

ДЫПТЫХ (грэч. *diptychos* — падвоены, складзены ўдвая) — 1. Двухстворкавы с к л а д з е н ь з жывапіснай ці рэльефнай кампазіцыяй на кожнай створцы. 2. Дзве карціны, аб"яднаныя адзінай задумай.

ДЭЗУРБАНІЗМ (ад дэз... і лац. *urbanus* — гарадскі) — накірунак у градабудаўніцтве XX ст., які адмаўляе станоўчую сацыяльную ролю буйных гарадоў і заклікае да разгрупавання насельніцтва за іх межамі.

ДЭІСУС (грэч. *deesis* — маленне) — старажытнаруская назва к а м п а з і ц ы і, пасярэдзіне якой адлюстраваны Ісус Хрыстос, а па баках — звернутыя да яго Матка Боская і Іаан Хрысціцель. У і к а н а п і с е першапачаткова выконваўся на адной дошцы. Потым з"явіліся Д. на трох асобных дошках і шматчастковыя Д.

ДЭКАДЭНЦТВА (франц. *décadence* ад позналац. *decadentia* — заняпад) — агульнае найменне крызісных з"яў і тэндэнцый у еўрапейскай культуры апошняй трэці XIX — пачатку XX стст. Часам даследчыкі указваюць пэўную дату, перыяд 1880—1910 гадоў, што



здаецца занадта педантычным, бо дэкадэнцкія тэндэнцыі ў еўрапейскім м а с т а ц т в е паступова нарасталі з 50 - 60-х гадоў XIX ст., і пераход Д. у м а д э р н і з м таксама не быў імгненным актам, а адбываўся на працягу палутара — двух дзесяцігоддзяў. Сутнасць Д. — заняпадніцкі уманастрой, адчуванне безнадзейнасці, непрыняцце жыцця, індывідуалізм, ідзе прыстасаванне ўжо выпрацаваных мастацкіх сістэм і стыляў, выкарыстоўваюцца эклектычна іх выразныя сродкі. Як характэрная з"ява часу Д. не паддаецца замацаванню за адным якім-небудзь кірункам ці мастаком, нікто і нішто не ўмяшчаецца ў межах Д. цалкам, але многія буйныя майстры літаратуры і мастацтва адлюстравалі дэкадэнцкія настроі і пачуцці ў сваіх творах, як напрыклад, мастакі аб"яднаній "Свет мастацтва", "Блакітная ружа" (Расія).

ДЭКАРАТЫЎНАЕ МАСТАЦТВА — галіна пластычных мастацтваў, якія фарміруюць эстэтычную і вобразную аснову навакольнага асяроддзя. Д.м. падзяляецца на манументальна-дэкаратыўнае (архітэктурны д э к о р, д э к а р а т ы ў н ы ж ы в а п і с, д э к а р а т ы ў н а я с к у л ь п т у р а), д э к а р а т ы ў н а - у ж ы т к о в а е м а с т а ц т в а і афармленчае мастацтва. Творы Д.м. адыгрываюць істотную ролю ў аб"ёмна-прасторавай арганізацыі а н с а м б л я плошчы, вуліцы, парку, будынка і і н т э р"е р а як яго арганічныя элементы альбо дэталі.

ДЭКАРАТЫЎНА - УЖЫТКОВАЕ МАСТАЦТВА — стварэнне мастацкіх вырабаў для выкарыстання ў побыце і яго упрыгожвання. Гэта мэбля, дываны, в ы ш ы ў к а, адзенне, вазы, посуд, цацкі, ювелірныя і ганчарныя вырабы, шыльды, вулічныя ліхтары, а таксама арнаментальныя р о с п і с ы і скульптурна-дэкаратыўная апрацоўка і н т э р"е р а ў і ф а с а д а ў пабудоў, абліцовачная к е р а м і к а, в і т р а ж ы і г.д. Д.-у.м. — адзін з найбольш распаўсюджаных і папулярных на Беларусі відаў мастацтва.

ДЭКАРАТЫЎНАЯ СКУЛЬПТУРА — скульптура, прызначаная для выяўлення чляненняў а р х і т э к т у р ы, упрыгожвання ф а с а д а ў і і н т э р"е р а ў пабудоў, плошчаў, вуліц і паркаў.

ДЭКАРАТЫЎНЫ ЖЫВАПІС — ж ы в а п і с, які з"яўляецца часткай архітэктурнага а н с а м б л я ці твораў д э к а р а т ы ў н а - у ж ы т к о в а г а мастацтва і не мае самастойнага значэння. Бывае ў выглядзе м а з а і к і, п а н о, р а з м а л ё ў к і.

ДЭКАРА́ЦЫЯ (франц. décoration — упрыгожвання) — I. Твор дэкарацыйнага ж ы в а п і с у, прызначаны для мастацкага афармлення тэатральнай пастаноўкі. 2. У шырокім сэнсе — комплекс выразных сродкаў для афармлення тэатральнай сцэны, тэлевізійнай студыі, кінапавільёна.

ДЭКО́Р (франц. décor ад лац. decoro — упрыгожваю) — сістэма ўпрыгожвання пабудоў (ф а с а д а, і н т э р" е р а) або твораў д э к а р а т ы ў н а — ў ж ы т к о в а г а мастацтва. Д. спрыяе зрокаваму аб"яднанню ў адзінае цэлае архітэктурных аб"ектаў, прадметаў хатняга ўжытку, адзення.

ДЫ́МНІК — у драўляным дойлідстве: І. адтуліна у столі курной хаты для выхаду дыму, часам мела аформлены дымаход - драўляны або сплецены з лазы атынкаваны комін. 2. Невялікі франтончык, звычайна трохвугольны, у завяршэнні тарцовага схілу вальмавага даху. Першапачаткова прызначаўся для выхаду дыму ад курной печы. Паступова ператварыўся у дэкаратыўны элемент даху.

ДЫНА́МІКА (грэч. dynamikos моцны ад dýnamis сіла) — сукупнасць кампазіцыйных і дэкаратыўных прыёмаў, якія надаюць архітэктурным творам характар накіраванага руху мас у прасторы; адзін са сродкаў мастацкай выразнасці.

ДЫЯРА́МА (грэч. dia цераз, скрозь hórama від, відовішча) — від жывапісу, у якім стужкападобная карціна, вертыкальна нацягнутая на ўнутранай паверхні паўкруглага ў плане падрамніка, спалучаецца з аб"ёмным, бутафорскім, пярэднім планам, макетам. Разлічана на штучнае асвятленне. Д. ствараe ілюзію шырокіх прастораў і паказвае пераважна батальныя сцэны. Першая Д. была створана Л.Ж. Дагерам у 1822 г. ў Парыжы.

ДЭНТЫ́КУЛЫ (ад лац. denticulus — зубец), зубчыкі, сухарыкі — рад невялікіх дэкаратыўных прамавугольных выступаў на к а р н і з е ў і а н і ч н ы м, к а р ы н ф с к і м о р д э р а х і адным з варыянтаў рымска-дарычнага ордэра. Праобразам Д. былі рады тарцоў бэлек-брусоў, якія перакрывалі п о р ц і к у пабудовах Старажытнай Грэцыі. На Беларусі Д. выкарыстоўвалі як д э к о р у культавай і грамадзянскай а р х і т э к т у р ы сярэдзіны ХУІІІ - XIX стст. на ф а с а д а х і ў і н т э р" е р ы.



## Ж

ЖАНР (франц. genre — род, від) — у большасці відаў м а с т а ц т в а гістарычна склаўшыяся тэматычныя накірункі. Прынцыпы падзелу на Ж. спецыфічны для кожнай з галін мастацкай творчасці. Адрозніваюць у асноўным наступныя Ж.: г і с т а р ы ч н ы, б а т а л ь н ы, б ы т а в ы, п а р т р э т, п е й з а ж, н а ц ю р м о р т і інш.

ЖА́НРАВЫ ЖЫ́ВАПІС — гл. БЫТАВЫ́ ЖАНР.

ЖЫ́ВАПІС — від в ы я ў л е н ч а г а м а с т а ц т в а, творы якога ствараюцца з дапамогай каляровых матэрыялаў, нанесеных на якую-небудзь цвёрдую паверхню. Ж. падзяляецца на м а н у м е н т а л ь н ы, д э к а р а т ы ў н ы, д э к а р а ц ы й н ы і м і н і я ц ю р у. Па змесце Ж. падзяляецца на ж а н р ы. Па тэхніцы выканання адрозніваюць Ж.: а л е й н ы, к л е я в ы, в а с к о в ы, а к в а р э л ь, г у а ш, т э м п е р у, п а с т э л ь, ф р э с к у і інш. У аснове жывапісных мастацкіх сродкаў ляжаць к о л е р у адзінстве са с в е т л а ц е н н ю. Старажытнымі ўзорамі Ж. з"яўляюцца наскальныя размалёўкі эпохі палеаліту. На тэрыторыі Беларусі Ж. як самастойны від мастацтва з"явіўся ў XI—XII стст.

ЖЫ́ВАПІС ПА СЫРЫ́М, а́ла пры́ма — тэхнічная разнавіднасць а л е й н а г а ж ы в а п і с у, выконваемага за адзін сеанс, пакуль не высахлі фарбы.

## З

ЗАКАМА́РА — паўкруглае завяршэнне верхняй часткі вонкавай сцяны, якое адпавядае форме ўнутранага с к л е п е н н я. Ф а с а д будынка мог мець некалькі З. Маюць З. Сафійскі сабор (XI ст.) і Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку (XII ст.), Барысаглебская царква ў Гродне (XII ст.), а таксама х р а м ы псеўдарускага с т ы л ю другой паловы XIX — пачатку XX ст.

ЗА́МАК — тып абарончага збудавання, умацаванае жыллё феадала, пабудаванае ў зручным месцы. Галоўным яго збудаваннем з"яўляецца д а н ж о н, акружаны сценамі, валамі і равамі. У архітэктурны комплекс З. уваходзяць таксама гаспадарчыя і службовыя памяшканні. Былі распаўсюджаны на Беларусі, напрыклад, Мірскі З., Стары З. у Гародні і інш.

ЗАМАЛЁЎКА — 1. М а л ю н а к з натуры, які звычайна выконваюць па-за майстэрняй для наступнага стварэння больш значнай працы або з мэтай практыкавання. 2. Малюнак, бегла і хутка выкананы мастаком.

ЗАМО́К (замко́вы камень) — у архітэктуры клінападобны камень або цэгла, якімі завяршаюць с к л е п е н н е ці а р к у. Часта аздоблены арнаментальнай альбо скульптурнай апрацоўкай, што робіць яго дэкаратыўнай дэталлю.

ЗАФО́РНЫ ФРЫЗ — безупынны ф р ы з у выглядзе стужкі ў антычных збудаваннях, часам пакрыты рэльефнымі выявамі.

ЗВАНІ́ЦА — в е ж а побач з х р а м а м з адкрытым ярусам для званоў. Шырока вядома З. Івана Вялікага ў Маскоўскім Крамлі. На Беларусі ёсць З. ў в. Бялевічы Івацэвіцкага р-на, Валожыне.

ЗВЕРАПАДО́БНЫ СТЫЛЬ, тэраталагічны стыль (грэч. teras — страшыдла) — тып арнаментацыі, адметнай рысай якога з"яўляюцца стылізаваныя выявы асобных жывёл, частак іх цела, сцэн барацьбы звяроў. З.с. склаўся і шырока распаўсюдзіўся ў жалезным веку (І тысячагоддзе да н.э.).

ЗІКУРА́Т — у а р х і т э к т у р ы Вавілона і Асірыі шматярусная ступенчатай формы храмавая в е ж а.

ЗЛЕ́ПАК — дакладная к о п і я скульптурнага твору, звычайна зробленая з гіпсу.

ЗМЕСТ І ФО́РМА — у м а с т а ц т в е непарыўна звязаныя і ўзаемаабумоўленыя катэгорыі, з якіх З. паказвае на тое, што менавіта адлюстравана і выяўлена ў творы м а с т а ц т в а, а Ф. — на тое, якімі сродкамі гэта дасягнута.

ЗУБЦЫ — завяршальная дэталь крэпасных сцен, вежаў, з а м к а ў, гарадскіх р а т у ш а ў, якая мае абарончае ці архітэктурна-дэкаратыўнае прызначэнне. Прыкладам крэпасных сцен з З. з"яўляецца Маскоўскі Крэмль.

І

ІАНІ́ЧНЫ О́РДЭР — антычны архітэктурны ордэр, больш дэкаратыўны ў параўнанні з д а р ы ч н ы м. Іанічная к а л о н а мае канелюры і характэрную к а п і т э л ь, створаную



дзвюма павернутымі ўніз спіральнымі в а л ю т а м і. Гл. ОРДЭР АРХІТЭКТУРНЫ. На тэрыторыі Беларусі І.о. выкарыстоўваўся ў эпоху к л а с і ц ы з м у (палац Румянцавых—Паскевічаў у Гомелі, канец ХУІІІ—ХІХ стст.) у а р х і т э к т у р ы пасляваеннага часу (уваход у Батанічны сад у Мінску, 50-я гг.).

ІЕБІЦА — зрубная надбудова над замкавай в е ж а й ці над драўлянай замкавай сцяной, завершаная ш а т р о м, абарончага прызначэння. Выкарыстоўвалася ў драўляным д о й л і д с т в е Беларусі, Польшчы, Украіны ХУІ—ХУІІ стст.

ІЗОГРА́Ф (грэч. isos — падобны, аднолькавы + graphō — пішу, малюю) — у старажытнай Русі найменне вопытнага майстра-іканапісца.

ІКАНАГРА́ФІЯ (ад грэч. eikōn — выява, і graphō — пішу, апісваю) — 1. Строга ўстаноўленыя правілы адлюстравання святых, біблейскіх і апакрыфічных сцэн; у сярэдневяковым м а с т а ц т в е патрэбна было няўхільна прытрымлівацца гэтых правіл і ўзораў. 2. Сукупнасць вываў якога-небудзь біблейскага або міфалагічнага персанажа.

ІКАНАПІ́С — пісанне а б р а з о ў, від станковага жывапісу, рэлігійнага па тэмах і сюжэтах, культавага па прызначэнні. І. вядомы з УІ ст. у візантыйскім м а с т а ц т в е, адкуль прыйшоў у краіны з праваслаўным веравызнаннем, у тым ліку і на Беларусь. У гістарычнай літаратуры ўпамінаюцца беларускія а б р а з ы ХІІ—ХІУ стст. "Маці Боская Эфеская" з Полацка, "Дзмітрый Салунскі" з вёскі Шчорсы Навагрудскага раёна. Але пакуль яшчэ не ўдалося знайсці помнікаў І. ХІІ—ХУ стст. Беларускі І. развіваўся пад непасрэдным уплывам візантыйскага мастацтва, у ХУІ ст. склалася самабытная Беларуская іканапісная школа, для якой характэрны моцны ўплыў фальклору, народнага мастацтва. Гл.: БЕЛАРУСКАЯ ІКАНАПІСНАЯ ШКОЛА.

ІКАНАСТА́С (грэч. eikōn — выява, вобраз + stásis — месца стаяння) — сценка, на якой размешчаны ў строга ўстаноўленым парадку рады а б р а з о ў. І. аддзяляе а л т а р ад астатняй часткі праваслаўнага х р а м а. У цэнтры І. знаходзяцца "царскія вароты", якія вядуць у алтар. У ніжнім я р у с е І. змяшчаюцца абразы мясцовых святых, якім прысвечаны храм. Над імі належыць быць абразам "д э і с у с н а г а

р а д а" (у Візантыі гэты рад абмяжоўваўся выявамі Ісуса Хрыста, Маці Боскай і Іаана Прадцечы). Яшчэ вышэй месца абразоў "святочнага рада", якія адлюстроўваюць евангелічныя падзеі -- ад "Благавешчання Маці Боскай" да Успення. Потым ідзе "прарочы рад" з выявамі прарокаў. З канца XIУ -- пачатку ХУ ст. ніз-кі І. візантыйскага тыпу канчаткова высцяснеецца т.зв. высокім -- абавязковай часткай убрання царквы. З ХУІ ст. у кампазіцыю І. шырока ўваходзіць драўляная разьба, абразы ўсё часцей аздабляюцца багатымі арнаментальнымі рызамі з жэмчугам і камянямі. Беларускі І. вызначаўся пэўнымі асаблівасцямі. Ён складаўся з "мясцовага", "святочнага", "апостальскага" і "прарочага" радоў. Асноўную сэнсавую і дэкаратыўную ролю адыгрываў "апостальскі" рад, які фактычна выконваў ролю "дэісуснага чына". У ХУІІ--ХУІІІ стст. беларускія І. багата аздабляліся разьбой, размалёўкай, пазалотай, серабрэннем.

ІКО́НА (ад грэч. *eikōn* -- выява, вобраз) -- гл. АБРАЗ.

ІЛЮСТРА́ЦЫЯ (лац. *illustratio* -- асвятленне, наглядная выява) -- галіна мастацкай г р а ф і к і, вобразнае адлюстраванне і каменціраванне тэксту ў выглядзе малюнка, г р а в ю р ы, фотаздымка, р э п р а д у к ц ы і і да т.п.

ІМПО́СТ (франц. *imposte* ) -- 1. Прафіляваная архітэктурная дэталь над слупам, л а п а т к а й ці к а п і т э л л ю калоны (часта ў форме а н т а б л е м е н т а), якая служыць апорай для п я т ы а р к і; 2. Архітэктурна-дэкаратыўны элемент, вузкі прасценак, які падзяляе дзвярны або аконны праём па вертыкалі.

ІНТА́РСІЯ (ад італьян. *intarsio* -- інкрустацыя) -- Гл. ІНКРУСТАЦЫЯ.

ІНТЭ́Р"ЕР -- 1. У а р х і т э к т у р ы -- аформленая ўнутраная прастора памяшкання, якая забяспечвае чалавеку спрыяльныя ўмовы жыццядзейнасці. 2. У ж ы в а п і с е -- ж а н р, у якім прадметам адлюстравання з"яўляюцца ўнутраныя архітэктурныя прасторы: пакоі, залы, а н ф і л а д ы. Дасягнуў росквіту ў ХУІІ ст. у жывапісе галандскіх і фламандскіх майстроў. У рускім мастацтве шмат І. у мастакоў школы Венецыянава. 3. У д э к а р а т ы ў н а - у ж ы т к о в ы м м а с т а ц т в е -- апрацоўка, афармленне ўнутранага памяшкання.



ІНТЭРКАЛУ́МНІЙ (лац. *intercolumnium*, ад *inter* -- паміж і *columna* -- калона, слуп) -- пралёт паміж дзвюма суседнімі калонамі. Пашыраны ў ордэрнай архітэктуры. Гл.: ОРДЭР.

ІМПРЭСІЯНІ́ЗМ (франц. *impressionnisme* ад *impression* -- у р а ж а н н е) -- адзін з самых яскравых мастацкіх накірункаў апошняй трэці XIX ст. у Еўропе, абвясціўшы асноўнай мэтай м а с т а ц т в а адлюстраванне імгненняў, мімалётных уражанняў, пачуццёвых суб"ектыўных адчуванняў мастака. Фактычна мастакі-імпрэсіяністы імкнуліся дасягнуць асаблівага натуралізму дакладным аналізам тону і колеру і спробай паказаць гульню святла на паверхні прадметаў. Назва І. з"явілася пасля першай выставы І. у 1874 г., на якой экспанавалася карціна Клода Манэ "Уражанне. Узыходзячае сонца" (1872). Асобныя рысы І. намеціліся ў творчасці французскіх мастакоў Э. Манэ, Д.Дэга ў 60-я гг. , росквіт яго прыйшоўся на 70-я гг. XIX ст. (К.Манэ, А. Рэнуар, К. Пісаро). На змену І., які шэраг даследчыкаў лічаць першым сучасным напрамкам, прыйшлі пуантылізм, неаімпрэсіянізм (А.Сіслей, П.Сіньяк), п о с т і м п р э с і я н і з м (В.Ван Гог, П. Гаген, А. Тулуз-Латрэк, П.Сезан).

ІНКРУСТА́ЦЫЯ (ад лац. *incrusto* -- пакрываю чым-небудзь) -- від мастацкай апрацоўкі вырабаў кавалачкамі мармуру, керамікі, металу, дрэва, маціцы, урэзаных у паверхню і стварающых пэўную выяву. Вядомы І. дрэвам па дрэве (інтарсія), металам па метале (насечка), каменнем па камені. Але часцей за ўсё І. выконваецца іншым матэрыялам, чым той, што ўзяты за аснову. На Беларусі І. шырока прымяняецца ў д э к а р а т ы ў н а - у ж ы т к о в ы м м а с т а ц т в е, дзе зыходнымі матэрыяламі часцей за ўсё бываюць дрэва, салома, гліна.

## К

КАКО́ШНІК -- паўкруглае ці кілепадобнае завяршэнне сцен збудаванняў у ХУІ--ХУІІ стст., аналагічнае з а к а м а р ы. Адрозніваецца ад закамар тым, што мае толькі дэкаратыўнае значэнне. Выкарыстоўваліся таксама ў старажытным беларускім д о й л і д с т в е (Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква, XII ст.), у культавай архітэктуры псеўдарускага с т ы л ю ў другой палове XIX -- пачатку XX ст.

КАЛА́Ж (франц. *collage* -- наклейванне) -- І. Тэхнічны прыём у в ы я ў л е н ч ы м м а с т а ц т в е, калі на якую-не-

будзь аснову наклейваюць матэрыял, які адрозніваецца па колеру і фактуры. Быў уведзены кубістамі (гл.: КУБІЗМ) і дадаістамі (гл.: ДАДАІЗМ). Яны прымацоўвалі да палатна абрыўкі газет, фатаграфій, шпалераў, кавалкі тканіны, трэсак і г.д. 2. Твор, цалкам выкананы гэтым прыёмам.

КАЛАНАДА (франц. colonnade) — шэраг калон, звязаных перакрыццем з аркамі, ці без іх. Выкарыстоўвалася ў архітэктуры Старажытнага Егіпта, Грэцыі і Рыма, краін Еўропы ў стылях Адраджэння, барока (Свяцкі палац) і класіцызму (палацы ў Гомелі, Паставах, у в. Снову Нясвіжскага раёна), савецкага часу (галоўны корпус АН РБ, Мінскі Палац культуры Белсаўпрофа і інш.).

КАЛАРЫТ (лац. color — колер, афарбоўка) — сістэма каляровых спалучэнняў у творах жывапісу, каляровай графікі. Галоўная зыходная ўласцівасць К. — багацце і ўзгодненасць каляровых адценняў, што дазваляе праўдзіва перадаць у адзінстве са светлаценню разнастайныя прадметныя ўласцівасці. К., пабудаваны на чырвоных і жоўтых танах, называецца цёплым, на сініх і зялёных — халодным.

КАЛОНА (франц. colonne ад лац. columna) — 1. Архітэктурна апрацаваны, круглы ў сячэнні апорны слуп, які складаецца са ствала і капітэлі зверху, якія яго дапаўняюць, і базы знізу. 2. Жалезабетонны ці стальны вертыкальны апорны элемент у сучасных пабудовах. Як элемент стоечна-бэлечнай канструкцыі К. вядома са старажытных часоў.

КАЛОС (грэч. kolossos — вялікая статуя) — 1. Першапачаткова — велізарная пазалочаная статуя старажытнагрэчаскага бога Сонца Геліоса каля 31 метра вышынёй, пастаўленая скульптарам Харэсам з Ліндаа ў гавані вострава Радос у 280 г. да н.э. і разбураная землетрусам у 225 г. да н.э. 2. Наогул — велічэзны помнік, пабудова, ці прадмет.

КАЛЬКАВАННЕ (франц. calcue) — перавод контураў выявы на пакладзеную зверху празрыстую паперу.

КАМПАНІЛА (італьян. campanile) — у італьянскай архітэктуры сярэднявечча і Адраджэння чатырохгранная або круглая



шмат"ярусная вежа-званіца, якая звычайна стаіць асобна ад храма.

КАМПАЗІТНЫ ОРДЭР — антычны рымскі архітэктурны ордэр. К.о. захоўвае ў цэлым прапорцыі карынфскага ордэра, мае падкрэслена дэкаратыўны характар, што асабліва наглядна праяўляецца ў занадта складанай капітэлі.

КАМПАЗІЦЫЯ (лац. compositio — складанне, сачыненне) — 1. Пабудова мастацкага твора, абумоўленая яго зместам, характарам і прызначэннем, суадносіны яго асобных частак, што складаюць адзінае цэлае. 2. Твор мастацтва, выніковы рэзультат дзейнасці мастака.

КАНЕЛЮРА (франц. cannelure — латак) — вертыкальны латачок на ствале калоны, пілона, пілястры.

КАНЁК — 1. У драўляным дойлідстве завяршэнне даху ў выглядзе фігуркі каня або птушкі. 2. Верхні гарызантальны руб даху, ствараемы перасячэннем двух або чатырох схілаў.

КАНОН (грэч. kanón — правіла, мерка) — у мастацтве сукупнасць цвёрда вызначаных прыёмаў, норм і правіл, якія лічыліся ў тую ці іншую эпоху абавязковымі, а таксама адпаведныя ім узоры чалавечых постацей, архітэктурнага ордэра і г.д.

КАНСОЛЬ (франц. console) — выступ у сцяне ў выглядзе каменя, пліты, бэлькі, прызначаны для падтрымкі карніза, балкона, скульптуры, вазы і да т.п.

КАНСТРУКТЫВІЗМ — напрамак у мастацтве 20-х гг. XX ст. (у архітэктуры, афармленчым і тэатральна-дэкарацыйным мастацтве, плакаце, мастацтве кнігі, мастацкім канструяванні), прадстаўнікі якога ставілі задачу "канструявання" навакольнага асяроддзя, дамагаліся асэнсаваць формастваральныя магчымасці новай тэхнікі, яе лагічных, мэтазгодных канструкцый, выкарыстаць эстэтычныя асаблівасці такіх матэрыя-

лаў, як метал, шкло, дрэва. На Беларусі К. выявіўся ў будынках Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (1932, арх. Г.Лаўроў), клуба металістаў (1932, арх. А.Васільеў) у Мінску.

КАНТРАПОСТ (франц. *contraposte* — працілегласць) — у выяўленчым мастацтве прыём, які дазваляе паставу адной часткі цела кантрасна супрацьпаставіць паставе другой (напрыклад, верхняя частка корпуса паказана ў павароце, ніжняя — франтальна). К. дынамізуе рытм постаці, дазваляе перадаць яе рух або напружанасць, не парушаючы агульнай раўнавагі форм, узмацняючы трохмернасць выявы.

КАПІТЭЛЬ (лац. *capitellum* — галоўка) — верхняя частка калоны, пілона, пілястры. Часта аздабляецца арнаментам.

КАПЛІЦА (італьян. *capella*) — у каталіцкай і англіканскай архітэктуры невялікае збудаванне без алтара для малітваў. К. размяшчаліся ў бакавых нефах храма або вянцом вакол хора. Будаваліся таксама ў замках, палацах, у выглядзе асобнай пабудовы, напрыклад, прыдарожныя К. Пашырыліся з ХУІ ст., у тым ліку на Беларусі.

КАРКАС (франц. *carcasse* — касцяк) — 1. У архітэктуры металічны або драўляны касцяк пабудовы, які складаецца са стоек і бэлек. 2. У тэхналогіі вырабу скульптур канструкцыя з жалезных пруткоў і дроту, якая з'яўляецца касцяком вырабу з гліны або гіпсу.

КАРНІЗ (ням. *karnies* ад грэч. *koronis* — канец, завяршэнне) — гарызантальны выступ на сцяне для падтрымкі даху і засцярогі сцяны ад дажджу, а таксама дэкаратыўнага аздаблення. К. бывае верхні (напрыклад, у антабleменце) і прамежкавы.

КАРТУШ (франц. *cartouche* ад італьян. *cartossio* — ліст. скрутак) - аздабленне ў выглядзе шчыта або няпоўнасцю разгорнутага скрутка, на якім змяшчаецца герб, эмблема або надпіс. Лепныя і разныя К. упрыгожваюць уваходы ў палацы. К. маляваліся на старадаўніх дакументах, геаграфічных картах, надмагільных плітах. Былі распаўсюджаны ў ХУІ--ХУІІІ стст.



КАРЦІНА — завершаны твор станкавага жывапісу, выкананы фарбамі на палатне, дошцы, кардоне, паперы ў адрозненне ад эцюда ці эскіза, а таму і мае самастойную мастацкую каштоўнасць.

КАРЫКАТУРА (італьян. *caricature* ад *caricare* — перабольшваць) — сатырычная або гумарыстычная карцінка, накіраваная на крытычную ацэнку тых ці іншых грамадска-палітычных і бытавых з'яў, канкрэтных асоб і падзей.

КАРЫНФСКІ ОРДЭР — трэці, поруч з дарычным і іанічным, ордэр антычнай архітэктуры, самы вытанчаны па сваіх прапорцыях. Гэта дасягаецца за кошт таго, што карынфская калона мае больш высокую карнізападобную капітэль. Увогуле ад іншых ордэраў адрозніваецца большай лёгкасцю прапорцый, насычанасцю дэкорам.

КАРЫЯТЫДА (грэч. *karyatides* — карыйскія дзевы) — скульптурная выява жаночай постаці, якая падтрымлівае бэлечнае перакрыцце ў пабудове, ці з'яўляецца дэкаратыўным аздабленнем. К. былі шырока распаўсюджаны ў антычнай архітэктуры і еўрапейскім дойлідстве ХУІІ--ХІХ стст.

КАТАКОМБЫ (італьян. — падземная грабніца) — падземныя памяшканні штучнага або натуральнага паходжання. У старажытнасці выкарыстоўваліся для адпраўлення рэлігійных абрадаў і для пахавання нябожчыкаў.

КАТЭДЖ (англ. *cottage*) — традыцыйны тып англійскага індывідуальнага гарадскога ці загараднага жылога дома. У сучаснасці шырока распаўсюджаны ў многіх краінах свету.

КАЎЧЭГ — у іканапісе паглыбленая частка дошкі ў цэнтры, дзе змяшчаецца кампазіцыя.

КАФЛЯ (ням. *Kachel*) — керамічныя пліткі з малюнкам для абліцоўкі камінаў, печаў, сцен. К. бывае глазураваная або неглазураваная — маёлікавая (тэракотавая). З адваротнага боку мае пусты карабок (румпу) для мацавання ў мурoўцы. На Беларусі К. вырабляецца з ХІУ ст. Вядома Віцебская (ХІУ-ХУІІІ стст.), Гродзенская (ХІУ-ХІХ стст.); Заслаўская, Мінская, Мсціслаўская (ХУ-ХУІІІ стст.); Магілёўская, Мірская (ХУ-пач.ХХ ст.) К.

КВАДРЫ́ГА — аб"ёмная скульптурная выява, калясніцы, запрэжа-
най чацвёркай коней. Змяшчалася на а т ы к а х пабудоў. У
антычнай рымскай а р х і т э к т у р ы увенчвала трыумфаль-
ныя а р к і.

КВАТРАЧЭ́НТА (італьян. quattrocento — літ. чатырыста) —
у мастацтвазнаўчай літаратуры назва перыяду Ранняга А д р а -
д ж э н н я у Італіі, які адносіцца да XV стагоддзя.

КЕРА́МІКА (грэч. keramikos — гліняны, ганчарны) — 1. Вы-
творчасць ганчарных вырабаў; у шырокім сэнсе — сукупнасць выт-
ворчасцей разнастайных вырабаў з гліны — ад цэглы да найтан-
чэйшага фарфору. 2. Вырабы з гліны або іх сумесей з рознымі не-
арганічнымі спалучэннямі з наступным спецыяльным абпалам. Ас-
ноўнымі відамі К. з"яўляюцца т э р а к о т а, м а ё л і к а,
ф а я н с, ф а р ф о р. Першыя керамічныя вырабы у т.л. на тэры-
торыі Беларусі вядомы з эпохі неаліту. За стагоддзі склаліся
цэнтры мастацкай К., сфарміраваліся мясцовыя мастацкія с т ы-
л і (Бабінавіцкая, Бабруйская, Віцебская, Гарадзянская, Гара-
доцкая, Дубровенская, Заслаўская, Івянецкая, Крэўская, Мінская,
Мірская, Мсціслаўская, Поразаўская К.).

КЕСО́Н (франц. caisson — літ.скрыня) — паглыбленне квад-
ратнай ці шматвугольнай формы на столі, с к л я п е н н і. Вы-
конвае дэкаратыўную або канструкцыйную ролю, паляпшае акустыку.

КЛА́СІКА (ад лац. clasicus — што належыць да першага класа,
у пераносным сэнсе — узорны) — 1. У гісторыі м а с т а ц т-
в а эпоха найвышэйшага развіцця а н т ы ч н а г а м а с-
т а ц т в а у старажытнагрэчаскіх рабаўладальніцкіх полісах,
галоўным чынам Афін, у V—IV стст. да н.э. 2. У шырокім сэнсе
тэрмін К. раўназначны паняццю "класічнае мастацтва".

КЛАСІЦЫ́ЗМ (ад лац. clasicus — узорны) — кірунак у
еўрапейскай мастацкай культуры другой паловы XVII — першай
трэці XIX ст., звязаны з вяртаннем да антычных узораў і сістэ-
май строгіх эстэтычных к а н о н а ў. У выяўленчым
м а с т а ц т в е К. як цэласная сістэма сфарміраваўся ў Фран-
цыі, дзе ён прадстаўлены імёнамі Н.Пусэна, К.Ларэна (XVII ст.),
Ж.Л.Давіда, А.Гудона (2-я пал. XVIII — пачатак XIX ст.). У мас-
тацтве Беларусі К. з"явіўся, як і ў Расіі, у другой палове
XVIII ст. Вялікую ролю ў яго развіцці адыграла заснава-



ная ў 1757 г. А к а д э м і я м а с т а ц т в а ў. У ар-
х і т э к т у р ы пабудоў у с т ы л і К. пераважае строгасць,
прастата дэкаратыўнай апрацоўкі ф а с а д а ў, правільныя
геаметрычныя планы, кампактнасць аб"ёмаў. З канца XVIII ст. К.
пануе ў беларускай архітэктуры. Складаюцца ў адпаведнасці з
прынцыпамі К. новыя праектныя планы гарадоў, вядзецца упарад-
каванне вулічнай сеткі, узбуйняюцца кварталы. Сярод выдатных
помнікаў беларускага К. — Іосіфаўскі сабор у Магілёве, Петра-
паўлаўскі сабор у Гомелі, Гомельскі, Жыліцкі, Сноўскі палацы і
інш.

КЛЕЯВЫ́ ЖЫВАПІС — разнавіднасць ж ы в а п і с у, калі ў яка-
сці сувязнага элемента да фарбаў дабаўляецца клей жывёльны (ры-
бавы, мяздравы, косткавы, казеінавы) або раслінны (з крухмалу
ці іншага рэчыва). Фарбы ў гэтым выпадку робяцца непразрыстымі,
а жывапісная паверхня матавай. Аднак пры большай насычанасці
клею ў фарбе паверхня набывае бляск, а колер — павышаную інтэн-
сіўнасць. К.ж. быў вядомы ў Старажытным Егіпце. Выкарыстоўваўся
ў Расіі з XVII ст. у спалучэнні з ф р э с к а й і т э м п е -
р а й. У XX ст. прымяняецца галоўным чынам для стварэння тэат-
ральных д э к а р а ц ы й і эскізаў, дэкаратыўных п а н о,
п л а к а т а ў.

КЛІШЭ́ (франц. cliché ) — друкаваная форма з цынку, дрэва
і іншых матэрыялаў з рэльефным малюнкам. Служыць для ўзнаўлення
ілюстрацый у друку.

КЛЯЙМО́ — 1. У і к а н а п і с е к а м п а з і ц ы я з
самастойным сюжэтам. К. размяшчаецца вакол цэнтральнай выявы,
дапаўняе і абрамляе яе; 2. У д э к а р а т ы ў н а - у ж ы т -
к о в ы м м а с т а ц т в е невялікага памеру знак на вырабе,
які паказвае вытворчасць, месца яе знаходжання, майстра або
іншыя звесткі.

КО́ЛЕР (ад лац. color — колер). — 1. Адзін з асноў-
ных сродкаў в ы я ў л е н ч а г а м а с т а ц т в а, які ад-
люстроўвае ў адзінстве з с в е т л а ц е н н ю матэрыяльныя
уласцівасці прадметнага свету. 2. Якасць асобнага колернага т о -
н у ў ансамблі мастацкага твора.

КО́МІКС (англ. comics ) — апавяданне ў карцінках з зада-
дзеным тэкстам, галоўным чынам прыгодніцкага зместу; К. узніклі

у ЗША і распаўсюдзіліся па ўсіх краінах свету.

КОНТРФО́РС (франц. contrefort — процідзейная сіла) — вертыкальны выступ сцяны, які павялічвае ўстойлівасць пабудовы, адзін з асноўных элементаў гатычнай а р х і т э к т у р ы (гл.: ГОТЫКА). На Беларусі пашырыліся ў ХУІ—ХУІІІ стст. (Навагрудская, Барысаглебская царква, касцёл у в. Гервяты Астравецкага раёна).

КО́НТУР (франц. contour ) — а б р ы с, лінія, якая абводзіць і падкрэслівае ф о р м у прадмета.

КО́НХА (грэч. Konchē — ракавіна) — паўкупал, с к л я п е н н е над паўцыліндрычнымі часткамі пабудоў, напрыклад, а п с і д а й, н і ш а й. Шырока выкарыстоўваліся ў еўрапейскай а р х і т э к т у р ы. На Беларусі К. вядомы з XI—XII стст. (Полацкі, Сафійскі сабор, Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква, Гродзенская Барысаглебская царква), пашырыліся у ХУІ—XIX стст. (Троіцкі касцёл у в. Чарнаўчыцы Брэсцкага раёна, Мікалаеўская царква ў Магілёве, Варварынская царква у Пінску і інш.).

КО́ПІЯ (ад лац. copia — мноства) — мастацкі твор, які ўзнаўляе другі. К. можа адрозніваца ад а р ы г і н а л а па тэхніцы і памерах, але павінна дакладна перадаваць яго манеру і к а м п а з і ц ы ю.

КО́РПУСНЫ ЖЫВАПІС (лац. corpus — цела) — тэхнічны прыём у ж ы в а п і с е, калі алейныя фарбы кладуцца шчыльным, непразрыстым слоем, ад чаго паверхня жывапіснага твора выглядае шурпатай, рэльефнай.

КРАКЕЛЮ́Р (франц. craquelure) — растрэскванне грунту, фарбавага слоя, лаку ў творах ж ы в а п і с у.

КРАКЛЕ́ (франц. craquele ) — у мастацкай к е р а м і ц ы сетка тонкіх трэшчын на палiванай паверхні вырабаў, спецыяльна створаная дзеля спецыфічнага дэкаратыўнага эфекту. К. могуць ствараць сеткі рознага малюнка.

КРА́МА — тып гандлёвага 1-2-павярховага збудавання. На Беларусі ў ХУІ — пач. XX ст. часцей за ўсё размяшчалася на гандлёвай плошчы або прылеглых да яе вуліцах.



КРАНШТЭ́ЙН (ням. Kragstein ) — дэталь такога ж прызначэння, што і к а н с о л ь, але больш масіўная і больш складаная за яе па форме. Разнавіднасць К. — м а д у л ь ё н.

КРО́КВЫ — бярвенні, брусы або дошкі, якія ў сукупнасці ўтвараюць канструкцыю для падтрымкі даху.

КРО́КІ (франц. croquis ) — хуткая замалёўка з н а т у р ы. Малаўжывальны тэрмін, блізкі па значэнні да больш шырокага паняцця н а к і д.

КРУ́ГЛАЯ СКУЛЬПТУ́РА — адзін з двух асноўных відаў с к у л ь п т у р ы, які адрозніваецца ад р э л ь е ф а тым, што мае тры вымярэнні і можа аглядацца з усіх бакоў. К.с. бывае ў выглядзе с т а т у і, б ю с т а, скульптурнай групы.

КРУ́ГЛІК — ярусная васьмігранная ў плане драўляная абарончая в е ж а, часам квадратнага сячэння ў першым я р у с е з высокім шатровым дахам. Тып абарончага збудавання ХУІ—ХУІІ стст. заходніх і ўсходніх славян.

КРЫЖО́ВА-КУ́ПАЛЬНЫ ХРАМ — тып хрысціянскага храма, які ўзнік у УІ ст. і канчаткова сфарміраваўся ў IX—XII стст. у Візантыі. Гэтыя будынкі часцей за ўсё квадратныя ў плане. Чатыры ці болей масіўныя ўнутраныя слупы ў плане ствараюць крыж. У цэнтры знаходзіцца купал, які сімвалізуе небасхіл. Паўцыліндрычныя скляпенні, што прымыкаюць да купала, перасякаючыся, таксама ствараюць крыж, роўнаканечны па форме. На Беларусі К.-К. храмы з"явіліся ў XI ст. (Сафійскі сабор і Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку).

КРЫТЫ́ЧНЫ РЭАЛІ́ЗМ — літаратурна-мастацкі кірунак XIX — пач. XX ст., у якім праўдзівае гістарычна-канкрэтнае адлюстраванне рэчаіснасці спалучаецца з крытычнай сацыяльна-палітычнай сістэмы або яе асобных бакоў як антыгуманных, неспрыяльных для гарманічнага развіцця чалавечай асобы і грамадства. У в ы я ў л е н ч ы м м а с т а ц т в е найбольш яскравае выражэнне К.Р. знайшоў у творчасці Курбэ, Ф. Міле, К. Менье, П. Фядотава, А. Венецыянава. Зацвярджэнне К.Р. у мастацтве 2-й паловы XIX ст. звязана з ростам рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху, нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Асаблівую сацыяльную вастрыню набыў К.Р. у творчасці перасоўнікаў —

І. Крамскога, В. Пярова, Р. Мясаедава, І. Рэпіна, В. Сурыкава, М. Ярашэнкі, М. Касаткіна і інш. Рысы К.Р. выявіліся і ў мастацтве Беларусі. Асабліва значны ўплыў на яго станаўленне тут зрабіла паўстанне 1863 - 64 гг. Сярод мастакоў, у творах якіх вылучыліся рысы К.Р., можна назваць Я. Дамеля, М.Мікешына, Ю. Пэшку, В. Ваньковіча, Н. Сільвановіча, Б. Русецкага, А. Ромера і інш.

КРЭМЛЬ (да XVII ст. дзяцінец) — ядро, цэнтральная частка старажытнаславянскіх гарадоў,акружаная крэпаснымі сценамі з вежамі. К. уяўляў сабой комплекс абарончых,палацавых і царкоўных збудаванняў, размяшчаўся на высокіх месцах, як правіла, на беразе ракі або возера і вызначаў сілуэт і планіроўку горада. Шырока вядомы Маскоўскі, Пскоўскі, Наўгародскі К.

КСІЛАГРА́ФІЯ (ад ксіла...+ графія) — гравюра на дрэве, від выпуклай гравюры. К, найбольш старажытная тэхніка гравюры. Паслядоўнасць выканання К. такая: плоская падоўжнага распілу адпаліраваная дошка грунтуецца, зверху пяром наносіцца малюнак. Часткі дошкі без малюнка выдаляюцца, а фарба накладваецца тампонам або валікам на выпуклы малюнак. Выява пры друкаванні пераходзіць на паперу. Першыя беларускія К. з"явіліся ў пачатку XVI ст. ў выданнях Ф. Скарыны "Псалтыр","Кніга Іова", "Кніга Ісуса Сірахава" (усе — 1517).

КУБІ́ЗМ (франц. cubisme ад cube — куб) — адзін з асноўных кірункаў мадэрнізма ў выяўленчым мастацтве першай чвэрці XX ст., які пераважна праявіўся ў жывапісу, стаў пачаткам абсалютнай трансфармацыі звыклых уяўленій аб мастацтве. Узнікненне К. у еўрапейскім жывапісе звязваюць з мастацкімі эксперыментамі Пабла Пікаса і Жоржа Брака на мяжы 1907-08 гг. (карціны "Авіньёнскія дзяўчыны" П. Пікаса і "Аголеная" Ж.Брака). У 1908 г. у Парыжы утварылася суполка "Bateau-Lavoir," куды ўваходзілі акрамя П. Пікаса і Ж. Брака Х. Грic, Г. Стайн, Г. Апалінэр і інш. Слова"кубісты" упершыню выкарыстаў у 1908 г. французскі крытык Л. Васэль як насмешлівае найменне мастакоў, што паказваюць прадметны свет у выглядзе камбінацыі правільных геаметрычных форм і аб'ёмаў (куба, шара, цыліндра, конуса). Прыкладна ў 1914 г. К., як самастойная з"ява пачаў уступаць месца іншым кірункам, але працягваў актыўна уплываць на мастакоў у іх творчых пошуках. Знаходкі К. выкарыстоўвалі К. Малевіч, У. Татлін, Л. Фейнінгер, О. Шлемер і інш. мастакі XXст



КУ́ПАЛ (італ. cupola — купал, скляпенне ад лац. cupula — бочачка) — прасторавая апорная канструкцыя пакрыццяў (або само пакрыццё), форма якой блізкая да паўсферы ці іншай паверхні вярчэння. Перакрывае без апор значныя па памерах памяшканні пераважна круглыя, шматвугольныя, эліптычныя ў плане. Вядомы са старажытных часоў. На Беларусі, як і на Старажытнай Русі, пашырыліся з XI — XII стст. у архітэктуры крыжова—купальных храмаў (Сафійскі сабор і Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку, Благавешчанская царква ў Віцебску). Характэрны для архітэктуры стыляў рэнесансу, барока, класіцызму. К. выкарыстоўваюцца ў сучасным грамадзянскім будаўніцтве (будынкі Мінскага і Гомельскага цыркаў).

КУРДАНЁР (франц. cour d'honneur — літар. ганаровы двор) — парадны паўкруглы двор перад будынкам, утвораны асноўным будынкам і яго двума бакавымі крыламі ці каланадай. Характэрны для еўрапейскай палацавай архітэктуры XVII — першай паловы XIX стст. У Расіі пашырыўся з пачатку XVIII ст. На Беларусі найбольш вядомы ў палацавых і сядзібных комплексах XVIII — XIX стст. (Ружанскі, Свяцкі, Шчорсаўскі палацы і інш.). Сустракаецца ў сучаснай архітэктуры (Дом урада РБ у Мінску).

КУЦЕ́ІНСКАЯ ШКО́ЛА ГРАВЮ́РЫ — мастацкая школа ў беларускай графіцы XVII ст., якая працягвала традыцыі Віленскай школы гравюры. Галоўную ролю ў яе фарміраванні адыграў С. Собаль. Традыцыі К.ш.г. працягвала Магілёўская школа гравюры.

## Л

ЛА́ВІС (франц. lavis ) — від паглыбленай гравюры на метале, калі металічным пэндзалем, абмакнутым у кіслаце, малююць непасрэдна на дошцы. З прычыны зярністасці метал пратраўліваецца неаднолькава. Гэта надае адбітку тон рознай насычанасці. Адбітак нагадвае малюнак пэндалем з размыўкай. Гл. ГРАВЮРА.

ЛАКА́ЛЬНЫ КО́ЛЕР (франц. local — мясцовы ад лац. localis мясцовы) — асноўны колер паказаных аб"ектаў, пазбаўлены адценняў, якія з"яўляюцца пад уздзеяннем асвятлення, рэфлекса і г.д.

ЛАНТЭ́РНА — светлавы ліхтарык, які завершвае купал.

ЛАПАТКА (лізэна, ням. *lisene* ) — вертыкальны плоскі і вузкі выступ у сцяне, падобны да пілястры, аднак не маючы, у адрозненне ад яе, базы і капітэлі. Мае або канструкцыйны характэр, або з"яуляецца выключна дэкаратыуным элементам, які падзяляе плоскасць фасада пабудовы. У беларускай архітэктуры вядома з XI ст. (Сафійскі сабор у Полацку).

ЛАСТАЎКІ — дадатковыя умацаванні дошкі абраза, выкарыстоуваемыя акрамя шпонак.

ЛЕПКА — І. Ляпніна, гіпсавыя або бятонныя аздабленні фасадау і інтэр"ерау; 2. Разнавіднасць скульптурнай тэхнікі, злучанай з апрацоукай мяккага матэрыялу — спецыяльных сартоу гліны, пяску, пластыку. Існуе як цалкам самастойная тэхніка. Апрача таго Л. выкарыстоуваецца у кожнай скульптурнай рабоце, якая пачынаецца з выконвання мадэлі.

ЛЕСІРОЎКА (ням. *Lasierung*) — прыём жывапіскай тэхнікі, калі надта тонкія слаі фарбау кладуцца зверху высахлага пчыльнага слоя. Да канца XIX ст. Л. шырока ужывалася усімі буйнымі мастакамі. Выкарыстоуваецца таксама сучаснымі майстрамі жывапісу.

ЛІНАГРАВЮРА ( ад лінолеум + гравюра) — гравюра на лінолеуме, від выпуклай гравюры. Па тэхніцы і мастацкіх сродках падобная да ксілаграфіі. Лінолеум апрацоуваецца разцамі у выглядзе маленькіх стамесак. Фарба накладваецца валікам. Друкуецца як гравюра на дрэве (гл. КСІЛАГРАФІЯ), ад якой адрозніваецца толькі адсутнасцю тонкіх дэталяу. Л. узнікла у пачатку XX ст., у беларускім мастацтве пачала развівацца у савецкі час. Гл.: ГРАВЮРА).

ЛІТАГРАФІЯ (грэч. *lithos* — камень і *grapho* — пішу) — від плоскай гравюры. Як разнавіднасць графічнай тэхнікі, звязаная з работай на камні, шырока распаусюджана у выяуленчым мастацтве. На належным чынам падрыхтаваным камні літаграфскім алоуцам, выкарыстоуваючы літаграфіскую туш. Потым камень травіцца кіслатой, пакрываецца фарбай пры дапамозе валіка. Друкаванне вядзецца на спецыяльным станку. Л. вынайдзена у Германіі у 1798 г. А. Зенефельдэрам, пашырылася з другой чвэрці XIX ст. На Беларусі існуе з першай паловы XIX ст. Гл.: ГРАВЮРА.

ЛІХТАР (ад ням. *Licht* — святло) — прыузнятая і зашклёная частка даху, скляпення, столі, прызначаная для асвятлення



пабудовы. Часам Л. выглядае як вежачка з вокнамі (вежы-Л. у храме). На Беларусі пашыраны у архітэктуры барока і класіцызму.

ЛІЦЦЁ МАСТАЦКАЕ — від дэкаратыуна-ужытковага мастацтва; тэхніка стварэння мастацкіх вырабау шляхам заліукі расплауленага металу у форму, а таксама мастацкія творы, выкананыя гэтым спосабам. Найбольш пашыраны спосаб пераводу у метал творау скульптуры, а таксама металічных пасудзін і інш. На тэрыторыі Беларусі Л.м. вядома з часоу бронзавага веку — бранзалеты, пярсцёнкі, спражкі. З XII ст. адліваецца царкоунае начынне.

ЛУБОК — карцінка з подпісам, якая вызначаецца прастатой і даступнасцю вобразау. Л. атрымау шырокае распаусюджанне у Расіі, пачынаючы з XVII ст. У беларускім мастацтве Л. вядомы з сярэдзіны XVI ст. Стылістыка Л. уласціва працам сучасных беларускіх графікау А.Лось, Я.Бусла.

ЛУЗГА — скос дошкі абраза паміж полем і каучэгам. Гл.: ІКАНАПІС.

ЛЮКАРНА (франц. *lucarne* ) — акно у паддашку, часта аздобленае шалёукамі, ляпнымі аправамі і да т.п. Прызначана для асвятлення памяшкання, мае таксама дэкаратыуны характар.

ЛЮНЕТ, люнета (франц. *lunette* літар. лунка) — у архітэктуры арачны праём у скляпенні або сцяне, гарызантальна абмежаваны знізу. Пашыраны у архітэктуры стыляу рэнесансу, барока і класіцызму. У скразных Л. звычайна размяшчаліся вокны; "глухія" Л. упрыгожваліся размалёукай, лепкай або скульптурай.

ЛЯЎКАС — І. Назва грунту у сярэднявяковым жывапісе, які звычайна уключау крэйду у спалучэнні з вадкім мездраным або рыбавым клеем. 2. У насценным жывапісе Л. — гэта прыгатаваны з асаблівай стараннасцю верхні слой вапнавай тынкоукі. 3. У дэкаратыуна-ужытковым мастацтве — грунт на драуляных вырабах пад афарбоуку, пазалоту і г.д. Гл.: ІКАНАПІС.

МАГІЛЕЎСКАЯ ШКОЛА ГРАВЮРЫ — мастацкая школа ў беларускай *графіцы* канца ХУП — ХУШ стст. Яна склалася у Магілёве і працягвала традыцыі *Віленскай* і *Куцеінскай* *школ гравюры*. Галоўную ролю ў яе фарміраванні і развіцці адыгралі М. Вашчанка, В. Вашчанка, Ф. Ангілейка.

МАГІЛЕЎСКАЯ ШКОЛА ДОЙЛІДСТВА — архітэктурная школа, якая сфарміравалася ў ХУП — ХУШ стст. у грамадскім і культурным мураваным *дойлідстве* Магілёва. Спалучала мясцовыя архітэктурна-будаўнічыя традыцыі і элементы стылю барока. Захаваўся помнік М.ш.д. — Магілёўская Мікалаеўская царква.

МАДУЛЬЁН, мадыльён (франц. *modillon* ад італьян. *modiglione*) — архітэктурная дэталь у выглядзе невялікага *кранштэйна*, частка *карніза*. Часам адыгрывае дэкаратыўную ролю, як, напрыклад, на галоўным *фасадзе* Палаца культуры тэкстыльшчыкаў у Гродне.

МАДЭЛІРОЎКА (ад італьян. *modellare* — ляпіць) — перадача аб"ёма, прасторавых уласцівасцей прадметаў і фігур праз светлаценявыя градацыі у *жывапісе* і *графіцы*, або праз адпаведную *пластыку* трохмерных форм у *скульптуры*.

МАДЭЛЬ (франц. *modèle*, італьян. *modello* ад лац. *modulus* — мера, узор, норма) — I. Чалавек, які пазіруе мастаку пры стварэнні твора мастацтва. 2. Рэч ці прадмет, што служаць мастаку ў якасці *натуры*. 3. Злепак з *арыгінала*. 4. Арыгінал твора, прызначаны для пераводу ў цвёрды матэрыял, для адліўкі або павелічэння.

МАДЭРН, стыль мадэрн (ад франц. *moderne* — найноўшы, сучасны) — адна з назваў стылявога кірунку ў еўрапейскім і амерыканскім мастацтве канца XIX — пачатку XX ст. У Бельгіі, Велікабрытаніі, ЗША вядомы як "Ар нуво", у Германіі "югендстыль", у Аўстрыі — стыль Сэцэсіёна", у Італіі — "стыль Ліберці", у Іспаніі – "мадэрнізм". Узнік каля 1890 як рэакцыя на *эклектызм* у мастацтве, закрануў усе *пластычныя мастацтвы*, але галоўным чынам праявіўся у архітэктуры і ва ўпрыгожваннях інтэр"ераў памяшканняў. Характэрныя рысы М. — новыя прынцыпы формаўтварэння, багатая арнаментыка з уключэннем стылізаваных элементаў *готыкі*, антычнага і народнага мастацтва, шырокае ўжыванне



хвалiста-ламанай лініі ў *дэкоры* і цякучых пластычных формах *дэкаратыўна-ужытковага мастацтва* і архітэктуры, асіметрычна крывалінейнага завяршэння дзвярных і аконных праёмаў, адраджэння сінтэзу мастацтваў. У стылі "М." працавалі архітэктары Х. ван дэ Вельдэ і В.Арта ў Бельгіі, Ч. Макінтош у Англіі, Л.Салівэн у ЗША, О. Вагнер і І. Ольбрых у Аўстрыі, А. Гаўдзі ў Іспаніі, Ф. Шэхтэль і Ф. Лідваль у Расіі. М. меў уплыў і на архітэктуру, выяўленчае, манументальна-дэкаратыўнае, дэкаратыўна-ужытковае мастацтва Беларусі канца XIX — пачатку XX ст.

МАДЭРНІЗМ (франц. *modernisme* ад *moderne* — найноўшы, сучасны) — мастацка-эстэтычная сістэма, якая склалася ў пачатку XX ст. як вынік крызісу еўрапейскай культуры і пошуку новых духоўных каштоўнасцей. Слова "крызіс" у дадзеным выпадку трэба разумець не як "заняпад", а як "пераломны момант". У гэты час, прыблізна на мяжы XIX — XX стст., адбываецца змена аднаго тыпу культуры другім — культуры новага часу культурай XX стагоддзя. М., як феномен еўрапейскай культуры XX ст., аб"ядноўвае мноства адносна самастойных ідэйна-мастацкіх плыняў, розных па сацыяльнаму маштабу і культурна-гістарычнай значнасці, кожная з якіх мае акрэсленую ідэйна-эстэтычную і мастацкую спецыфіку, але разам з тым валодае прынцыповай філасофска-светапогляднай і сацыяльна-культурнай агульнасцю з іншымі. М. адчувае дысгармонію свету, антыгуманнасць адносін у сучасным грамадстве, адчужэнне асобы, страту мастаком свабоды і адмаўляе здольнасць папярэдняй культуры не толькі супрацьстаяць сілам разбурэння, але і выказаць да іх свае адносіны, адэкватна адлюстраваць іх у *мастацтве*. Ніколі ў гісторыі культуры не адбывалася такое свядомае і радыкальнае адмаўленне ад папярэдніх каштоўнасцей, як гэта адбылося ў М. Характэрнай рыскай М. з"яўляецца інтэнсіўная змена яго кірункаў: так, у *выяўленчым мастацтве* паралельна існавалі і змянялі адзін аднаго *постімпрэсіянізм*, *фавізм*, *кубізм*, *футурызм*, *супрэматызм*, *экспрэсіянізм*, *дадаізм*, *сюррэалізм*, *абстракцыянізм*, мінімалізм, канцэптуалізм, *поп-арт*, *гіперрэалізм*, оп-арт і г.д.

МАЁЛІКА (італьян. *maiolica* ) — у дэкаратыўным мастацтве керамічныя вырабы, пакрытыя непразрыстай эмаллю (архітэктурныя абліцоўкі, посуд, статуэткі). Росквіт вытворчасці М. ў Заходняй Еўропе прыпадае на XVI—XVII стст. На тэрыторыі Беларусі рознакаляровая М. выраблялася з XII ст. Старажытнымі прыкладнымі аздаблення М. пліткамі падлог і знадворных сцен з'яўляюцца Барысаглебская, Праабражэнская і Ніжняя (XII ст.) цэрквы ў Гродне, храм-пахавальня Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, Вялікі сабор Бельчыцкага манастыра ў Полацку (XII ст.)

МАЗА́ІКА (франц. *mosaïque* , італьян. *mosaico* ) — тэхнічная разнавіднасць манументальнага жывапісу, у якім выява ці ўзор выкладзены з каляровых камянёў, смальты, керамічных плітак і г.д. 2. Асобны твор манументальнага жывапісу, выкананы ў мазаічнай тэхніцы. Тэхніка М. была вядома ў краінах Ст. Усходу, Егіпце, Грэцыі, Ст. Рыме. Лепшыя М. кампазіцыі зроблены ў Візантыі. Высокай дасканаласцю вызначалася мастацтва М. у Ст. Русі. На тэрыторыі Беларусі М. вядома з XII ст. (Збудаванні Верхняга замка і храм-пахавальня Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку, Ніжняя царква ў Гродне.). М. пачатку XX ст. зберагліся ў Баранавіцкім Пакроўскім саборы, Мірскай капліцы, будынку пазямельна-сялянскага банка ў Віцебску. М. шырока выкарыстоўваецца ў сучасны перыяд у аздабленні інтэр"ераў і фасадаў будынкаў.

МАКЕ́Т (франц. *maquette* ад італьян. *macchietta* — накід) — у архітэктуры паменшанае ўзнаўленне праектуемай або наяўнай пабудовы, будаўнічага комплексу, выкананае ў вызначаным маштабе.

МАКРАМЭ́ (з арабскай — тасьма, карункі, махры) — 1. Від дэкаратыўна-ужытковага мастацтва; 2. Вырабы, створаныя ў тэхніцы вузялковага ручнога пляцення, якія звычайна дапаўняюцца драўлянымі, керамічнымі пацеркамі, заштапкамі і іншымі дэкаратыўнымі дэталямі. Як від мастацкай творчасці М. пашырана з XV ст. у Італіі, Паўночнай Еўропе, з XVIII ст. — у Расіі, з XIX ст. — на Беларусі.

МАЛЫ́Я АРХІТЭКТУ́РНЫЯ ФО́РМЫ — элементы добраўпарадкавання тэрыторыі (фантаны, альтанкі, кіёскі, лаўкі, агароджы, лесвіцы,



ліхтары і г.д.), якія дапаўняюць мастацкую кампазіцыю і арганізуюць адкрытыя прасторы гарадоў, садоў, паркаў і г.д. Увогуле М.а.ф. павінны ствараць спрыяльныя ўмовы для людзей у дадзеным архітэктурным асяроддзі.

МАЛЬБЕ́РТ (нім. ) — драўляны станок-падстаўка, на які мастак памяшчае ў час працы карціну на патрэбнай яму вышыні. М. вядомы з часоў антычнасці.

МАЛЮ́НАК — 1. Выява, зробленая з дапамогай графічных сродкаў на плоскасці. 2. Разнавіднасць графікі, заснаваная на тэхнічных сродках і магчымасцях малявання. 3. Асобны твор адпаведнай разнавіднасці графікі. М. — адзін з найбольш старажытных відаў мастацтва, вядомы з эпохі позняга палеаліту (наскальныя М. у пячорах Альтаміра ў Іспаніі і Ляско ва Францыі). У першабытным мастацтве першымі М. былі арнаменты і выявы на касцях, каменных, металічных, гліняных вырабах).

МАНАЛІ́Т (грэч. *monos* — адзін і *lithos* — камень) — у скульптуры твор значных памераў, высечаны з суцэльнай глыбы каменя-граніта, мармуру, вапняку, пясчаніку і інш.

МАНАТЫ́ПІЯ (грэч. *monos* — адзін і *týpos* — адбітак) — від графічнай тэхнікі, у якім алейныя фарбы наносяцца ад рукі на гладкую паверхню дошкі з наступным друкаваннем на станку. Атрыманы адбітак заўсёды бывае адзіным, унікальным і нагадвае акварэль. Тэхніка М. вядома з XVII ст. Выкарыстоўваецца ў сучаснай беларускай графіцы.

МАНАХРО́МІЯ (ад *мана..* + грэч. *chrōma* — колер) — у выяўленчым мастацтве аднаколернасць. Твор, выкананы ў адным тоне якога небудзь колеру, або яго танальных градацыях, напрыклад, грызайль.

МАНО́ПЦЕР — антычны храм круглай формы, абрамлены каланамі.

МАНЕ́Ж (франц. *manège*) — прамавугольны або круглы ў плане будынак без унутраных перагародак (часам агароджаная пляцоўка) для трэніроўкі коней, навучання верхавой яздзе, коннаспартыўных спаборніцтваў.

МАНЕРА (франц. *manière* ) — адметныя рысы творчасці мастака, яго стыль. Характар або спосаб выканання як выключна тэхнічная асаблівасць працы мастака ці мастацкай школы (напрыклад, "творчая манера імпрэсіяністаў").

МАНСАРДА (франц. *mansarde* ) — паддашак ці гаспадарчае памяшканне на гарышчы будовы пад крутым ломаным дахам. Канструкцыя М. была створана французскім архітэктарам эпохі класіцызму Ф. Мансарам (адсюль і назва) з мэтай атрымання дадатковай жыллёвай плошчы і выйгрышнага выгляду фасада шматпавярховага будынка. Часта ў якасці будаўнічага матэрыялу выкарыстоўваецца дрэва нават, калі асноўны аб"ём мураваны.

МАНУМЕНТ (лац. *monumentum* , ад *moneo* — нагадваю) — скульптурны помнік вялікіх памераў у гонар важнай гістарычнай падзеі, выдатнага палітычнага або грамадскага дзеяча (Манумент Перамогі ў Мінску, М. у гонар савецкай маці-патрыёткі ў Жодзіне).

МАНУМЕНТАЛЬНА-ДЭКАРАТЫЎНАЕ МАСТАЦТВА — звычайна азначае тое, што і тэрмін манументальнае мастацтва. Гл.: МАНУМЕНТАЛЬНАЯ СКУЛЬПТУРА, МАНУМЕНТАЛЬНЫ ЖЫВАПІС.

МАНУМЕНТАЛЬНА-ДЭКАРАТЫЎНАЯ СКУЛЬПТУРА — від дэкаратыўнай скульптуры, прызначаны для аздаблення фасадаў і інтэр"ера грамадскіх будынкаў, упрыгожвання паркаў, плошчаў, вуліц. Вядома на Беларусі з ХУІ ст. Шырока ўжываецца ў нашы дні.

МАНУМЕНТАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА — род пластычных мастацтваў, прызначаных для канкрэтнага архітэктурнага асяроддзя (помнікі, манументы, мемарыяльныя ансамблі, фантаны, паркавая скульптура, жывапіснае і скульптурнае аздабленне будынкаў і інш.).

МАНУМЕНТАЛЬНАЯ СКУЛЬПТУРА — І) від скульптуры; 2) манументальны помнік, архітэктурна-скульптурны комплекс, прысвечаны выдатнаму грамадскаму дзеячу або важнай гістарычнай падзеі, разлічаны на ўспрыняцце з вялікай адлегласці і доўгачасовае існаванне.



МАНУМЕНТАЛЬНЫ ЖЫВАПІС — І) від манументальнага мастацтва; 2) жывапісныя творы вялікага маштаба, злучаныя з архітэктурай як яе элемент: панно, размалёўка, мазаіка. Першымі ўзорамі М.ж.з"яўляюцца размалёўкі пячор эпохі палеаліту. На Беларусі найбольш старажытныя ўзоры М.ж.датуюцца XI ст.

МАРМУР (грэч. *marmaros* — бліскучы камень) — горная парода разнастайных адценняў, якая ўтварылася з асадкавых адкладаў вапны і даламіту ў выніку іх перакрышталізацыі і метамарфізму; каштоўны скульптурны і архітэктурны матэрыял. Выкарыстоўваецца для стварэння круглай скульптуры, рэльефаў.

МАРЫНА (італьян. *marina* , ад лац. *marinus* — марскі) — 1. Раздзел пейзажнага жанру, прысвечаны паказу мора. 2. Карціна, якая перадае марскі від. У якасці самастойнага жанру з"явілася ў Галандыі ў канцы ХУІІ ст. Мастака, які малюе мора, называюць марыністам.

МАСКАРОН (франц. *mascaron* , італьян. *mascherone* ) — скульптурная дэталь у выглядзе твара чалавека або галавы жывёлы, змяшчаемая звычайна на замках арак, дзвярных і аконных праёмаў. На Беларусі М. пашыраны ў архітэктуры пачатка XX ст. стыляў неакласіцызму і "мадэрн".

МАСТАЦТВА — 1. Мастацкая творчасць у цэлым. 2. Адна з форм грамадскай свядомасці, важнейшы элемент культуры чалавецтва. У аснове М. ляжыць вобразнае адлюстраванне з"яў рэчаіснасці, перш за ўсё, жыцця чалавека і яго перажыванняў, усяго комплексу чалавечых адносін. Да віду М. адносяцца архітэктура, музыка, літаратура, скульптура, жывапіс, графіка, дэкаратыўна-ужытковае мастацтва, танец, тэатр, кіно і інш.

МАСТЫХІН (грэч. *mastichē* — смала) — спецыяльны інструмент са сталі, які выкарыстоўваецца для ачысткі палітры і для выдалення не высахлага фарбавага слоя з асобных месц палатна. М. у асобных выпадках можа ўжывацца замест пэндзаля.

МАЎЗАЛЕЙ (лац. *mausoleum*, ад грэч. *mausōléion*)— манументальнае надмагільнае збудаванне, паходжанне якога

бярэ пачатак са славутай грабніцы карыйскага цара Маўгола, збудаванай у IУ ст. да н.э. у Малой Азіі (г. Галікарнас). М. атрымалі распаўсюджанне ў Старажытным Рыме, у архітэктуры краін, дзе панавала камуністычная ідэалогія (У.І. Леніна ў Маскве, Г.Дзімітрава ў Сафіі і інш.).

МАШЫКУЛІ (франц. mâchicoulis) — прыкрытыя зверху і з бакоў байніцы, размешчаныя ў верхніх частках сцен і вежаў сярэднявечных умацаванняў, прызначаныя для вядзення агню(цэрквы- крэпасці ў вв. Мураванка Шчучынскага І Сынковічы Зэльвенскага раёнаў).

МЕАНДР (па назве вядомай ракі Меандр у Малой Азіі) — антычны а р н а м е н т геаметрычнага малюнка ў выглядзе ломанай або крывой, спіральна закручанай лініі. У беларускім мастацтве пашыраны ў пачатку XX ст. ў стылі м а д э р н.

МЕЗАНІН (італьян. mezzanino — паўпаверх) — надбудова над сярэдняй часткай жылога дома, звычайна невялікага па сваіх памерах. На Беларусі М. уласцівы для сядзібнай а р х і т э к т у р ы.

МЕМАРЫЯЛ (лац. memorialis — памятны) — манументальнае скульптурнае збудаванне, п о м н і к у гонар якой-небудзь падзеі, гістарычнай асобы. Гл.: АБЕЛІСК, АРКА ТРЫУМФАЛЬНАЯ, СТЭЛА.

МЕЦЭНАТ (ад Maesenas — імя рымскага патрыцыя, які жыў у I ст. да н.э. і праславіўся шырокім апекаваннем паэтаў і мастакоў) — чалавек, які патрымлівае, у тым ліку і матэрыяльна, асобных прадстаўнікоў мастацтва і навукі. Яскравы прыклад мецэнацтва — дзейнасць заснавальніка музея рускага мастацтва (цяпер Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі) П.М. Траццякова, прадпрымальнікаў С.Марозава, І.Мамантава і інш.

МЕЦЦА-ТЫНТА, чорная манера (італьян. mezzo-tinto ) — від п а г л ы б л е н а й г р а в ю р ы на метале. Спецыяльным інструментам на дошку наносяцца паглыбленні такім чынам, што яна набывае раўнамерную шурпатасць. У выніку пры друкаванні атрымліваецца густы аксамітавы т о н. М а л ю н а к на дошцы адшліфоўваецца "гладзілкай". Чым мацней выгладжваецца дошка, тым слабей прыстае да яе фарба, і ў а д б і т к у гэтыя месцы становяцца

больш светлымі. Спосаб з"явіўся ў сярэдзіне XУII ст.
Гл.: ГРАВЮРА.

МІНАРЭТ (араб. "манара" — свяцільня) — вежа ў м я ч э ц і, адкуль вернікі заклікаюцца на малітву (намаз). У цяперашні час у многіх краінах М. захоўвае характар архітэктурнай дэкарацыі, а заклік да намазу абвяшчаецца з невялікага ўзвышэння на двары мячэці. М. аздабляюць узорыстай муроўкай, к е р а м і к а й, балконамі.

МІНІЯЦЮРА (франц. miniature , італьян. miniatura , ад лац. minium кінавар ) — мастацкі твор малых памераў. М. дасягнула высокай дасканаласці ў сярэднявеччы ў мастацтве Візантыі, Індыі, Старажытнай Русі, народаў Закаўказзя і інш. краін. У XУIII ст. шырока распаўсюдзілася партрэтная М. На беларускіх землях кнігі ўпрыгожваліся М. ўжо ў X-XIII стст.(Тураўскае,Аршанскае евангеллі).

МІХРАБ — аздобленая тэкстамі з Карана алтарная ніша ў цэнтры мячэці, якая паказвае куды мусульмане павінны абарочвацца тварам у час малітвы. Завяршаецца паўкупалам, аздабляецца арнаментальнай р а з ь б о й, і н к р у с т а ц ы я й, р а з м а л ё ў к а й.

МНАГАСЛОЙНЫ ЖЫВАПІС — тэхнічная разнавіднасць алейнага жывапісу, якая патрабуе расчлянення работы на шэраг паслядоўных этапаў (гл.: ПАДМАЛЁЎКА,ПРАПІСКА, ЛЕСІРОЎКА ). Пасля кожнага этапа робіцца перапынак, каб фарбы поўнасцю высахлі. Гл.: АЛЕЙНЫ ЖЫВАПІС.

МУЗЫ — у грэчаскай міфалогіі багіні м а с т а ц т в а ў і навук, дочкі Зеўса і Мнемасіны: Эрата (паэзія кахання), Эўтэрпа (музыка), Каліёпа (эпічная паэзія), Кліо (гісторыя), Мельпамена (трагедыя), Палігімнія(спяванне), Тэрпсіхора (танец), Талія (камедыя), Уранія (астраномія). Старажытныя грэкі лічылі, што голасам тварца гавораць богі.

МУЛЯЖ (франц. moulage ) — у с к у л ь п т у р ы злепак з н а т у р ы, які дакладна перадае яе формы. М. выконваецца з гіпсу, воску, парафіну і іншых матэрыялаў.

МА́ККІ ЛАК, зрыўны лак — разнавіднасць п а г л ы б л е н а й г р а в ю р ы на метале, якая нагадвае ў а д б і т к у алоўкавы малюнак. Гл. ГРАВЮРА.

МЯЧЭ́ЦЬ (араб."масджыд" — месца пакланення) — мусульманскае культавае збудаванне, дзе адбываюцца набажэнствы і чытаюцца казанні.

Н

НАБО́ЙКА — адзін з старажытнейшых відаў народнага у ж ы т к о в а г а м а с т а ц т в а, тканіна, узор на якой аддрукаваны з разной або наборнай драўлянай дошкі. Н. была шырока распаўсюджана ў краінах Усходу і Еўропы ў сярэднявеччы.

"НАІ́ЎНАЕ" МАСТА́ЦТВА" — творчасць у галіне в ы я ў л е н ч а г а м а с т а ц т в а, для якой характэрна наіўна-рэалістычнае адлюстраванне рэчаіснасці. Сваімі асноўнымі рысамі набліжаецца да народнага традыцыйнага светаўспрымання. Вабіць сваім прастадушным абаяннем, шчырасцю, непасрэднасцю, колеровай дэкаратыўнасцю. Сусветна вядома творчасць такіх мастакоў "Н.м." як А.Русо (Францыя), Н.Піраcманішвілі (Грузія), А.Кіш (Беларусь).

НАКІ́Д — 1. Першапачатковы план; 2. Малюнак, бегла і хутка выкананы мастаком.

НАРТЭ́КС (познагрэч. narthēx ) — прытвор, уваходнае памяшканне ў пярэдняй частцы хрысціянскага х р а м а, прызначанае для асоб, якія не маюць права ўваходзіць у галоўнае храмавае памяшканне. На Беларусі называецца бабінцам.

НАТУ́РА (лац. natura — прырода) — кожныя прадметы і з"явы, якія служаць мастаку м а д э л л ю ў час працы над творам.

НАТУРАЛІ́ЗМ (франц. naturalisme ад лац. naturalis — прыродны, натуральны) — літаратурна-мастацкая плынь, якая характарызуецца ўсвядомленай устаноўкай на бесстаронні аб"ектывізм у адлюстраванні прыроднай і сацыяльнай рэчаіснасці, або стыхійнай схільнасцю да выяўлення вонкавых, эмпірычных з"яў жыцця без мастацкага абагульнення і пранікнення ў іх духоўную сутнасць.



НАТУ́РШЧЫК (лац. natura + прырода) — чалавек, які пазіруе мастаку за ўзнагароду.

НАЦЮРМО́РТ (франц. nature morte — літ. "мёртвая натура") — 1. Жанр в ы я ў л е н ч а г а м а с т а ц т в а, прысвечаны ўзнаўленню прадметаў ужытку, ежы (агароднiна, мяса, бітая дзічына, садавіна), кветкі і інш. 2. Асобны твор у гэтым жанры. Найбольшага росквіту жанр Н. дасягнуў у ХУП ст. у галандскім і іспанскім ж ы в а п і с е. Выдатнымі майстрамі Н. былі П. Артсен, В. Хеда, П. Клас, Ф. Сурбаран, Ф. Снайдэрс, В. ван Гог, П. Сезан, А. Матыс, К. Каровін, І. Машкоў і інш. Цікавыя Н. ствараў у XIX ст. беларуска-рускі мастак І. Хруцкі.

НЕАБАРО́КА (ад грэч. neos новы + б а р о к а) — умоўная назва кірунку ў архітэктуры другой паловы XIX — пачатку XX ст., які пераймаў формы, элементы кампазіцыі будынкаў стылю барока. Выяўлялася ў спалучэнні з элементамі стылю "м а д э р н". На Беларусі Н. не мела значнага пашырэння, выяўлялася часцей за ўсе ў спалучэнні з іншымі архітэктурнымі стылямі.

НЕАГО́ТЫКА (ад грэч. neos новы + г о т ы к а) — гл.: НЕСАПРАЎДНАЯ ГОТЫКА.

НЕАІМПРЭСІЯНІ́ЗМ (ад неа + impressionnisme) — назва мастацкага напрамку, які ўзмоцнена падводзіў навуковыя адкрыцці венскіх вучоных у галіне фізіялогіі зроку і оптыкі пад інстынктыўныя колеравыя і светлавыя пошукі мастакоў-імпрэсіяністаў. Сам тэрмін з"явіўся ў 1886 г. Прыхільнікаў Н. аб"ядноўваў "Салон незалежных", заснаваны ў 1884 г. Да прадстаўнікоў Н. адносяцца Ж. Сёра, П. Сіньяк, Х. Крос, Ж. Апранд, К. Пісаро з сынам і інш.

НЕАКЛАСІЦЫ́ЗМ (ад грэч. neos + к л а с і ц ы з м) — у шырокім сэнсе, працягванне эстэтычных прынцыпаў класіцызму ў новых умовах развіцця мастацкай культуры. У больш вузкім сэнсе — стылістычны прыём, заснаваны на выкарыстанні ў мастацкіх творах міфалагічных вобразаў і матываў, антычных тэм і сюжэтаў. У а р х і т э к т у р ы вылучаецца тры перыяда найбольш пашыраных неакласіцкіх плыняў, звязаных з традыцыямі класіцызму: 1910-я — сярэдзіна 20-х гг. (Аўстрыя, Францыя, Расія), 1930-я гг. (Італія, Германія, СССР), канец 1950-х — 60-я гг. (ЗША). У беларускай архітэктуры Н. вядомы з 1910-х гадоў.

НЕАРАМАНСКІ СТЫЛЬ (ад грэч. neos +раманскі) — умоўная назва кірунку ў архітэктуры канца XIX — пачатку XX ст., заснаванага на выкарыстанні форм і элементаў кампазіцыі раманскага стылю. На Беларусі Н.с. не меў значнага пашырэння, часцей выяўляўся ў спалучэнні з элементамі несапраўднай готыкі (будынак пазямельна-сялянскага банка ў Магілёве, касцёлы ў вв.Слабада Браслаўскага, Задарожжа Глыбоцкага, Лаздуны Іўеўскага раёнаў).

НЕАРУСКІ СТЫЛЬ (ад грэч. neos —новы + рускі) — кірунак у рускай архітэктуры канца XIX — пачатку XX ст., развіццё якога звязана з крызісам афіцыйнага "рускага стылю". У эстэтыцы мае шмат агульнага з нацыянальна-рамантычнымі кірункамі заходнееўрапейскага мадэрна. На Беларусі не атрымаў пашырэння.

НЕБАСКРОБ — вышынны будынак у некалькі дзесяткаў паверхаў, прызначаны для дзелавых, адміністрацыйных і іншых патрэб. Першыя Н. збудаваны ў ЗША ў 80-я гг. XIX ст. Найбольш высокі Н. у 110 паверхаў вышынёй 412 м. — цэнтр міжнароднага гандлю ў Нью-Йорку (1971 — 1973 гг.)

НЕКРОПАЛЬ (грэч. nekropolis, ад nekros — мёртвы + polis — горад. Літар. горад мёртвых) — у сучасным разуменні — мемарыяльныя могілкі.

НЕРВЮРА (франц. nervure) — прафіляванае выступаючае рабро (гурт) гатычнага скляпення. Сістэма Н. у готыцы стварае каркас, які аблягчае муроўку скляпення.

НЕСАПРАЎДНАЯ ГОТЫКА, неаготыка, псеўдаготыка — умоўная назва кірункаў у архітэктуры XVIII — пачатку XX ст., якія пераймалі формы, а часам і канструкцыі сярэдневяковай готыкі. Выяўлялася ў культавых і грамадскіх збудаваннях. Цікавымі прыкладамі Н.г. на Беларусі з'яўляюцца Відзаўскі, Троцкі, Гервяцкі, Нарачанскі, Андрэеўскі, Ружанскі Петрапалаўскі, Віцебскі Варварынскі касцёлы.

НЕФ (франц. nef, ад лац. navis — карабель) — у заходнееўрапейскіх хрысціянскіх храмах падоўжная унутраная прастора пабудовы, агароджаная або вонкавымі сценамі, або аркадамі і калонамі. У апошнім выпадку ў будове ствараюцца два, тры і больш нефаў.



О

ОРДЭР АРХІТЭКТУРНЫ — распрацаваная ў старажытнай Грэцыі пэўная мастацкая сістэма стоечна-бэлечных канструкцый. О.а. вызначае суадносіны нясучых і нясомых частак у ёй. Нясучыя элементы — калона з базай і капітэллю. Нясомыя — архітраў, фрыз, карніз. Асноўныя тыпы грэчаскіх ордэраў — дарычны, іанічны і карынфскі — адрозніваюцца перш за ўсё прапорцыямі калон і формай капітэлей. Мяркуецца, што найбольш старажытны дарычны ордэр (у якога няма базы) узнік пад уздзеяннем старажытнаегіпецкага дойлідства і распаўсюдзіўся ў мацерыковай Грэцыі ў VII в. да н.э. Іанічны ордэр з капітэллю ў выглядзе вытачанай падстаўкі з'явіўся ў Малой Азіі ў пачатку VI ст. да н.э., але ў самой Грэцыі ўкараніўся не раней сярэдзіны V ст. да н.э. Карынфскі ордэр з капітэллю, аздобленай лісцем аканфа, пачаў уваходзіць у карыстанне толькі ў самым канцы V ст. да н.э. Рымляне распрацавалі на аснове дарычнага ордэра тасканскі і шляхам ускладнення карынфскага — кампазітны.

П

ПАВАЛОКА, прывалока, насцілка — у тэхналогіі сярэдневяковага жывапісу кавалак палатна, прыклеены да паверхні дошкі перад нанясеннем ляўкаса. Гл.: АБРАЗ.

ПАВІЛЬЁН (франц. pavillon, ад лац. papilio — шацёр) — пабудова, якая вызначаецца кампактным, непадзеленым аб'ёмам і адзінай унутранай прасторай. Звычайна стаіць асобна ў парку. З'яўляўся неад'емнай часткай палацава-паркавага ансамбля.

ПАГАДА — агульнапрынятая ў еўрапейскіх мовах назва будыйскай ступы ў Кітаі, Індакітаі, Непале, Японіі. П. — шматпавярховае збудаванне, сховішча будыйскіх святыняў. Будуецца ў дварах манастыроў побач з храмамі.

ПАГЛЫБЛЕНАЯ ГРАВЮРА — адзін з відаў гравюрнай тэхнікі, усе разнавіднасці гравюры на метале. Для П.г. уласцівы глыбокі друк, які вядзецца не з высокіх, а з паглыбленых частак выявы. Фарба не накатваецца, а ўціраецца ў паглыбленні, каб моцны націск прэса выбраў яе на паперу. Да П.г. адносяцца: разцовая гравюра, сухая іголка, мецца-тынта, пункцірная манера, рэзерваж, лавіс, серны цвет — у механічным і хімічным выкананні. Вядома з XV ст., на Беларусі з XVII ст.

ПАДКЛЕ́ЦЦЕ — ніжні паверх мураванага або драўлянага дома, звычайна службова-гаспадарчага прызначэння. Вядомы ў сядзібным і замкавым дойлідстве XVI–XVIIIстст.На Беларусі сустракаліся рэдка.

ПАДМАЛЁЎКА — у жывапісу падрыхтоўчая стадыя, калі ў час работы над карцінай у тэхніцы алейнага шматслойнага жывапісу выконваецца пропісь у адным або многіх тонах з разлікам на наступнае накладванне слаёў фарбы. Гл.: ПРАПІСКА, ЛЕСІРОЎКА.

ПАДРА́МНІК — драўляная рама, на якую нацягваецца палатно для жывапісу.

ПАДПРУ́ЖНАЯ А́РКА — від канструкцыйнай аркі.

ПА́ДУГА — крывалінейная паверхня над карнізам у пакоях і залах, якая служыць пераходам ад сцяны да столі (плафона).

ПАДЧЭ́НІ,падсе́ні — адкрытая галерэя ў драўляных збудаваннях.

ПА́ЗУХА — вуглавая прастора над перакрыццем будовы, якая атрымліваецца паміж суседнімі скляпеннямі або паміж скляпеннем і сцяной.

ПАДРУ́БА,падва́ліна — ніжні вянок зруба (у драўляным дойлідстве).

ПАЛА́С — двухбаковы бязворсавы дыван. Шырока распаўсюджаны ў быце народаў Сярэдняй Азіі, Казахстана, на Украіне, у Індыі, Іране, іншых краінах.

ПАЛА́ТА (лац. palatium — палац) — у сярэдневечнай рускай архітэктуры зала, звычайна без слупоў або з адным слупам, які падтрымлівае скляпенне (Гранавітая П. ў Маскоўскім Крамлі).



ПАЛАТНО́ — 1. Аснова з дастаткова моцнай тканіны, прызначаная для жывапісу, звычайна грунтуецца. 2. У пераносным сэнсе — твор жывапісу, выкананы на палатне.

ПАЛА́ЦЦО (італьян. palazzo , ад лац. palatium — палац) — тып гарадскога палаца-асабняка, характэрны для італьянскага Адраджэння; склаўся ў Фларэнцыі ў XV ст.

ПАЛА́ТЫ (ад лац. palatium палац) — у архітэктуры перыяду Кіеўскай Русі багатыя жылыя мураваныя або драўляныя будынкі. На Беларусі вядомыя Полацкія княжацкія П. і Гродзенскія княжацкія П.

ПАЛІ́ПЦІХ — складзень з пяці і больш частак з рэльефнай або жывапіснай выявай. П. часцей за ўсё сустракаецца ў сярэдневяковым заходнееўрапейскім мастацтве.Пар.:ДЫПЦІХ,ТРЫПЦІХ.

ПАЛІ́ВА — тое, што глазура.

ПАЛІ́ТРА (франц. pallette , італьян. palitta ) — 1. Тонкая дошчачка, на якой мастак змешвае патрэбныя яму фарбы. 2. Дакладны пералік фарбаў, якімі карыстаецца той ці іншы мастак у сваёй рабоце, падбор колераў, уласцівы творчай манеры жывапісца.

ПАЛІХРО́МІЯ — 1. У жывапісу — шматколернасць. 2. У скульптуры — шматколерная расфарбоўка, якую выкарыстоўваюць як мастацкі сродак. П. таксама шматколернасць твораў дэкаратыўна-ужытковага мастацтва і архітэктуры.

ПАЛЬМЕТА (франц. palmette — аздабленне ў выглядзе пальмавага ліста) — скульптурны або жывапісны арнамент, які нагадвае пучок сіметрычна размешчаных вузкіх лісцяў. Выкарыстоўваюцца ў архітэктурным дэкоры.

ПАНАЎЛЕ́ННІ, запісы — неаўтарскія прапіскі, якія закрываюць сапраўдны жывапіс у асобных месцах яго паверхні.

ПАНДУС (франц. pente douce — палогі схіл) — нахіленая плоскасць, якая замяняе лесвіцу, а таксама служыць для пад"езду да параднага ўвахода, размешчанага над цокалем будынка.

ПАНО (франц. panneau) — 1. Жывапісны твор дэкаратыўнага прызначэння; 2. Частка сцяны або столі, аздобленая ж ы в а п і с а м ці скульптурным р э л ь е ф а м з адпаведным абрамленнем. На БеларусІ П. вядома з ХУІІ ст., аздабляе інтэр"еры ў наш час.

ПАРАПЕТ (франц. parapet ад італьян. parapetto) — невысокая сценка для агароджвання дахаў, т э р а с, пляцовак, мастоў, набярэжных. Вядомы з часоў старажытнай ГрэцыІ і Рыма.

ПАРТРЭТ — 1. Адзін з жанраў в ы я ў л е н ч а г а м а с т а ц т в а, накіраваны на адлюстраванне чалавека або групы людзей. П. бываюць: парныя, групавыя, парадныя, інтымныя, а ў т а п а р т р э т ы. 2. Асобны мастацкі твор партрэтнага жанру. Адна з найбольш старажытных П. выяў на БеларусІ — багушэвІцкая статуэтка.

ПАРСУНА (скаж. "персона") — назва твораў партрэтнага жанру РасіІ, БеларусІ, УкраІны канца ХУІ—ХУІІ ст. Звычайна П. выконваліся ў тэхніцы яечнай т э м п е р ы і па сваіх стылявых асаблівасцях былі цесна звязаны з і к а н а п і с а м, з"яўляючыся пераходным этапам да свецкага п а р т р э т а.

ПАРТЭР (франц. parterre ад par — па і terre — зямля) — месцы ў глядзельнай зале, размешчаныя радамі паралельна сцэне, эстрадзе. У некаторых відовішчных збудаваннях вырашаюцца а м ф і т э а т р а м.

ПАРТАЛ — дэкаратыўна афармлены ўваход у грамадскі будынак з часткай ф а с а д а, што прылягае да яго. У якасці аздаблення часта выкарыстоўвалася скульптура, разьба, лепка, размалёўка, кафля.

ПАРУСА — элементы купальнай канструкцыі храма ў форме сферычнага трохвугольніка, з дапамогай якіх здзяйсняецца пераход ад квадратнай у плане падкупальнай прасторы да акружнасці к у п а л а ці яго б а р а б а н а.

ПАСАД — гандлёва-рамесная частка феадальнага горада ў Х-ХУІІІ стст. побач з д з я д з і н ц а м, звычайна на беразе ракі.



ПАСТАМЕНТ — аснова, падножжа значных памераў, на якім устанаўліваецца буйны п о м н і к, с т а т у я, ваза і да т.п.; п"е д э с т а л.

ПАСТЭЛЬ (франц. pastel, італьян. pastello) — 1. Каляровыя алоўкі без аправы, зробленыя з фарбавага парашку. 2. М а л ю н а к або ж ы в а п і с, выкананыя гэтымі алоўкамі. Для П. характэрна аксамітна-матавая паверхня фарбавага слоя. З ХУІ ст. П. выкарыстоўвалася для расфарбоўкі малюнкаў, з ХУІІІ — як самастойная тэхніка.

ПАЦІНА (італьян. patina) — плёнка розных колеравых адценняў, ад зялёнага да рудога, што з"яўляецца на творах с к у л ь п т у р ы або ўжытковага мастацтва, выкананых з бронзы ці медзі, пры акісленні металаў пад дзеяннем асяроддзя, або спец. апрацоўкі.

ПАЎКАЛОНА — калона, якая выступае са сцяны па ўсёй вышыні на палавіну дыяметра.

ПАЎТОН — у галіне в ы я ў л е н ч а г а м а с т а ц т в а светлаценявы або каляровы тон, па сваёй насычанасці прамежкавы, пераходны ў адносінах да двух другіх, блізка размешчаных і малакантрасных таноў.

П"ЕДЭСТАЛ (франц. piédestal) — тое, што п а с т а м е н т.

ПЕЙЗАЖ (франц. paysage) — 1. Ж а н р у в ы я ў л е н ч ы м м а с т а ц т в е, прысвечаны паказу прыроды, мясцовасці, мора (гл. МАРЫНА); 2. Асобны твор выяўленчага мастацтва гэтага жанру. П. вядомы ў м а с т а ц т в е старажытнага свету, шырока развіты з сярэдніх вякоў у Кітаі і Японіі. З ХУІІ ст. П. існуе як самастойны жанр у еўрапейскім мастацтве, дзе да гэтага быў толькі фонам для тэматычных карцін ці п а р т р э т а. Мастацтва П. узбагацілі майстры рускага жывапісу А. Саўрасаў, І. Шышкін, І. Левітан і інш., і м п р э с і я н і с т ы К. Манэ, Пісаро, Сіслэй і інш. П. матывы сустракаюцца ў беларускім мастацтве з ХУ ст., але ў самастойны жанр П. пачаў складвацца на БеларусІ ў к.ХУІІІ ст.

ПАЎЦЕНЬ — адзін з асноўных элементаў с в е т л а ц е н і, які ахоплівае светлаценявыя градацыі сярэдняй сілы, якія адпавядаюць пераходу ад асветленых частак прадмета да ценявых.

ПЕРФО́РМАНС /англ. performance прадстаўленне/ канцэптуалізаванае дзейства з удзелам самаго мастака ці групы людзей, звычайна звязанае з выяўленнем біялагічнай і псіхічнай энергіі і якое набывае сімвалічную форму сучаснага рытуала. Перажыванні, характар свядомасці, паводзіны ў момант чалавечых зносін – усе гэтае вынаходзіць П. пры дапамозе жэста, позы, размяшчэння ў спецыяльнай прасторы і да т.п. "Залатымі гадамі" П. былі 1970-я г.г. калі праводзілі свае акцыі першае пакаленне арганізатараў П: Віта Акончы, Дэніс Апенхайм, Брюс Ньюман і інш.

ПЕРЫ́ПТЭР /грэч. peripteron ад peri – вакол + pteron крыло/ – від антычнага храма, абкружанага з усіх бакоў калонамі – порцікамі.

ПЕРЫСТЫ́ЛЬ – /грэч. peristylon – абкружаны калонамі/ – двор, абмежаваны па баках каланадай

ПІГМЕ́НТ /лац. pigmentum / – каляровы парашок, які уваходзіць у склад фарбаў і надае ім колер. У залежнасці ад ужытага да П. рэчыва, што звязвае ўсё злучэнне, атрымліваюцца розныя па тэхнічных уласцівасцях фарбы: акварэль, пастэль і г.д.

ПІЛО́НЫ /грэч. pylōn , літар. уваход, вароты/ – 1. масіўныя слупы, якія служаць апорай перакрыццяў або стаяць па баках уваходаў. 2. Невысокія слупы, што ставілі па баках уезда на тэрыторыю парка.

ПІЛЯ́СТРА / франц. pilastre ад італьян. pilastro , ад лац . pila – слуп/ – плоскі прамавугольны ў плане выступ сцяны, мае тое ж чляненне, што і калона, менавіта базу, ствол, капітэль. Падзяляе плоскасць сцяны. Пар.: ЛАПА́ТКА.

ПІНАКАЦЕ́КА / грэч. pinax – карціна і thēkē – умяшчальня/ – у старажытных грэкаў – памяшканне, у якім захоўваліся творы мастацтва; карцінная галерэя.

ПІНА́КЛЬ / франц. pinacle / – дэкаратыўная вежачка, завершаная шпілем /фіялам/ характэрны для архітэктуры позняраманскага і гатычнага стыляў, несапраўднай готыкі.

ПЛАКА́Т – разнавіднасць мастацкай графікі, адна з найбольш масавых форм выяўленчага мастацтва, лаканічная, прыкметная выява з кароткім заклікальным тэкстам.



ПЛА́СТЫКА / грэч. plastikē – скульптура/ – 1. Тое ж, што скульптура. 2. Тэхніка скульптуры з мяккіх матэрыялаў /гл. ЛЕПКА/. 3. Эстэтычная выразнасць аб"ёмнай формы ва усіх пластычных мастацтвах.

ПЛАСТЫ́ЧНЫЯ МАСТА́ЦТВЫ – тое, што прасторавыя мастацтвы.

ПЛА́Ў – жывапісны прыём, для якога характэрны плаўны пераход ад цёмных частак выявы да светлых. Звычайна выкарыстоўваўся ў іканапісу.

ПЛАФО́Н / ад франц. plafond – столь/ – 1. Твор манументальна-дэкаратыўнага жывапісу буйных памераў на столі якога-небудзь памяшкання. Можа быць выкананы ў выглядзе роспісі або пано. 2. Дэкаратыўная кампазіцыя столі ў цэлым,уключаючы ўсе роспісі, ляпніну /гл. ЛЕПКА/, арнаментыку, архітэктурныя чляненні. Класічныя ўзоры П. створаны італьянскімі майстрамі эпохі Адраджэння.

ПЛЕНЭ́Р / франц. plein air – адкрытае паветра/ – 1. У жывапісу перадача натуральнага асвятлення, паветранага асяроддзя з дапамогай назіраемых у прыродзе колеравых пераходаў, адценняў. П. звязаны з працай мастакоў на адкрытым паветры з мэтай найбольш поўнага ўзнаўлення яе рэальнага аблічча. Прынцыпы П. актыўна развівалі мастакі імпрэсіяністы.

ПЛІ́НФА / ад грэч. plinthos – цагліна/ – шырокая і плоская абпаленая цэгла, асноўны будаўнічы матэрыял у архітэктуры Візантыі і старажытнарускім дойлідстве X-XIII ст.ст. На тэрыторыі Беларусі найбольш характэрна для пабудоў XI-XII ст.ст. Полацкай і Гродзенскай школ дойлідства.

ПЛЯБА́НІЯ /польск. plebania / – двор свяшчэнніка каталіцкай і рэфарматарскай, уніяцкай царквы ў Польшчы і на Беларусі ў XYI-XX ст. Звычайна размяшчаўся каля храма, уключаў жылы дом і гаспадарчыя пабудовы.

ПО́ДЫЙ – высокая прамавугольная платформа з узыходам, на якой узводзілі антычныя рымскія храмы.

ПО́МНІК – твор манументальнай скульптуры ў гонар выдатнага дзеяча або падзеі. У шырокім значэнні – аб"ект, які з"яўляецца часткай культурнай спадчыны народа, краіны.

ПОП-АРТ /англ. pop-art / - неавангардысцкі напрамак у
выяўленчым мастацтве. П.-а. атрымаў распаўсюджан-
не ў 60-х г.г. XX ст. ў ЗША. Яго заснавальнік Р.Раўшэнберг. Прад-
стаўнікі П.-а. К.Олдэнбург, Р.Ліхтэйстайн, Дж.Розенквіст і інш.
выступілі супраць адцягненасці абстрактных кампазіцый, абвясцілі
"зварот да рэальнасці", "раскрыццё эстэтычных каштоўнасцей, якія
ўласцівы ўзорам масавай прадукцыі /фота, рэклама, рэпрадук-
цыі і г.д. Яны літаральна ўзнаўляюць тыпавыя прадметы сучаснага
гарадскога побыту /рэчы хатняга ўжытку, упакоўку тавараў, фрагменты
інтэр"ераў, дэталі машын і г.д./ або нават ствараюць
кампазіцыі з гэтых прадметаў, узятых у натуральным выглядзе.

ПО́РЦІК /лац. porticus - галерэя / галерэя з кала-
надамі або аркамі, якая звычайна афармляе галоўны
ўваход у будынак і завяршаецца франтонам ці аты-
кам. П. былі пашыраны ў эпоху антычнасці, адрад-
жэння, барока, класіцызму, у пабудовах
т.зв. "сталінскага ампіра".

ПОСТІМПРЭСІЯНІ́ЗМ /ад лац. post - пасля + імпрэ-
сіянізм/ - накірунак у еўрапейскім жывапісу, які
з"явіўся ў след за імпрэсіянізмам і існаваў з канца XIX ст. да
першай сусветнай вайны /гл. імпрэсіянізм/ Майстры П.,
шмат з якіх раней далучаліся да імпрэсіянізму, з сярэдзіны 80-х г.г.
XIX ст. шукалі новыя і, на іх погляд, больш сугучныя эпохе выяўлен-
чыя сродкі. Іх намерам было перайсці ад імпрэсіяніцкай фіксацыі
асобных імгненняў жыцця да ўвасаблення яе працяглых станаў, ці то
духоўных, ці то матэрыяльных. Творчасць вядучых майстроў П.Сэзана,
В.Ван Гога, П.Гагена сваёй праблематыкай дае пачатак шмат якім
тэндэнцыям выяўленчага мастацтва XX ст.

ПОСТМАДЭРНІ́ЗМ / ад лац. post пасля + мадэрнізм/—
тэрмін узнік у 60-я г.г. ў ЗША. Выкарыстоўваецца для характарыстыкі
асаблівасцей мастацтва другой паловы XX ст., з пачатку ў адносінах
да выяўленчага мастацтва і архітэкту-
ры, а ў наступным - амаль да ўсіх праяўленняў жыцця сучаснага
грамадства. З канца 80-х г.г. гэты тэрмін часцей за ўсё ужываецца
для вызначэння стану сучаснай амерыкана-еўрапейскай культуры. Сярод
характэрных рыс постмадэрніцкай культуры - спалучэнне стыляў
і стылявых інтанацый, стылізацыя, сумесь узроўняў і форм, схільнасць



да капіравання, паўтарэння, адмаўлення ад гісторыі, мазаічнасць,
калейдаскапічнасць ведаў.

ПРАБЕ́ЛКА - у старажытным жывапісе тэхнічны прыём
выканання светлых частак выявы: нанясенне фарбы ў некалькі прыёмаў
з паступовым павелічэннем колькасці беліла ў. Завяршалася, як
правіла, светлымі штрыхамі. У шырокім сэнсе П. уключае вохран-
не.

ПРАДМЕ́СЦЕ / польск. przedmieście / - прыгарад, населены
пункт, размешчаны па-за межамі адміністрацыйнай гарадской тэры-
торыі, паблізу ад яе. Звычайна мае самастойную назву. Некаторыя
беларускія гарады з XVI ст. мелі П. /Троіцкае і Ракаўскае ў Мінску,
Задунайе ў Віцебску, Запалоцце ў Полацку, Каралін у Пінску, хутар
Сеўрукі ў Гомелі і інш./. У XVII-XVIII ст.ст. П. паявіліся і ў мястэч-
ках.

ПРАМЯНІ́ЗМ /ад рускага "лучизм"/ - адзін з напрамкаў аван-
гардызму. Яго заснавальнікі Цімафей Багамаз, Наталля Ган-
чарова, Іван і Міхаіл Ларыёнавы і інш. ў 1913 годзе выступілі з
Маніфестам, у якім захапляясь тагачасным прагрэсам цывілізацыі,
абвясцілі аб сваім бачанні вызначэння мастацтва: у жывапісных формах
адлюстроўваць жыццё, паэзію, музыку, філасофію. Карані свайго мас-
тацтва прамяністы бачылі ў культуры Ўсходу і выступалі супраць
заходніцтва, бо тое, на іх погляд, адмоўна ўплывала на нацыянальнае
мастацтва.

У кампазіцыі жывапіснага твора мастакі-прамяністы надавалі
вялікае значэнне раўнаваге фактуры, колеру, лініі - апошняя атая-
самлівалася з праменнем. Ён спалучае ці раздзяляе каляровыя плос-
касці карціны і тым надае ёй выразнасць і жыццёвую дзейнасць.

ПРАПІЛЕ́І, прапіло́н /ад грэч. propýlaion - перад дзвяра-
мі, уваход/ - парадны праход, праезд, утвораны порцікамі
і каланадамі, размешчанымі па восі руху. Характэрны для
архітэктуры Старажытнай Грэцыі, класіцызму. Сусветна
вядомыя П. афінскага Акропаля /437-432 г.г. да н.э./

ПРАПІ́СКІ - у тэхніцы алейнага жывапісу ас-
ноўны этап у напісанні карціны, які ідзе ў след за падмалёў-
кай і папярэднічае лесіроўцы

ПРАСТО́РАВЫЯ МАСТА́ЦТВЫ, ПЛАСТЫ́ЧНЫЯ МАСТАЦТВЫ - віды мастацтва
/жывапіс, графіка, скульптура, архі-

тэктура/, творы якіх існуюць у прасторы, не змяняюцца і не развіваюцца ў часе і ўспрымаюцца зрокам.

ПРАСТЫЛЬ – невялікі грэчаскі храм з чатырма калонамі на галоўным фасадзе.

ПРОТАРЭНЕСАНС – этап у гісторыі італьянскага мастацтва XIII – XIV ст.ст., які непасрэдна папярэднічаў Рэнесансу і шмат у чым падрыхтаваў глебу для яго развіцця /гл. АДРАДЖЭННЕ/. Буйныя прадстаўнікі П. – Пізана /скульптар/, Джота /жывапісец/, Дантэ /паэт/ і іншыя.

"ПРУСКІ МУР" – гістарычная назва спецыфічнага тыпу агараджальнай канструкцыі будынкаў /фахверка/ на Беларусі. Аснову канструкцыі складае драўляны каркас з вертыкальных стоек, злучаных гарызантальнымі бэлькамі, раскосамі і крыжовымі сувязямі. Прамежкі паміж элементамі каркаса запаўнялі каменнем, цэглай або глінай, нярэдка атынкоўвалі і бялілі, а каркас заставаўся адкрытым і ўтвараў на паверхні сцен характэрны дэкаратыўны малюнак. Тэхніка "П.м." была пашырана на Беларусі ў XV–XVII ст.ст. пераважна ў будаўніцтве малапавярховых абарончых збудаванняў.

ПРЫДЗЕЛ – у праваслаўным храме невялікая бесстаўповая прыбудова з паўднёвага ці паўночнага боку фасаду або спецыяльна вылучаная частка асноўнага будынка, якая мае дадатковы алтар для асобных богаслужэнняў.

ПРЫЗБА – невысокі земляны насып уздоўж сцяны хаты для ўцяплення памяшкання. У наш час П. заменена каменным, цагляным або бетонным падмуркам.

ПРЫТВОР – тое, што нартэкс.

ПРЭСВІТЭРЫЙ, прэсбітэрыум /позналац. presbyterium – месца для выбраных ад грэч. – старэйшына/ – прастора ў касцёле перад галоўным алтаром, прамавугольная або квадратная ў плане, прызначаная для богаслужэння або размяшчэння духавенства. П. вядомы ў сярэдневяковых раманскіх і гатычных храмах Заходняй Еўропы. У беларускай архітэктуры паявіліся з канца XVI ст. ў пабудовах стылю барока.

ПСЕЎДАГОТЫКА /ад грэч. pséudos – хлусня + готыка/



гл. НЕСАПРАЎДНАЯ ГОТЫКА.

ПСЕЎДАРУСКІ СТЫЛЬ /ад грэч. pséudos – хлусня + рускі/, рэтраспектыўна-рускі стыль – умоўная назва розных па сваіх ідэйных вытоках эклектычных кірункаў у рускай архітэктуры другой паловы XIX ст. Яго асноўныя рысы – выкарыстанне матываў і дэталей старажытна-рускага дойлідства /аб"ёмна-прасторавая кампазіцыя, какошнікі, шатровыя дахі і інш./. На Беларусі П.с. пашыраны з канца 1870-х г.г. у культавых будынках /Барысаўскі сабор, Гомельская капліца, Аршанская царква Іллі Прарока/, з канца XIX – пачатку XX ст.ст. ў грамадскіх пабудовах /Гарадскі тэатр і настаўніцкі інстытут у Магілеве і інш./

ПУАНТЫЛІЗМ, дывізіянізм –/франц. point кропка/ – плынь у жывапісу, узнікшая каля 1885 г. ў Францыі. Галоўныя яе прадстаўнікі – Ж.Сёра, П.Сіньяк – імкнучыся даць навуковае абгрунтаванне жывапісу імпрэсіянізма, надалі строга сістэматычны характар імпрэсіяністцкім прыёмам раскладання складаных тонаў на чыстыя колеры, якія накладваюцца на палатно асобнымі мазкамі. Карціна П. прыпадабняюцца мазаіцы з мазкоў правільнай формы, што стварае ўражанне страты матэрыяльнасці ў адлюстраванні рэальных з"яў.

ПУНКЦІРНЫ МАНЕР – тэхнічная разнавіднасць паглыбленай гравюры на метале, якая ўжывалася ў асноўным для рэпрадуцыравання твораў жывапісу. У сучаснасці П.м. сустракаецца рэдка. Гл. ГРАВЮРА.

ПУЦЦІ /італьян. pulli. мн. лік ад pullo – літар. дзіця/ – выявы маленькіх хлопчыкаў, часам крылатых. Улюбёны дэкаратыўны матыў у мастацтве Адраджэння, а таксама XVII–XVIII ст.ст.

## Р

РАЗВАРОТ – у кніжнай графіцы дзве сумежныя старонкі разгорнутай кнігі, аформленыя як адзінае цэлае.

РАЗЕТКА /франц. rosette – ружачка/ – арнаментальны матыў у выглядзе стылізаванай распусціўшыйся кветкі, які часта выкарыстоўваецца ў архітэктурным дэкоры і дэкаратыўна-ужытковым мастацтве.

РАЗМАЛЁЎКА - І. У галіне манументальна-дэкаратыўнага жывапісу - усе злучаныя з архітэктурай віды жывапісу, апрача мазаікі і пано. 2. Ва ўжытковым мастацтве сюжэтныя і арнаментальныя выявы, якія выконваюцца пэндзалем або іншым інструментам.

РАЗЦОВАЯ ГРАВЮРА - від паглыбленай гравюры. На металічнай пласціне /медзь, латунь, цынк, жалеза/ стальным разцом выразваецца малюнак. У паглыбленні тампонам убіваецца фарба. Дошка пакрываецца паперай і пракатваецца паміж валікамі друкарскага станка. Р.г. найстаражэйшая і найбольш цяжкая па тэхніцы выканання разнавіднасць паглыбленай гравюры. У цяперашні час сустракаецца рэдка. Гл. ГРАВЮРА.

РАКАЙЛЬ /франц. rocaille - драблёны камень, ракавіны/ - арнаментальны матыў у выглядзе стылізаванай ракавіны, адкуль паходзіць і тэрмін, які часам ужываецца да стылю ракако.

РАКАКО /франц. rococo /, ракайль - стылістычны кірунак, які развіўся ў еўрапейскіх пластычных мастацтвах і архітэктуры першай паловы ХУШ ст., галоўным чынам ва Францыі ў перыяд крызісу абсалютызму. Р. узнік як стыль пераважна дэкаратыўны, звязаны з прыдворнымі урачыстасцямі і забавамі арыстакратыі. Гуллівасць, лёгкаязабаўляльнасць, імкненне да стварэння ўражання лёгкасці і прывабнасці, вытанчанасць сродкаў мастацкай выразнасці - рысы, характэрныя для Р., асабліва праявіліся ў арнаментальна-дэкаратыўнай трактоўке архітэктуры і ўжытковых мастацтвах. Стылявая сістэма Р. будуецца на поўным адмаўленні архітэктонікі, на свабоднай і абстрактнай пластычнай мадэліроўцы прасторавых і арнаментальна-дэкаратыўных кампазіцый. У пластычных мастацтвах стыль Р. уплываў на характар дэкору, які набыў падкрэслена мудрагелісты і ўскладнены характар. На Беларусі рысы Р. развіліся ў палацава-сядзібнай і культавай архітэктуры сярэдзіны ХУШ ст.

РАКУРС - /франц. raccourci - скарачэнне ад raccourcir скарачаць, укарочваць/ - перадача постаці або прадмета ў перспектыве са скарачэннем аддаленых ад гледача частак.

РАМАНСКІ СТЫЛЬ - стыль, які развіўся ў сярэдневяковым еўрапейскім мастацтве ў Х-ХШ ст.ст. Вызначальная роля належала архітэк-



туры, якая насіла суровы, крапасны характар /замкі, манастырскія комплексы, цэрквы/. Тэрмін узнік у 1820-я г.г. ў сувязі з падабенствам некаторых тыпаў архітэктурных канструкцый і каменнай кладкі гэтага перыяду з рымскімі прыемамі. Збудаванні вызначаліся манументальнасцю, масіўнасцю канструкцый, аздабляліся абстрактна-геаметрычным арнаментам, скульптурай на тымпанах парталаў, капітэлях апор. Яркія ўзоры архітэктуры Р.с. створаны ў Германіі, Францыі, Італіі. На Беларусі Р.с. не меў значнага пашырэння, рысы яго праявіліся ў ХШ-ХУІ ст.ст. у збудаваннях абарончага характару /Камянецкая вежа, Навагрудскі, Лідскі, Крэўскі замкі/.

РАМАНТЫЗМ /франц. romantisme /-І. Напрамак у літаратуры і мастацтве, які ўзнік у Еўропе ў пачатку ХІХ ст. Р. змагаўся з канонамі класіцызму і выстаўляў на першы план асобу і пачуцці; рамантыкі ў сваёй творчасці шырока выкарыстоўвалі гістарычныя і народна-паэтычныя тэмы. Іх мастацкі метад імкнуўся ўвасобіць сюжэты і вобразы, створаныя ўяўленнем пісьменніка або мастака на падставе ідэалізацыі мінуўшчыны.

РАПОРТ /франц. rapport ад rapporter — прыносіць назад/ - частка малюнка /узору/, якая паўтараецца /матыў/ на тканіне, трыкатажы, вышыўцы, шпалерах і інш.

РАСКРАПОЎКА - невялікі выступ плоскасці фасада, антаблемента, карніза і інш. Выкарыстоўваецца галоўным чынам для члянення або пластычнага ўзбагачэння фасада будынка. Элементамі Р. могуць быць пілястры, лапаткі, якія выступаюць на фасадзе будынка. Пашыраны ў архітэктуры старажытнай Грэцыі і Рыма.

РАСЛІННЫ АРНАМЕНТ - від арнамента, які ўзнаўляе дэкаратыўна перапрацаваныя кветкі, лісце, галіны раслін.

РАСТРАЛЬНАЯ КАЛОНА - /лац. rostrum - нос карабля/ - асобная калона, ствол якой аздоблены скульптурнай выявай насавой часткі карабля. Устанаўліваецца ў гонар марскіх перамог.

РАТОНДА / італьян. rotonda ад лац. rotundus - круглы/ - круглая ў плане пабудова, часта ўвенчаная купалам, які абапіраецца на сцены або калоны: храм, маўзалей, павільён, альтанка. Вядома з часоў старажытнай Грэцыі і Рыма.

РА́ТУША - /польск. ratusz ад ням. Rathaus / - будынак, у якім знаходзіліся органы гарадскога самакіравання. Першыя Р. з"явіліся ў Заходняй Еўропе ў XII ст., на Беларусі - у XIV ст.

РАЦЫЯНАЛІ́ЗМ /франц. rationalisme ад лац. rationalis разумны, ratio розум / - у а р х і т э к т у р ы , сукупнасць архітэктурных кірункаў першай паловы XX ст., якія праграмна асвойвалі найноўшыя дасягненні навукі і тэхнікі. У шырокім сэнсе Р. часам атаясамліваюць з паняццем "сучасная архітэктура".

РУ́ЖА - акно, круглай формы ў раманскіх і галоўным чынам гатычных збудаваннях, якое мае каменны пераплёт у выглядзе радыяльных прамянеў з цэнтра круга. Звычайна размяшчалася над уваходным п а р т а л а м .

РЫЗАЛІ́Т /італьян. risalita - выступ/ - частка будынка, якая выступае за асноўную лінію ф а с а д а на ўсю яго вышыню. Пашыраны ў архітэктуры стыляў б а р о к а , к л а с і ц ы з м у , м а д э р н .

РЭАЛІ́ЗМ - /ад позна лац. realis - рэчыўны, рэчаісны/ - у мастацтве праўдзівае аб"ектыўнае адлюстраванне сапраўднасці спецыфічнымі сродкамі, уласцівымі таму ці іншаму віду мастацкай творчасці. У ходзе развіцця мастацтва Р. набыў канкрэтна-гістарычныя формы і творчыя метады : асветны Р., к р ы т ы ч н ы Р., т.зв. с а ц ы я л і с т ы ч н ы Р. У эстэтыцы адсутнічае канчаткова ўстаноўленае азначэнне як хранал агічных граніц Р., так і зместа гэтага паняцця. У разнастайнасці пунктаў гледжання на Р. можна выдзеліць дзве асноўныя канцэпцыі. 1. Р. - адна з галоўных асаблівасцей мастацкага пазнання, асноўная тэндэнцыя паступальнага развіцця мастацкай культуры чалавецтва. Ступень пранікнення ў жыццё, мастацкага пазнання яго найважнейшых бакоў і якасцей азначае і меру рэалістычнасці мастацкага твора. 2. Гісторыя Р. абмяжоўваецца поўнымі рамкамі, сам Р. - гістарычна і тыпалагічна канкрэтная форма мастацкага ўсведамлення. У гэтым разуменні пачатак Р. адносіцца ці да эпохі А д р а д ж э н н я , ці да XVIII ст., веку Асветы. Якога бы пункту гледжання не прытрымлівацца, несумненна, што рэалістычнае мастацтва мае разнастайныя сродкі пазнання, мастацкага інтэрпрэтавання рэчаіснасці. Р. мастакоў розных эпох і школ істотна адрозніваецца друг ад друга і сведчыць аб шырокіх магчымасцях адлюстравання свету сродкамі мастацтва.



РЫ́ЗНІЦА - у хрысціянскіх х р а м а х памяшканне для захавання рыз /адзенне свяшчэнніка пры багаслужэнні/ і царкоўнага начыння. Звычайна Р. знаходзілася ўнутры храма, але магла быць у выглядзе прыбудовы або асобнага будынка /у манастырах/.

РЭКАНСТРУ́КЦЫЯ - /лац. re... + constructio пабудова/ - узнаўленне першапачатковага выгляду твора а р х і т э к т у р ы , с к у л ь п т у р ы , у ж ы т к о в а г а м а с т а ц т в а , выкананага ў м а л ю н к у , чарцяжы або м а д э л і. Нярэдка дасягаецца шляхам апісання. Яна праводзіцца на падставе вывучэння фрагментаў п о м н і к а , якія захаваліся, літаратурных крыніц і дакументаў, выўленчага матэрыялу і іншай даследчай працы. Навуковая Р., як правіла, папярэднічае р э с т а ў р а ц ы і.

РЭЛЬЕ́Ф /франц. relief ад лац. relevo -узнімаю/ - від с к у л ь п т у р ы , у якім выява выпуклая ў адносінах да плоскасці ф о н у . Асноўныя віды Р. - г а р э л ь е ф і б а р э л ь е ф. Часам сустракаецца паглыблены Р.

РЭНЕСА́НС /франц. Renaissance адраджэнне ад renaître адраджацца/ эпоха ў развіцці шэрагу краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, пераходная ад сярэдневяковай культуры да культуры новага часу. Гл.: АДРАДЖЭННЕ.

РЭПРАДУ́КЦЫЯ /лац. re... + produco - раблю/ - у дачыненні да в ы я ў л е н ч а г а м а с т а ц т в а масавае ўзнаўленне мастацкага а р ы г і н а л а паліграфічнымі сродкамі, пераважна ў паменшаным маштабе.

РЭСТАЎРА́ЦЫЯ /ад позналац. restauratio - аднаўленне/ - узнаўленне помніка с к у л ь п т у р ы або в ы я ў л е н ч а г а м а с т а ц т в а з мэтай аднаўлення яго з максімальнай дакладнасцю, у першапачатковым выглядзе.

## С

САНГІ́НА /франц. sanguine ад лац. sanguineus крывава-чорны/ 1. Мяккія алоўкі без аправы чырвона-рудаватага колеру; 2. Тэхніка малюнка, выкананага такімі алоўкамі. Найбольш пашырана ў XVIII ст.

САНДРЫ́К - невялікі к а р н і з над дзвярыма, акном або на ф а с а д з е будынка. Часта завяршаецца ф р а н т о н а м . Выкарыстоўваўся ў ордэрнай архітэктуры Старажытнай Грэцыі і Рыма,

р э н е с а н с у і інш. стыляў.

САКРЫСЦІЯ - /ад лац. sacrum святыня/ - назва памяшкання ў касцёле ці кляштары, у якім захоўваецца культавае начынне, адзенне святарнаслужыцеляў і інш. У праваслаўных храмах такую ролю адыгрывае р ы з н і ц а .

САНКІР - у і к а н а п і с у больш ці менш цёмны асноўны тон /зеленавата-аліўкавы, зеленавата-рудаваты/, з якога пачынаецца маляванне твараў і іншых адкрытых частак цела.

САРКАФАГ /грэч. sarkophagos - літар. пажыраючы цела/ - манументальна аформленая грабніца з дрэва, каменю, металу і інш. С. вядомы ў Старажытным Егіпце, Грэцыі, Рыме. Самы ранні С. на Беларусі знойдзены ў Тураве; вядомы С. князёў Радзівілаў /ХУП - пач. XX ст., Нясвіжскі фарны касцёл/.

САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ РЭАЛІЗМ - афіцыйна прыняты ў савецкай таталітарнай дзяржаве метад літаратурнай і мастацкай творчасці. Зыходзіць з патрабавання адлюстроўваць жыццё, падзеі, людзей не такімі, якімі яны маюць быць, у рэчаіснасці, а падпарадкоўваючы інтэрпрэтацыю сапраўднасці інтарэсам т.зв. сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва, г.зн. ідэалізавана, як гэта павінна было б быць з пункту гледжання камуністычнай ідэалогіі.

СВЕТЛАЦЕНЬ - строга закамерныя градацыі светлага і цёмнага, дзякуючы якім зрокава ўспрымаюцца і здзяйсняюцца ў мастацкім творы прадметныя ўласцівасці і з"явы рэчаіснасці. С. - адзін з асноўных сродкаў в ы я ў л е н ч а г а м а с т а ц т в а .

СВЯТЛІЦА - светлы чысты пакой, прызначаны звычайна для прыёму гасцей. Вядомы здаўна ў Расіі, Польшчы, з ХУІ ст. на Беларусі. З XIX ст. рабіліся ў сялянскіх хатах.

СГРАФІТА /італьян. sgraffito - літар. выдрапаны/ - разнавіднасць дэкаратыўнага р о с п і с у, калі на сцяну спачатку наносіцца слой сырой, а потым шматколеравай тынкоўкі. Апошняя пры дапамозе скрабка прадрапліваецца ў адпаведнасці з малюнкам на розную глыбіню, каб атрымалася каляровая карцінка.

СЕМ ЦУДАЎ СВЕТУ - егіпецкія піраміды ў Гізе /каля 2700 - 1780 г. да н.э./, вісячыя сады Семіраміды ў Вавілоне /605-562 г.г. да н.э./, храм Арцеміды ў Эфесе /УІ в. да н.э./, гіганцкая статуя Зеўса ў



Алімпіі /каля 430 г. да н.э./, Галікарнаскі маўзалей у Малай Азіі /сярэдзіна ІУ в. да н.э./, Калос радоскі - бронзавая фігура бога Сонца Геліёса вышынёй 37 м /каля 272 г. да н.э./, Фароскі маяк у Александрыйскім парту /каля 279 г. да н.э., верагодная вышыня 143 м/

СЕПІЯ /лац. sepia ад грэч. sèpia - каракаціца/ - І. Матэрыял для малявання ў выглядзе празрыстай карычневай фарбы з чарнільнага мяшка марскога малюска - сепіі. У больш позні час - фарбы акварэльнага тыпу. 2. Тэхніка малюнка, выкананага С. выкарыстоўвалася мастакамі з сярэдзіны ХУШ ст. У XX ст. заменена штучнымі фарбамі тыпу а к в а р э л і.

СІГНАТУРКА - /лац. signatura ад signo - абазначаю, указваю/ - у а р х і т э к т у р ы невялікая в е ж а ч к а , размешчаная над п р э с б і т э р ы е м касцёла або ў месцы перакрыжавання яго галоўнага н е ф а і т р а н с е п т а , звычайна з малым літургічным звонам. Мела дэкаратыўнае значэнне, вылучала цэнтр сяродкрыжжа або алтарнае памяшканне. Характэрная для раманскіх, гатычных сабораў Францыі, Германіі, Польшчы. /гл. РАМАНСКІ СТЫЛЬ, ГОТЫКА/ На Беларусі была пашырана ў ХУП - ХУШ ст.ст. у збудаваннях стылю б а р о к а , у пачатку XX ст. - н е с а п р а ў д н а й г о т ы к і.

СІНАГОГА /ад грэч. synagōgē - сход, месца збору/ - у іудаізме малітоўны дом і абшчына веруючых. Для будынка С. характэрны прамавугольны план, дзяленне на 3-5 н е ф а ў , каля ўсходняй сцяны - "каўчэг запавета" і ўзвышэнне для чытання свяшчэнных тэкстаў перад ім. Да нашых дзён захавалася С. у Быхаве, пабудаваная ў пач. ХУП ст.

СКАРБНІЦА - гаспадарчая пабудова ў замкава-палацавых і сядзібных комплексах для захоўвання найбольш каштоўных рэчаў, зброі, дакументаў. Здаўна вядома на Беларусі, у Літве, Польшчы .

СКЛАДЗЕНЬ - складны а б р а з, які бывае з дзвух / д ы п ц і х /, трох / т р ы п ц і х / або некалькіх / п а л і п ц і х / частак, створак. Прызначаецца для асабістага карыстання ў якасці мініяцюрнага паходнага а л т а р ы к а .

СКЛЯПЕННЕ - крывалінейнае па форме перакрыццё будовы. Выконваецца з каменя, дрэва, бетону, жалезабетону і іншых матэрыялаў. Разнавіднасць С. - к у п а л .

СКУЛЬПТУ́РА /лац. sculptura ад sculpo – высякаю, выразаю/, пластыка – від выяўленчага мастацтва, творы якога маюць аб"ёмную трохвымерную форму. Адрозніваюць дзве асноўныя разнавіднасці С. Круглая С. /статуя, скульптурная група, статуэтка, торс, бюст і г.д./ свабодна размяшчаецца ў прасторы і патрабуе кругавога агляду. Рэльеф ствараецца на плоскасці, якая служыць фонам. С. падзяляецца на станковую, манументальную і дэкаратыўную. Асноўныя жанры С. – партрэт, гістарычны, бытавы, анімалістычны і інш.

СМА́ЛЬТА – /ням. Schmalte ад schmelzen плавіць/ – невялікія кавалкі непразрыстага каляровага шкла, якія ўжываюць у якасці асноўнага мастацкага матэрыялу пры стварэнні мазаікі.

СО́ЎС – у графіцы: І. Матэрыял для малявання, складзены з надта дробнага і мяккага чорнага парашку з нязначнай дабаўкай клеючых рэчываў. С. гатуецца ў выглядзе палачак у абгортцы. 2. Тэхніка малюнка, выкананага С. С. шырока выкарыстоўваецца сучаснымі графікамі.

СОЦ-АРТ – напрамак у савецкім жывапісу 1970-80-х г.г., які можна назваць сацыялістычным варыянтам поп-арта. У адрозненне ад амерыканскіх поп-артыстаў, якія ў сваіх працах імкнуліся гуляць з непасрэднай прывабнасцю заходняй камерцыйнай рэкламы, савецкія мастакі В. Комар і А.Меламід /заснавальнікі С.-а./, Э.Булатаў, І.Кабакоў, А.Касалапаў, Д.Прыгаў і інш., знешне выкарыстоўваючы выразныя сродкі, уласцівыя сацыялістычнаму рэалізму, ператваралі іх такім чынам, што яны па-сутнасці развенчвалі вобразы савецкай масавай культуры, афіцыйную міфалогію і іканаграфію. Амаль усе мастакі гэтай плыні ў 1970-80-х г.г. эміграваралі на Захад. Сам тэрмін – С.-а. быў уведзены ў тэорыю мастацтва ў 1972 г. В.Комарам і А.Меламідам.

СПАВЯДА́ЛЬНЯ, канфесіянал – адзін з важных элементаў царкоўнага начыння, прызначаны для правядзення споведзі /пакаяння/. Выглядае як крэсла закрытае з усіх бакоў невысокімі дзверкамі. Веруючыя спавядаюцца праз акенцы, закрытыя кратамі. Звычайна бывае з дрэва, часам – з мармуру ці стука. С. ўведзена ў хрысціянскую абраднасць у другой палове ХУІ ст.



СТАЛАКТЫ́Т – /грэч. stalaktos – капаючы/ – дэкаратыўная форма, якая ўжываецца для афармлення скляпенняў у мусульманскай архітэктуры і нагадвае натуральны сталактыт.

СТАНКО́ВАЕ МАСТА́ЦТВА – тэрмін, які абазначае творы жывапісу, скульптуры, графікі невялікіх памераў, якія маюць самастойны характар, не звязаны з пэўным месцам або ўтылітарным прызначэннем. Сам тэрмін С.м. паходзіць ад слова "станок" /мальберт жывапісца, станок скульптара/, на якім ствараецца, як правіла, твор мастацтва. С.м. атрымала шырокае развіццё, пачынаючы з эпохі Адраджэння. Яно надзвычай пашырыла рамкі выяўленчага мастацтва. На яго глебе здолелі атрымаць поўнае развіццё разнастайныя жанры жывапісу, скульптуры, графікі /гістарычны, бытавы, партрэт, пейзаж, нацюрморт і інш./, склаліся сучасныя мастацка-тэхнічныя сродкі гэтых відаў мастацтва /напрыклад, тэхніка алейнага жывапісу/.

СТАТУЭ́ТКА – гл. СТАТУЯ.

СТА́ТУЯ /лац. statua/ – значны па памерах твор круглай скульптуры, які паказвае, як правіла, чалавечую фігуру у рост, радзей іншыя рэальныя або ўяўляемыя істоты, напрыклад, бажаствы. Настольная скульптура называецца статуэткай. Велізарная С. – калосам.

СТУ́ПА /санскр./ – у будызме від памятных архітэктурных збудаванняў, якія тыпалагічна ўзыходзяць да магільных курганоў. У раннім будызме С. выступалі ў ролі сховішчаў "святынь". У позні́м будызме больш характэрны С. – мемарыялы ў гонар якіх-небудзь падзей гісторыі будызма. Архітэктурныя асаблівасці С. ў кожнай краіне вызначаюцца мясцовымі традыцыямі, аднак наяўнасць круга або квадрата ў плане – абавязковы элемент. У сістэме будыйскай сімволікі С. разглядаецца як знак Сусвету.

СТЫЛІЗА́ЦЫЯ /франц. stylisation ад style – стыль/ – у мастацтве: І. Пераймання знешніх асаблівасцей якога-небудзь стылю мінулых эпох. 2. Дэкаратыўнае абагульненне выяўленчых матываў, якое выкарыстоўваецца ва ўжытковым мастацтве, галоўным чынам, у арнаменце.

СТЫЛЬ /лац. stilus, stylus - ад грэч. stýlos - грыфель для пісання/ - у мастацтве Устойлівая цэласнасць ці агульнасць вобразнай сістэмы, сродкаў мастацкай выразнасці, вобразных прыёмаў, якая характарызуе асобны твор мастацтва, ці сукупнасць твораў. У тэорыі мастацтва вылучаюць некалькі Узроўняў паняцця С.: І. С. - тыповы для пэўнай эпохі мастацкі кірунак, тэндэнцыя, якая мае спецыфічнае спалучэнне прыкмет; 2. С. - устойлівыя асаблівасці архітэктуры і выяўленчага мастацтва якога-небудзь народа, якія Уласцівы яму на працягу доўгага часу і могуць стаць аб"ектам імітацыі /"старажытна-егіпецкі С.", "кітайскі С."; 3. С. - перыяды гісторыі мастацтваў /гістарычныя С. - раманскі, готыка, рэнесанс, барока і інш./; 4. С. - індывідуальная манера мастака ці мастацкай школы.

СТЭЛА /ад грэч. stélē - слуп/ - вертыкальная каменная пліта з надпісам або рэльефнай выявай. Вядома з часоў старажытнасці. Зараз форма С. выкарыстоўваецца ў стварэнні мемарыяльных помнікаў.

СУПРЭМАТЫЗМ /ад лац. supremus - найвышэйшы/ - адна з разнавіднасцей абстракцыянізму, так званы геаметрычны абстракцыянізм. Узнікненне адносіцца да І9ІІ г.,калі Казімір Малевіч выставіў першы праграмны твор С. - "Чорны квадрат на белым фоне". У аснове С. твораў ляжыць спалучэнне афарбаваных прасцейшых геаметрычных фігур. Для ўвасаблення сваіх ідэй К. Малевіч стварыў у Віцебску мастацкую групу "УНОВИС" /І920-І923/, у якую ўваходзілі В.Ермалаева, М.Коган, М.Суэцін, І.Чашнік і інш.

СФІНКС /грэч. sphin / - у старажытным Егіпце каласальных памераў каменная фігура ляжачага ільва з чалавечай галавой.

СФУМАТА /італьян. sfumato - затуманены, затушаваны/ - тэрмін, звязаны з жывапісам італьянскага Адраджэння, пачынаючы з Леанарда да Вінчы, і азначаючы мяккасць выканання, няўлоўнасць прадметных контураў як вынік акрэсленага мастацкага падыходу.

СУВЯЗНАЕ РЭЧЫВА - рэчыва, якое ўваходзіць у склад фарбы і вызначае ўсе яе спецыяльныя ўласцівасці за выключэннем тых, якія абумоўлены пігментам. Асноўныя С.р. ў станковым жывапісу - раслінны алей, раслінны і жывёльны клей, яйкі, воск.



СЯДЗІБА, сяліба - жылыя, гаспадарчыя, вытворчыя і інш. пабудовы, якія складаюць адзіны гаспадарча-эканамічны і архітэктурна-кампазіцыйны комплекс. На Беларусі існавалі сялянскія і панскія С.

СЯДЗІБНЫ ДОМ - у панскай сядзібе на Беларусі ў ХУІ - пачатку XX ст. жылы будынак, які адрозніваўся ад палаца меншымі памерамі, меншай колькасцю парадных памяшканняў, больш простым дэкорам фасадаў і інтэр"ераў. С.д. - архітэктурна-планіровачны цэнтр ансамбля сядзібы.

СЯРОДКРЫЖЖА - частка культавага збудавання, утвораная перасячэннем аднаго або некалькіх падоўжных нефаў з папярочным трансептам. Вядома з антычнасці. На Беларусі пашырана з XI-XII ст.ст. у мураваных крыжова-купальных і крыжова-цэнтрычных храмах. Звычайна цэнтр С. вылучаўся купалам або вежачкай-сігнатуркай.

ТАБЕРНАКЛЬ / ад лац. tabernaculum шацёр/ - І. ніша ў алтарнай сцяне для размяшчэння культавых атрыбутаў. 2. У касцёле невялікая шафка ў цэнтры алтара на яго подыўме, дзе захоўваліся прадметы рэлігійнага пакланення. 3. Часам Т. называюць характэрную для гатычных храмаў вежападобную адкрытую прыбудову да алтара для размяшчэння статуй святых.

ТАЛОС /грэч. tolos - скляпенне, купал/ - круглы ў плане будынак, пакрыты купалам. Распаўсюджаны ў розных краінах Старажытнага свету.

ТАНАЛЬНАСЦЬ /франц. tonalité / - знешнія асаблівасці каларыту або святлаценіў творах жывапісу і графікі. У адносінах да колеру гэты тэрмін больш ужываецца і супадае з паняццем "колеравая гама". У дачыненні да святлаціні тэрмін часцей адносіцца да твораў графікі і паказвае дыяпазон тонавага спектра.

ТАНІРОЎКА - падфарбоўванне паверхні мастацкага твора або яго матэрыялаў. Садзейнічае больш выразнаму выяўленню пластычных форм.

ТАРАСА - тып абарончага збудавання, здаўна вядомы ў драўляным дойлідстве славян. Сцяна з двух радоў бярвён ці брусоў, прамежак паміж якімі часам запаўняўся зямлёй і каменнем.

ТАСКА́НСКІ О́РДЭР – антычны рымскі архітэктурны ордэр, разнавіднасць дарычнага, але адрозніваецца ад яго больш важкімі прапорцыямі, гладкім, без канелюр, ствалом калоны, развітай базай і больш высокай капітэллю. Назва паходзіць ад вобласці Таскана ў Цэнтральнай Італіі.

ТОН / франц. ton ад грэч. tónos / – I. Адна з асноўных якасцей колеру /разам з яркасцю і насычанасцю/, дзякуючы чаму адзін колер адрозніваецца ад другіх. 2. Агульны светлацянявы або колеравы лад твораў жывапісу і графікі, асноўнае адценне, якое абагульняе і падпарадкоўвае сабе ўсе колеры карціны, надаючы целаснасць каларыту.

ТО́НДА /італьян. tondo / – станковы твор жывапісу або рэльеф круглай формы. Часцей за ўсё Т. называліся круглыя па кампазіцыі выявы Мадонны з дзіцём, характэрныя для італьянскага мастацтва фларэнтыйскай школы сярэдзіны ХУ – першай паловы ХУІ ст.

ТРАНСАВАНГА́РД – абагульняючы тэрмін, які аб"ядноўвае шэраг плыняў у мастацтве, постмадэрнізм у сучаснай архітэктуры, стыль рэтра ў дызайне. Узнікшыя ў другой палове 70-х – пачатку 80-х г.г. ХХ ст. новыя тэндэнцыі адлюстроўвалі расчараванне ў авангардызме, стылізавалі прыёмы старых майстроў і мастакоў такіх накірункаў пачатку ХХ ст., як "неаэкспрэсіянізм", "маладыя фавізм", "вольная фігурацыя", "неафігуратыўнасць" і інш.

ТРАНСЕ́ПТ/позналац. transeptum ад лац. trans за + septum – агароджа/ – адзін ці некалькі калярровых нефаў у базілікальных і крыжовых у плане храмаў, якія перасякаюць пад прамым вуглом асноўныя падоўжныя нефы. На Беларусі пашырыўся ў архітэктуры рэнесансу і барока канца ХУІ ст., класіцызму, несапраўднай готыкі.

ТРА́ПЕЗНАЯ /ад грэч. trapeza – стол, ежа/ – I. у хрысціянскай архітэктуры спецыяльны будынак у манастыры з залай для сумесных трапез і падсобнымі памяшканнямі. 2. Невысокая прыбудова з заходняга боку хрысціянскага храма, прызначаная для правядзення богаслужэння ў зімовы час і грамадскіх патрэб прыхаджан.

ТРАЎЛЕ́ННЕ – у паглыбленай гравюры і мастацкай літаграфіі апрацоўка металічнай пласціны і літаграфскага



каменю хімічнымі сродкамі з мэтай атрымаць у адбітку задуманы твор.

ТРЫ́ПЦІХ /грэч. triptychos – утрая складзены/ – твор выяўленчага мастацтва, часцей жывапісу, які складаецца з трох самастойных частак на агульную тэму. Напрыклад, трохчасткавы складзень з рэльефнымі або жывапіснымі выявамі, складны абраз з трыма створкамі. Гл. ДЫПЦІХ, ТРЫПЦІХ.

ТРЫФО́РЫУМ, трыфо́рый /позналац. triforium ад лац. tri... у складаных словах – тры + foris дзверы, уваход/ – трохчасткавае аркаднае акно або арачны праём з 3-лопасцевым завяршэннем. 2. Аркада ў другім ярусе цэнтральнага нефа раманскіх і гатычных базілікальных храмаў, якая складаецца з шэрага Т. 3. Вузкая галерэя, размешчаная за аркадай ці парапетам над скляпеннямі і пад схілам даху бакавых нефаў.

ТРЭЧЭ́НТА / trecento / – найменне ХІУ ст. на італьянскай мове, перыяд у развіцці італьянскага мастацтва і культуры ў цэлым, які ахоплівае ХІУ ст. Гл. Адраджэнне.

ТУШ /ням. Tusche / – I. Матэрыял для малявання пэндзалем або пяром; 2. Тэхніка малюнка, выкананага чорнай тушшу пры дапамозе пэндзаля.

ТЫМПА́Н /грэч. tympanon / – у архітэктуры: I. поле трохвугольнага ці фігурнага франтона, аздобленае шалёўкамі, накладкамі з разным прафіляваным геаметрычным арнаментам, скульптурнай пластыкай у выглядзе дэкаратыўных заставак з геральдычнымі выявамі і да т.п. 2. Ніша паўцыркулярнай, трохвугольнай ці спічастай формы над акном або дзвярыма, у якой размяшчаюць скульптуру, жывапісныя выявы, рэльефы/.

ТЫ́ТУЛ, тытульны ліст – у кніжнай графіцы і паліграфіі старонка кнігі, якая змяшчае падрабязныя звесткі аб выданні ў цэлым /прозвішча аўтара, назву кнігі, год і месца выпуску/. Т. змяшчаецца на правай, няцотнай палове першага развароту.

ТЭ́МПЕРА / італьян. tempera ад temperare – змешваць фарбы/ – I. Фарбавы матэрыял для тэмпернага жывапісу. Галоўная яго асаблівасць – эмульсіённы склад рэчыва, што яго звязвае. 2. Тэхніка жывапісу тэмпернымі фарбамі, якія расціраюцца на яечным

жаўтку. 3. Твор жывапісу, напісаны такой фарбай. Як фарбавы матэрыял Т. вядома з часоў старажытнасці. Была асноўной тэхнікай станковага жывапісу ў сярэдневяковай Еўропе. На Беларусі ў ХУ-ХУШ ст. яечнай тэмперай на дошках малявалі абразы.

ТЭРАКО́ТА /італьян. terra cotto літар. абпаленая зямля/ - у дэкаратыўна-ужытковым мастацтве неглазураваныя вырабы з абпаленай каляровай /жоўтай або чырвонай/ гліны сітаватай будовы, якія ўжываюцца ў выглядзе архітэктурных дэталяў і элементаў.

ТЭРАТАЛАГІ́ЧНЫ СТЫЛЬ /грэч. teras - пачвара і logos вучэнне/ - гл. ЗВЯРЫНЫ СТЫЛЬ.

ТЭРА́СА /франц. ад лац. зямля/ - архітэктурна аформленая адкрытая або напаўадкрытая пляцоўка, часцей за ўсё далучаная да будынка.

ТЭ́РМЫ /лац. thermae / - старажытнарымскія лазні, у якіх апрача ўласна лазневых памяшканняў былі і іншыя - спартыўныя, залы для адпачынку, бясед і выступленняў аратараў. Т. дасягалі вялізарных памераў. Самымі буйнымі былі Т. імператара Дыяклецыяна, умяшчаўшыя да 3200 чалавек і імператара Каракалы - 1800 чалавек.

ТЭ́ХНІКА /грэч. technikē - умелы і technē - майстэрства/ - у галіне мастацтва: сукупнасць спецыяльных навыкаў, спосабаў і прыёмаў, пры дапамозе якіх выконваецца мастацкі твор. Канкрэтныя ўласцівасці Т. шмат у чым залежаць ад характару выяўленчых задач, ад уласцівасцей выбранага мастаком матэрыялу, ад індывідуальных асаблівасцей выканаўчага майстэрства. Прасцейшая і ўжывальная класіфікацыя Т. грунтуецца на яе залежнасці ад прымянення спецыяльных матэрыялаў і інструментаў: у жывапісу - Т. алейнага жывапісу, акварэлі, тэмперы, пастэлі, энкаустыкі, фрэскі, мазаікі і інш. і тэхніка гравюры - літаграфія, ксілаграфія, лінагравюра, афорт, разцовая гравюра, мецца-тынта, сухая іголка, афорт, мяккі лак, акватынта, алоўкавая манера, пункцірны манер, лавіс, серны цвет; тэхніка скульптуры, лепка, высяканне, ліццё і інш.



У

УРБАНІ́ЗМ /франц. urbanisme - ад лац. urbanus - гарадскі, urbs - горад/ - накірунак у горадабудаўніцтве XX ст., заснаваны на ўяўленні аб вяршэнстваючай ролі гарадоў-цэнтраў у параўнанні з другімі формамі рассялення. У станаўленні урбаністычных тэорый значнае месца належыць архітэктару Ле Карбюзье, які ў 1925 г. прапанаваў ідэю грандыёзнай перабудовы цэнтра Парыжа. У тэарэтычных канцэпцыях наступнага часу ўмацоўваецца тэндэнцыя пошука новых горадабудаўнічых структур /будаўніцтва .Чандыгарха ў Пенджабе - арх. Ле Карбюзье, новай сталіцы Бразіліі г.Бразіліа - арх. Л.Коста і О.Німейер/, ідэі паралельных гарадоў-дублёраў /арх. Ш.Кандзіліс, К.Танге і інш./, прасторавых гарадоў будучага /"Горад на слупах", "Горад-небаскроб"/, "Надводны горад" і т.п./.

УЖЫТКО́ВАЕ МАСТА́ЦТВА - мастацтва вырабу бытавых рэчаў, якія маюць утылітарнае прызначэнне і разам з тым вызначаюцца эстэтычнымі мастацкімі якасцямі. Гл. Дэкаратыўна-ужытковае мастацтва.

Ф

ФАВІ́ЗМ /ад франц. les fouves-дзікія/ - мадэрнісцкая плынь у французскім жывапісу, якая існавала ў 1905-1907 г.г. Сама назва "фавісты" упершыню была ўжыта крытыкам Луі Ваксэлем у рэцэнзіі на выставу ў Салоне незалежных. Прадстаўнікам Ф. была ўласціва схільнасць да асобай выразнасці колеру пры некатарым спрашчэнні малюнка і формы. Жывапіс Ф. змяшчаў у сабе эстэтычны пратэст супраць мастацкіх традыцый XIX ст. Фавісты разглядвалі каляровыя суадносіны як асноўны элемент жывапісу. У іх палітры перабольшвалі "чыстыя" колеры: зялены, сіні, фіялетавы ў спалучэнні з кантраснымі - аранжавым, чырвоным. Лідэрам накірунку быў Анры Маціс, вакол якога групаваліся мастакі Альбер Марке, Анры Мангэн, Кэс ван Данген. Атон Фрыез, Рауль Дюфі і інш.

ФАКТУ́РА /ад лац. factura - апрацоўка, будова/ - у выяўленчым мастацтве характар паверхні твора, яе апрацоўка; адзін са сродкаў мастацкай выразнасці, напрыклад, асаблівасць мазка ў жывапісу, паліраваная або шурпатая паверхня скульптуры і да т.п.

ФАРФÓР / тур. farfur, fagfur ад перс. фегфур/ – у д э к а р а т ы ў н а - у ж ы т к о в ы м м а с т а ц т в е выраб са штучна прыгатаванай мінеральнай масы, у склад якой уваходзіць высокагатунковая гліна з рознымі дабаўкамі. Найбольш часта Ф. ужываецца ў вытворчасці ваз, статуэтак, посуду. Спосаб прыгатавання Ф. вынайдзены ў Кітаі.

ФАРШТÁТ /ням. Vorstadt / – паселішча, размешчанае па-за межамі горада або крэпасці.

ФАСÁД /франц. façade ад італьян. facciata ад faccia – твар/ – вонкавы выгляд будовы, знадворная паверхня сцен з усімі іх элементамі. У залежнасці ад тыпу збудавання, формы яго плана, месца знаходжання вылучаюць галоўны, бакавы, дваровы, садовы Ф.

ФАХВЕРК /ням. Fachwerk – каркаснае збудаванне/ – тып канструкцыі жылых дамоў. Уяўляе сабой каркас, утвораны сістэмай гарызантальных і вертыкальных драўляных брусоў-стоек, б э л е к і падкосаў, прамежкі паміж якімі запаўняюцца камянямі, цэглай, іншымі матэрыяламі. Ф. характэрны для сярэдневяковай архітэктуры Еўропы. У беларускім будаўніцтве Ф. вядомы пад назвай " п р у с к і м у р ".

ФАЮ́МСКІ партрэт /па назве аазіса Фаюм у Егіпце/ – пахавальныя жывапісныя п а р т р э т ы ў Старажытным Егіпце, якія клаліся на твар муміі. Росквіт мастацтва Ф.п. прыпадае на I-III вв. Выконваліся ў тэхніцы э н к а ў с т ы к і. Калекцыя Ф.п. захоўваецца ў Музеі выяўленчых мастацтваў імя А.С.Пушкіна ў Маскве.

ФАЯ́НС /франц. faïence / вырабы з белай або каляровай абпаленай гліны са спецыяльнымі прымешкамі. У Еўропе Ф. пачалі вырабляць з сярэдзіны ХУІ ст. Хутка ён выцесніў існаваўшую да таго часу крохкую м а ё л і к у. На Беларусі Ф. вядомы з ХУШ ст., яго выраблялі на мануфактурах кн.Радзівілаў, А.Тызенгаўза, М.Агінскага.

ФІЛЁНГА /ад ням. Füllung -літар. напаўненне/ – невялікая частка сцяны, дзвярэй, п і л я с т р ы , узятая ў рамку.

ФІЛІГРА́НЬ /італьян. filigrana ад лац. filum ніткa + granum – зерне/ – у д э к а р а т ы ў н а - у ж ы т к о в ы м м а с т а ц т в е : І. Ювелірныя вырабы з кручаных металічных нітак, пераважна выгнутых у выглядзе завіткоў, змацаваных спайкай у адной плоскасці, якія ўтвараюць складаны ўзор, як з карункаў, празрысты або на гладкім ф о н е. 2. Тэхніка вырабу Ф. аздабленняў. На тэрыторыі Беларусі тэхніка Ф. вядома з XI-XIII ст.



ФІНІ́ФЦЬ – тое, што э м а л і.

ФІЯ́Л /ад грэч. phiálē – чаша, кубак/ у гатычнай архітэктуры фігурны шпіль вежачак-п і н а к л е й, якія сумесна выконвалі не толькі дэкаратыўную ролю, але і адначасова служылі процівагай к о н т р ф о р с а , узмацняючы ўстойлівасць апошняга. Гл. ГОТЫКА.

ФЛЮ́КСУС /англ. fluxus – выцяканне, паток/ – інтэрнацыянальнае аб"яднанне мастакоў, музыкантаў, паэтаў. Узнікла ў 1962 г. і развівала эстэтыку д а д а і з м а . Як тэрмін звычайна ўжываецца пры апісанні маніпуляцый мастака ўсялякімі аб"ектамі, у выніку чаго ствараюцца парадаксальныя, не матываваныя логікай сітуацыі.

ФОН /франц. fond ад лац. fundus дно, глыбінная частка/ – І. Любая частка выяўленчай або арнаментальнай к а м п а з і ц ы і у адносінах да ўключанай у яе "выступаючай" дэталі. 2. Асноўны колер, тон, на якім малююцца карціна.

ФОРТ /ням. Fort / – невялікая крэпасць або асобнае ўмацаванне, якое ўваходзіць у склад крэпасці.

ФО́РУМ /лац. forum / – гандлёвая і грамадская плошча старажытнарымскага горада. У самом Рыме было некалькі Ф, на якіх канцэнтрыраваліся грамадскія будынкі / б а з і л і к і, х р а м ы/ трыумфальныя а р к і, а б е л і с к і і інш.

ФРАНТО́Н /франц. fronton ад лац. frons, frontis – лоб, пярэдні бок/ – шчыт, завяршэнне, звычайна трохвугольнае, радзей лучковае, ф а с а д а будынка, п о р ц і к а , к а л а н а д ы . Дэкаратыўная Ф. аздабляюць вокны і дзверы будынкаў. Поле Ф. – т ы м п а н – часта упрыгожваецца р э л ь е ф а м, с к у л ь п т у р а й , н і ш а м і, у драўляным дойлідстве – разьбой.

ФРАНТЫСПІ́С /франц. frontispice ад лац. frons, frontis – лоб, пярэдні бок + specio, spicio – гляджу/ – у кніжнай г р а ф і ц ы і палiграфіі старонка з і л ю с т р а ц ы я й або

партрэтам, змешчаным у развароте з тытулам.

ФРЫЗ /франц. frise / - I. Сярэдні з трох галоўных элементаў антаблемента, які знаходзіцца паміж архітравам і карнізам /гл. ОРДЭР АРХІТЭКТУРНЫ/. 2. Суцэльная паласа дэкаратыўных, скульптурных, жывапісных і іншых твораў, якія аблямоўваюць верхнюю частку сцяны ўнутры ці звонку памяшкання.

ФРЭСКА /італьян. fresco літар. свежы/ - I. Жывапіс па тынку вадзянымі фарбамі на сценах, столі і іншых архітэктурных элементах. 2. Твор манументальнага жывапісу, выкананы ў тэхніцы Ф. Ф. — найбольш старажытная тэхніка жывапісу, вядомая з 2-га тыс. да н.э. Ёю шырока карысталіся ў Эгейскім свеце, Візантыі, краінах Каўказа, Еўропы. Свайго росквіту дасягнула ў творчасці майстроў Італьянскага Адраджэння. На высокім узроўні знаходзілася мастацтва Ф. ў Х-ХП ст. на старажытнарускіх, украінскіх, беларускіх землях /Ф. Сафійскага сабора ў Кіеве, XI ст.; царквы св. Георгія ў Старой Ладазе і Спаса на Нярэдзіцы ў Ноўгарадзе, ХП ст.; Сафійскага сабора, XI ст. і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, ХП ст. у Полацку/ і XIУ-ХУI ст.ст., калі ў рускай дзяржаве працавалі Феафан Грэк, Андрэй Рублёў, Дыянісій. На жаль Ф. жывапісу ад гэтага перыяду на тэрыторыі Беларусі захавалася вельмі мала. Уяўленне аб яго развіцці даюць Ф. цыклы выкананыя беларускімі майстрамі на тэрыторыі Польшчы.

ФУНКЦЫЯНАЛІЗМ - кірунак у архітэктуры XX ст., заснаваны на сцвярджэнні першаснасці утылітарна-практычнага прызначэння твора архітэктуры адносна яго формы. Яму характэрны выкарыстанне дасягненняў навукі і тэхнікі, эканамічнасць, прастата форм, адмаўленне ад дэкору. Склаўся ў 20-я гады ў Германіі. Шэраг прыёмаў збліжае Ф. з канструктывізмам.

ФУТУРЫЗМ / лац. futurum - будучае/ - адзін з напрамкаў мастацтва авангарда еўрапейскіх краін, у тым ліку і Расіі, які ў 10-20-х г.г. XX ст. спрабаваў стварыць новы стыль - "мастацтва будучага". Ён павінен быў разбурыць усе традыцыі і прыёмы старога мастацтва. Асноўныя прадстаўнікі Ф.-Ф. Марынеці, Дж. Северыні, У. Бачоні /Італія/, У. Маякоўскі, браты Д. і Н. Бурлюкі /Расія/.



X

ХАРОМЫ - у рускай архітэктуры: I. Комплекс жылых драўляных пабудоў, аб"яднаных пераходамі, сенцамі. 2. Жылы дом з прасторнымі пакоямі.

ХРАМ - зборны тэрмін для абазначэння будынкаў, дзе адбываецца адпраўленне рэлігійных абрадаў. У кожнай канкрэтнай рэлігіі Х. мае асобнае найменне: у хрысціянстве - царква, сабор, касцёл, кірха; у ісламе - мячэць; у іудаізме - сінагога. Будызм не ведае адзінага тэрміну; і кожная краіна мае свой: тэра у Японіі, віхара ў Шры-Ланкі, хурэ ў Манголіі і г.д.

ЦАРКВА /ад грэч. kyriakē oikia літар. божы дом/ - у архітэктуры: хрысціянская культавая пабудова, прызначаная для набажэнства і адпраўлення рэлігійных абрадаў, у праваслаўным хрысціянстве.

ЦВІНТАР - царкоўны двор ці агароджанае месца пры царкве. У некаторых выпадках Ц. называюць агароджаныя могілкі пры царкве.

ЦОКАЛЬ -/італьян. zoccolo літар. чаравік на драўлянай падэшве/ - падножжа будынка, помніка, калоны, звычайна ў выглядзе невысокай, ледзь выступаючай гарызантальнай пліты, якая размяшчаецца непасрэдна над фундаментам.

ЦЫТАДЭЛЬ /ад італьян. cittadella літар. маленькі горад/ - найбольш умацаваная цэнтральная частка горада ці крэпасці, найлепш прыстасаваная да самастойнай абароны, апошняе прыстанішча абаронцаў пры штурме.

ЦЭЛА /лац. cella пакой/ - наос, свяцілішча антычнага храма, унутранае памяшканне храма, дзе знаходзілася статуя бажаства.

Ч

ЧАКАНКА - I. Від манументальна-дэкаратыўнага і дэкаратыўна-ужытковага мастацтва. 2. Тэхніка выканання скульптурных твораў з тонкіх металічных лістаў, якія выкарыстоўваюцца галоўным чынам для дэкаратыўных кампазіцый. 3. Мастацкі твор выкананы ў тэхніцы Ч.

ЧАРАПІЦА - даўгавечны будаўнічы матэрыял, які выкарыстоўваецца для пакрыцця даху, вырабляюць з абпаленай гліны, цэментна-пясчанага раствору з наступнай цеплавой апрацоўкай вырабу.

ЧИНКВЕЧЭНТА /італьян. cinquecento/ – наймене ХУІ ст. на італьянскай мове, перыяд у развіцці культуры і мастацтва Італіі, які ахопліваe усё ХУІ ст. Гл.: А д р а д ж э н н е.

ЧЭРНЬ – І. У д э к а р а т ы ў н а-ужытковым м а с т а ц т в е тэхніка дэкарыравання металічных, пераважна сярэбраных вырабаў, калі выгравіраваны малюнак дапаўняецца асобым сплавам чорнага к о л е р у з наступным плаўленнем і шліфаваннем металу. 2. Вырабы, дэкарыраваныя вышэйпаказаным спосабам.

Ш

ШАРЖ – І. Разнавіднасць мастацкай г р а ф і к і, выява, часцей за ўсё п а р т р э т, у якім характэрныя рысы наўмысна перабольшаны і карыкатурна зменены ў мэтах стварэння сатырычнага або сяброўскага юмарыстычнага вобраза. 2. Асобны графічны твор адпаведнага роду.

ШАЦЁР – высокае завяршэнне х р а м а, з в а н і ц, в е ж а ў, ганкаў у выглядзе чатырох або шматграннай піраміды. Выкарыстоўваўся пераважна ў рускім драўляным і каменным д о й л і д с т в е.

ШКОЛА /лац. ад грэч. / – у гісторыі мастацтваў паняцце, якое азначае групу мастакоў або мастацкіх твораў, аб"яднаных агульнасцю стылістычнага, тэматычнага і тэхнічнага характару. У вузкім сэнсе Ш. разумеюць вучняў і паслядоўнікаў вялікага майстра. У дачыненні да мастацтва XIX ст. тэрмін набыў нацыянальнае тлумачэнне /"Руская Ш.", "Французская Ш."/.

ШПАЛЕРЫ –/ням. Spalier ад італьян. spalliera /– насценныя бязворсавыя дываны з сюжэтнымі і арнаментальнымі кампазіцыямі, вытканыя ўручную ў тэхніцы т.зв. рэпсавага ўточнага пераплятання. У Заходняй Еўропе выраблюцца з XII ст., на Беларусі – з канца ХУП – пачатку ХУШ ст. на ткацкіх мануфактурах кн. Радзівілаў у Нясвіжы, Міры, Карэлічах, Альбе, Камянцы, кн. Агінскіх у Слоніме на каралеўскіх мануфактурах у Гродне.

ШЧЫТ – у а р х і т э к т у р ы верхняя частка тарцовай сцяны збудавання, абмежаваня двумя схіламі даху і ў адрозненне ад ф р а н т о н а не аддзеленая ўнізе к а р н і з а м.



Э

ЭДЗІКУЛА – н і ш а, абрамленая парай к а л о н, п а ў – к а л о н або п і л я с т р а ў, увенчаных ф р а н т о н а м.

ЭКЛЕКТЫЗМ / ад грэч. eklektikós той, хто выбірае/ – у мастацтве механічнае злучэнне элементаў розных мастацкіх с т ы л я ў, звычайна ўзнікае ў перыяд заняпаду буйных мастацкіх напрамкаў. Э., які панаваў у архітэктуры ў сярэдзіне і другой палове XIX ст., адыграў важную ролю ў стварэнні асновы для зараджэння новага стылю "м а д э р н"

ЭКСЕДРА /грэч. exédra / – у антычнай архітэктуры: І. Паўкруглая н і ш а вялікага памеру, завершаная к о н х а й. 2. Паўкруглае збудаванне завершанае конхай з сядзеннямі ўздоўж сцен.

ЭКСЛІБРЫС /ад лац. ex libris – "з кніг"/ – кніжны знак, графічная кампазіцыя невялікіх памераў з абазначэннем імені уладальніка кнігі. Наклейваецца на ўнутраная старонцы вокладкі.

ЭКСПРЭСІЯНІЗМ /ад лац. expressio – выражэнне/ – адна з мастацкіх плыняў у в ы я ў л е н ч ы м м а с т а ц т в е Заходняй Еўропы і Амерыкі першай трэці XX ст. Э. узнік у Германіі з мастакоў групы "Мост" і суполкі "Сіні Коннік". Мастакі экспрэсіяністы замянялі паказ рэчаіснасці к а м п а з і ц ы я м і, якія выяўляюць індывідуальны свет мастака. Для экспрэсіяніста "знешняе ўражанне" /impression / выцяснялася "выражэннем" /expression/. Выява бачнага не выключалася, але "дух павінен браць верх над матэрыяй", мэтай творчасці павінен быць паказ "сутнасці" жыццёвых праў, таго, што знаходзіцца "за з"явай". Адзін з ідэолагаў нямецкага Э. Кірхнер лічыў Э. праяўленнем спецыфічных уласцівасцей германскай нацыі. Найбольш вядомымі экспрэсіяністамі былі Кірхнер, Марк, Какошка, Поль Клее, Хаім Суцін.

ЭЛІНІЗМ – перыяд у гісторыі культуры Усходняга Міжземнамор"я, Пярэдняй Азіі і Прычарнамор"я. Э. – сінтэз традыцый старажытнагрэчаскай і усходняй культур. Галоўныя цэнтры Э. – Афіны, востраў Радос, Александрыя ў Егіпце, Антыохія ў Сірыі, Пергам у Малай Азіі.

ЭМАЛЬ – у д э к а р а т ы ў н а – у ж ы т к о в ы м м а с т а ц т в е: І. Моцная шклопадобная маса для пакрыцця мастацкіх вырабаў з металу. 2. Невялікія мастацкія ювелірныя вырабы звычайна з золата,

медзі, дэкарыравання шматкаляровымі Э. сплавамі. На тэрыторыі Беларусі Э. вядомы з П-У ст.ст.

ЭНКАЎСТЫКА -/грэч. enkaustikē - палю, выпальваю/, васковы жывапіс - жывапіс васковымі фарбамі, малаўжывальнымі ў цяперашні час. У тэхніцы Э. выкананы славутыя фаюмскія партрэты.

ЭРКЕР /ням. Erker / - паўкруглы, трохвугольны, або шматгранны зашклёны выступ у сцяне будынка ў выглядзе закрытага балкона. Робіцца звычайна на некалькі паверхаў, часам на ўсю вышыню фасада. Мае дэкаратыўнае прызначэнне, павялічвае плошчу ўнутраных памяшканняў.

ЭСКІЗ /франц. esquisse / - накід, які фіксуе задуму мастацкага твора.

ЭХІН /грэч. echinos літар. - вожык/ - ніжняя частка дарычнай капітэлі ў выглядзе плоскай круглай падушкі.

ЭЦЮД /франц. étude - вывучэнне/ - у выяўленчым мастацтве: твор, які мастак выконвае з натуры з мэтай яе вывучэння. Звычайна служыць падрыхтоўчым матэрыялам пры рабоце над карцінай, скульптурай.

ЭЦЮДНІК /франц. etude - вывучэнне/ - спецыяльнае драўлянае прыстасаванне з прыладамі для жывапісу. Выкарыстоўваецца і непасрэдна пры жывапісных работах у якасці падстаўкі для размяшчэння карціны.

Я

ЯМЧУГА - у старажытнай фрэсцы светлы налет, які іншы раз з цягам часу з"яўляецца на яе паверхні.

ЯРУС - I. Адна з частак будынка, зрокава абмежаваная па вышыні; пераважна тэрмін ужываецца да будынкаў вежавага тыпу. 2. Галерэі або балконы ў глядзельнай зале, размешчаныя на рознай вышыні.



## ЛІТАРАТУРА

Архітэктура Беларусі: Энцыкл. давед./ Беларус. Энцыкл.; Рэдкал.: А.А. Воінаў і інш. - Мн., 1993.

Беларуска-рускі слоўнік. У 2 т./АН БССР. Ін-т мовазнаўства імя Я.Коласа/Рэд. К.К.Атраховіч (Кандрат Крапіва) - 2-е выд.перапрац. і дап. - Мн., 1988.

Беларускі пейзажны жывапіс. - Мн., 1982.

Беларускія мастакі XIX ст. - Мн., 1974.

Бердяев Н.А. Воля к культуре и воля к жизни //Творчество. - 1990.- № 4.

Бердяев Н.А. Кризис искусства. - М.Интерпринт, 1990.

Беспалый А.А. Белорусская акварель. - Мн., 1989.

Бойка У. Беларуская палітра дваццатага стагоддзя: Эцюды. - Мн., 1976.

Борьба тенденций в современном западном искусстве/Отв.ред.А.А.Карягин. - М., 1986.

В.Ф.Волошин, Зельтен Н.А. Словарь архитектурно-строительных терминов. - Мн., 1990.

Воинов А.А. История архитектуры Белоруссии: Учеб.для вузов по спец. "Архитектура". В 2-х т. - 2-е изд. перераб. и доп. - Мн., 1986 - 1987.

Всеобщая история архитектуры. В 12-ти т. - М., 1966 - 1977.

Вуек Я. Миры и утопии архитектуры XX в. - М., 1990.

Высоцкая Н.Ф. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII-XVIII стст. - Мн., 1984.

Выяўленчае мастацтва Беларусі /Пад рэд. Дробава Л.М. - Мн., 1977.

Гісторыя беларускага мастацтва. У 6-ці т. Мн., 1987-1992 т.I- 5.

Гройс Б. Соцреализм - авангард по сталински // Декоративное искусство СССР. - 1990 - № 5. - с. 35-37.

Дженск Ч. Язык архитектуры постмодернизма. - М., 1985.

Дробаў Л.М. Беларускія мастакі XIX стагоддзя. - Мн., 1971.

Дробов Л.Н. Живопись Белоруссии XIX -начала XX вв. - Мн., 1974.

Дробов Л.Н. Живопись Советской Белоруссии(1917-1975). - Мн., 1981.

Жывапіс Беларусі XII - XVIII стст.Альбом/Склад.Высоцкая Н.Ф., Карповіч Т.К. - Мн., 1980.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінск - Мн., 1988.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.: Мінск. -- Мн.,1988.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Віцебская вобласць.- Мн., 1985.
Зись А.Я. Виды искусства. М., 1979.
Елатомцева И.М. Монументальная летопись эпохи. - Мн., 1969.
Ермонская В.В. Что такое скульптура. 2-е изд. испр. и доп. - М., 1977.
Іканапіс Беларусі ХУ - ХУIII стагоддзяў. - Мн., 1992.
Искусство стран и народов мира. М., 1962-1981 Т.I-5. Краткая художественная энциклопедия.
История архитектуры Белоруссии. В 2-х тт. - Мн., 1982.
Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. - Мн., 1983.
Кацер М.С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Очерки. - Мн., 1969.
Кацер М.С. Народно-прикладное искусство Белоруссии: От первобытного общества до 1917 г. - Мн., 1972.
Ковтун Е. Что такое эстамп. - Л., 1963.
Конон В.М. От ренессанса к классицизму. - Мн., 1978.
Краткий словарь терминов изобразительного искусства. 4-е изд. доп. и перераб. - М., 1965.
Крючкова В.А. Социология искусства и модернизм. - М.,1979.
Крючкова В.А. Антиискусство. Теория и практика авангардистских движений. - М., 1985.
Кулагин А.Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. - Мн., 1981.
Кулагин А.Н. Архитектура и искусство рококо в Белоруссии. - Мн., 1989.
Кулагін А.М. Шэдэўры архітэктуры ракако: Гіст. - архіт.нарыс. - Мн., 1991.
Куликова И.С. Сюрреализм в искусстве. - М., 1970.
Куликова И.С. Экспрессионизм в искусстве. - М., 1978.
Куликова И.С. Философия и искусство модернизма. - М., 1980.
Лакотка А.І. Сілуэты старога Мінска: Нарысы драўлянай архітэктуры. - Мн., 1991.
Ластоўскі В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік.Выданне факсімільнага тыпу. - Мн., 1990.
Левко О.Н. Витебские изразцы ХIУ-ХУIII вв./Науч.ред.Г.В.Штыхов.- Мн., 1981.



Лукшин И.П. Современное изобразительное искусство Запада: О социально-эстет. и идеолог. сущности модернизма. - М., 1986.
Лысенко П.Ф. Города Туровской земли. - Мн., 1974.
Казимир Малевич. Художник и теоретик. Альбом. - М., 1990.
Мисюк А.Е. Белорусская советская портретная живопись 1917-1967.- Мн., 1986.
Модернизм: Анализ и критика основных направлений. - М., 1987.
Peter and Linda Murray. The Penguin Dictionary of Art and Artists. Fourth Edition. - London, 1980
Нацюрморт: творы беларускіх жывапісцаў. - Мн., 1982.
Пластыка Беларусі XII - ХУIII стст. Альбом/ Склад. Н.Ф.Высоцкая - Мн., 1983.
Полевой В. Другое искусство// Декоративное искусство СССР. - №I.- с. 4-7.
Помнікі старажытна-беларускай культуры. - Мн., 1984.
Популярная художественная энциклопедия: Архитектура, живопись, скульптура, графика, декоративное искусство. В 2-х кн. - М.,1986.
Прикладное искусство Белоруссии. - М., 1986.
Раманюк М. Беларускае народнае адзенне. - Мн., 1981.
Рейнгардт П.Я. Современное западное искусство. Борьба идей. - М., 1983.
Русско-белорусский словарь. В 2 т./ АН БССР. Ин-т языкознания им. Я.Коласа. Ред. К.К.Атрахович(Кандрат Крапива) - 2-е изд. перераб. и доп. - Мн., 1982.
Русов П.А. Деревянные сооружения Менска XIII-ХУII вв. (Опыт архит.-археол. реконструкции). - Мн., 1992.
Сахута Я.М. Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі і мастацкія промыслы. - Мн., 1977.
Сахута Я.М. Беларуская народная кераміка. - Мн., 1987.
Свод памятников истории и культуры Белоруссии. Брестская область.- Мн., 1990.
Сергачев С.А. Деревянная архитектура Белоруссии ХУI-XIX вв. - Мн., 1984.
Слоўнік беларускай мовы; Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуалізацыя. Словазмяненне. Пад рэд. М.Б.Бірылы. - Мн., 1987.
Слюнчанка В.Р. Барысаглебская (Каложская) царква ў Гродне: Гіст.- архіт. нарыс. - Мн., 1992

Современное западное искусство XX в. Проблемы и тенденции. - М., 1982.
Соц-арт// Декоративное искусство СССР. - 1990. - №12. - с. 1-46.
Суніца Я. Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва// Мастацтва Беларусі. - 1990. - №3. - с. 34-37.
Ткачоў М.А. Замкі Беларусі (XIII-XУIIст) . - Мн., 1977.
Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII-XУIII стст. - Мн., 1978.
Ткачев М.А. Замки Белоруссии. - Мн., 1987.
Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. - Мн., 1977-1984.
300 слов по изобразительному искусству. Сост. Л.А.Матевосян. - Ереван, 1978.
Трусаў А.А. Старонкі мураванай кнігі: Манументальная архітэктура эпохі феадалізму і капіталізму. - Мн., 1990.
Трызна Дз.С. Беларускія дываны і габелены. - Мн., 1981.
Турова В.В. Что такое гравюра. - М., 1986.
Тэмперны жывапіс Беларусі канца XУ-XУIII стагоддзяў. - Мн.,1986.
Фрейд З. Неудовлетворенность культурой// Искусство кино. -1990.- № 12. - с. 18-31.
Церашчатава В.В. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс: XI-XУIII стст. - Мн., 1986.
Чантурия В.А.История архитектуры Белоруссии. - Мн., 1977.
Чантурия В.А. Архитектурные памятники Белоруссии. - Мн.,1982.
Чантурия В.А. Атлас памятников архитектуры и мемориальных комплексов Белоруссии. - Мн., 1983.
Чантурия В.А. Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии. - Мн., 1987.
Чарняўская Т.І. Архітэктура Магілёва. - Мн., 1973.
Чарняўская Т.І. Архітэктура Віцебска. - Мн., 1980.
Чернявская Т.И., Петросова Е.Ю. Памятники архитектуры Минска XУII - начала XX в. - Мн., 1984.
Чарняўскі М.М. Вобраз чалавека ў найстаражытным мастацтве. // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. - 1973. - №4.
Шамрук А. Архітэктура // Мастацтва Беларусі. - 1991. - №1. - с. 59-65.
Шероцкий К. Софийский собор в Полоцке. - Пг., 1915.
Шматаў В.Ф. Беларуская станкавая графіка. - Мн., 1978.



Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XУI-XУIII стст. - Мн.,1984.
Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли. - Мн., 1978.
Штыхов Г.В. Древний Полоцк XI-XIII вв. - Мн., 1975.
Штыхаў Г.В. Захарэнка Л.Н. Старажытныя скарбы Беларусі. - Мн.,1971.
Штыхов Г.В. Киев и западные земли Руси в XI-XIII вв. - Мн.,1982.
Шунейка Я. Канспект па сучаснаму мастацтву // Мастацтва Беларусі.- 1991. - №1. - с. 24-30; №2. - с. 44-52; №3. - с. 12-14; №4. - с. 46-53; №5. - с. 49-56; №6. - с. 41-50.
Шчакаціхін М.М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. -Мн.,1928.
Энциклопедический словарь юного художника. - М., 1983.
Эстетика: Словарь. - М., 1989.
Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XУI - середины XУII в. - Мн., 1991.

Вучэбнае выданне

ЧЫКАЛАВА IРЫНА РАМУАЛЬДАЎНА

Тлумачальны слоўнIк тэрмIнаў па архIтэктуры, выяўленчым I дэкаратыўна-ужытковым мастацтве

ПадпIсана ў друк 28.09.93. Фармат 60 84 1/16. Папера друк. № 2. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 6,2. Ум. фарб.-адб. 5,9. Ум.-выд. арк. 5. Тыраж 100 экз. Заказ 626. Цана 100 руб.

Ратапрынт БДПУ. 220809. г. МIнск, вул. Савецкая, 18.